# ЗАКЛІК

МАСАВЫ
ШТОМЕСЯЧНЫ
ЛІТАРАТУРНА-
МАСТАЦКІ
ЧАСОПІС
АРГАНІЗАЦЫЙНАГА
КАМІТЭТУ
САЮЗУ
САВЕЦКІХ
ПІСЬМЕНЬНІКАУ
БССР

КНІГА 4

1933

## ЗЬМЕСТ № 4

*Стар.*



### Літаратурная вучоба



### Крытыка і бібліаграфія

ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ



# ЗАКЛІК

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ

МАСАВЫ ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ЧАСОПІС АРГАНІЗАЦЫЙНАГА КАМІТЭТУ САЮЗУ САВЕЦКІХ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ БССР

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ АНДРЭЯ АЛЕКСАНДРОВІЧА

4 КРАСАВІК 1933

ПРАЙШОЎ год пасьля гістарычнай пастановы ЦК УсеКП(б) пра перабудову пісьменьніцкіх арганізацый, прайшоў год работы адзінага саюзу Савецкіх пісьменьнікаў. Савецкая грамадзкасьць і ў першую чаргу самі пісьменьнікі маюць законнае права аглянуцца на пройдзены шлях і запытаць сябе—што прынёс гэты год для савецкай літаратуры, для сацыялістычнага будаўніцтва? Год у нашых умовах—вялікі час, а тым больш год, які завяршыў першую пяцігодку і стаў парогам пяцігодкі пабудовы бясклясавага сацыялістычнага грамадства. Гэты год прынёс краіне Саветаў вялізарныя посьпехі ў справе індустрыялізацыі краіны і сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, ён прынёс далейшы нябывалы росквіт усяе народнае гаспадаркі і пралетарскай культуры, ён прынёс яшчэ большую ўпэўненасьць у неперамажнасьці нашай справы—справы пабудовы сацыялізму. Ён прынёс поруч з гэтым сьмяротны прыгавор капіталістычнай сыстэме гаспадараньня, даказаў яшчэ раз няздольнасьць капіталізму вырашыць свае супярэчнасьці бяз новых войн, бяз новага азьвярэлага рабунку працоўных.

Гэты год і ў галіне савецкай літаратуры мае ў сваім актыве значныя станоўчыя здабыткі, на аснове рэалізацыі пастановы ЦК УсеКП(б) ад 23 красавіка. Для Савецкай Беларусі гэтыя здабыткі можна фармуляваць наступным:

1. Згуртаваньне абсалютнай большасьці пісьменьнікаў, прычым найбольш здольнай і таленавітай, навакол КП(б)Б і яе ЦК, рост творчай і палітычнай актыўнасьці пісьменьнікаў.

2. Рост ідэёва-мастацкага ўзроўню літаратуры ўсіх нацыянальнасьцяй, якія насяляюць БССР.

3. Узмацненьне рэвалюцыйнай пільнасьці і клясавай няпрымірымасьці да варожых нам плыняў і ўплываў у літаратуры.

І сапраўды нам, удзельнікам гарачых схватак 1929—1930 г.г. з нацдэмакратызмам у літаратуры, удзельнікам разгрому нацдэмакратызму, выкрываньня яго клясавых, кулацкіх карэньняў, разаблачэньня яго клясавага твару—твару буржуазнага рэстаўратара і агента інтэрвэнцыі—нам у гэтым годзе прышлося спаткацца на фронце літаратуры з актыўнымі рэшткамі таго-ж самага клясавага ворага. Ён выступіў супроць нас то з адчыненым забралам (Сідарэнка, Нікановіч), то прыкрываючыся новай маскай, узяўшы новую тактыку—тактыку ціхай сапы (Калюга, Русаковіч і інш.). У гэтым выступленьні мясцовых нацыяналістаў адбілася агульнае абвастрэньне клясавай барацьбы ў краіне, яны зьявіліся вынікам шалёнага супраціўленьня клясавага ворага разгорнутаму наступленьню сацыялізму па ўсяму фронту, у тым ліку і на вучастку літаратуры. Клясавы вораг—выбіты са сваіх пазыцый, разьбіты, але не дабіты, спрабаваў вытлумачыць пастанову ЦК як амністыю яго мінулай падрыўнай рабоце, як індульгенцыю на будучыя шкодніцтвы і здрадніцтвы. Прыкрываючы сваю антысавецкую дзейнасьць фальшыва-нацыянальным сьцягам, нацдэмы і іх падгалоскі—нацыянал—апартуністы спрабавалі адцягнуць частку пісьменьнікаў ад актыўнага падтрыманьня пляцформы савецкай улады, ад таго шляху, які паказаны пастановай ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б, як адзіны шлях далейшага росту і перамог савецкай літаратуры.

Ашалеўшыя дробныя буржуа—ідэолёгі падыхаючага кулацтва—спрабавалі проціпаставіць Аргкамітэту ССП БССР і яго лініі—сваю лінію і патрабаваньні свайго (разумеецца пераважнага) уплыву ў Аргкамітэце, што на справе азначала-б канцэнтрацыю нацыяналістычных элемэнтаў навакол часткі аргкамітэту. Атрымаўшы адпор гэтай сваёй справе, скарысталі прытупленьне клясавай пільнасьці асобных камуністаў і рэдакцыі часопісу „Беларусь калгасная“, каб ператварыць яе на некаторы час у трыбуну для сваіх антысавецкіх выступленьняў. Што-ж прапанавалі савецкай літаратуры ідэолёгі кулацтва?

Махровы нацдэм Сідарэнка ў рэваншысцкім чадзе выцягнуў на сьвет заіржавелую ідэю адраджэньня буржуазнай

беларускай культуры, як усеспасаючы рэцэпт для сучаснага пісьменьніка. Нікановіч і Лужанін (апошні ў творы „Рэцыдывіст“—у больш завуаляванай форме) паклёпніцкі абмалёўвалі стан гарадзкога жыхара, прапагандавалі ідэю багемы, басячаства, за імі ня бачаць і не хацелі бачыць новага, пралетарскага гораду, новага тыпу чалавека-ўдарніка. Калюга, Русаковіч—далі лінію на абмалёўку калектывізуючайся вёскі, як выміраючай, безнадзейнай, з вялізарнай прагнасьцю назад. Таўбін даваў напрамак—абмалёўваць Місісіпі, Італію—толькі далей ад Савецкага саюзу, ад нашай рэчаіснасьці.

Куды магла прывесьці гэта лінія?—Толькі да заняпаду, толькі да зьнішчэньня мастацкай літаратуры. „Уваскрасіць“ буржуазную культуру, у той час як буржуазны сьвет відавочна нават для больш цьвярозых розумаў самой буржуазіі—на закаце свайго існаваньня, на крутым спадзе крывой усяго гаспадарчага, палітычнага і культурнага жыцьця, уваскрасіць буржуазную беларускую культуру—калі рэшткі буржуазных, капіталістычных клясаў—раздушаны пераможным ходам сацыялізму і бездапаможна і нямінуча ідуць і пойдуць на дно—як мала трэба розуму і як многа шалёнай зьвярынай злобы супроць пралетарыяту, каб выставіць такі лёзунг. І як мала ўсё-ж надзей засталося ў клясавага ворага, калі ён рызыкнуў выступіць з такой забруджанай, усім вядомай зброяй, выкрытай яшчэ тры гады таму назад, рызыкнуў выступіць у той час, калі лепшыя, найбольш чэсныя прадстаўнікі буржуазнай літаратуры, сапраўдныя майстры слова—кідаюць лягер буржуазіі, пераходзяць да пралетарыяту менавіта таму, што ў лягеры буржуазіі—яны задыхнуцца, як мастакі, будуць атручаны шавінізмам, чалавеканенавісьніцтвам, папоўшчынай. Адзінай мэтай гэтага лёзунгу зьяўлялася, хоць чым-небудзь напаскудзіць, зрабіць хоць якую-небудзь перашкоду, паспрабаваць перагукнуцца са сваім прародзічам—кулаком і апутаць сотню-другую адсталых, хістаючыхся элемэнтаў у абарону кулацкай ідэолёгіі.

Рэшткі апалёгетаў буржуазнай рэстаўрацыі спрабавалі, захоўваючы для Галоўліту савецкую форму—(тэматыка, апошнія 2-3 радкі канца падзеі)—маляваць савецкую рэчаіснасьць „з задняга двара рэвалюцыі“. Рыць сваімі сьвінымі рыламі памыі і бруд, якога яшчэ, на жаль, не мала на нашай зямлі, ад якога мы яшчэ, на жаль, не змаглі яе ачысьціць—рыць з асалодаю і асьцервяненьнем і паказваць: „глядзеце, што робіцца пры савецкай уладзе“. „Шаноўныя чушкі“—не зразумелі таго, што іх заклік да гэткага няўдзячнага рамяства—наўрад ці завабіць каго-небудзь з сапраўдных мастакоў слова, якія апрача трэсак на будаўніцтве—бачаць і само будаўніцтва вялізарнейшых гмахаў новага жыцьця. Толькі ім—апаршывеўшым у нацыяналістычным ба-

лоце—не дадзена „падняць у гару рыла“, каб бачыць нашы перамогі і вялізарнейшае хараство і пекнату жыцьця і барацьбы краіны Саветаў за сацыялізм для сусьвету.

Нарэшце, прасачэце за формай, якую абралі аполёгеты кулацтва, мову, якой яны пісалі свае апошнія рэчы. Форма, якая трусьліва хавае сапраўдныя намеры, бо намеры подлыя, гадкія і, калі-б паказаць у натуры,—ад іх адвернецца нават ня зусім грэблівы чалавек, калі ён ня блізкая радня аўтару, мова ламаная, скаверканая, па-заяччу выкрунтасьлівая, каб яе не зразумеў чытач. І гэта выстаўлена было, як прыклад для савецкіх пісьменьнікаў. Яго маглі выставіць толькі тыя, што пазбавіліся розуму, азьвярэлыя рэшткі гінучых клясаў. І зусім зразумела, што абсалютная большасьць мастакоў слова з агідай адвярнуліся ад прахвостаў, якія бруднымі рукамі цягнуліся да стырна літаратуры, далі, выбачайце за выраз, у каршэнь, і застаючыся на правільным шляху адказалі: „Мядзьведзічамі“, „Бацькаўшчынай“, „Спалохам на загонах“, „Хлебнай зімой“—вялікімі палотнамі сацыялістычнага будаўніцтва. Гэта першы вынік нашага году.

Абвастрэньне клясавай барацьбы ў вядомай ступені заўсёды зьяўляецца пробным каменем, на якім правяраецца сапраўдная сьвядомасьць таго ці іншага грамадзкага дзеяча і яго адданасьць тэй справе, якую ён дэкляруе, як сваю крэўную. Усім добравядома, як на крутых паваротах гісторыі выляталі тыя, хто няёмка і выпадкова ўсе ўся на воз чужое клясы ў якасьці кіраўніка. Тое самае і з песьнярамі клясы і яе справы. Моманты найбольшага абвастрэньня клясавай барацьбы часьцяком выяўляюць хрыплыя, фальшывыя ноты прымазаўшыхся і поўны голас сапраўдных змагароў за перамогу сваёй, ці стаўшай сваёй клясы. Гэты год у савецкай Беларусі быў ураджайным годам у сэнсе выпуску літаратурнай прадукцыі. Да таго-ж—гэтая прадукцыя стаіць на значна вышэйшым узроўні мастацкасьці і ідэолёгічнай вытрыманасьці, яна значна больш наблізілася—мы гэта можам сьмела сьцьвярджаць—да актуальных задач сацыялістычнага будаўніцтва, хоць усё яшчэ адстае ад іх. Пытаньне сацыялістычнай рэканструкцыі вёскі ня толькі ў пралетарскай частцы пісьменьнікаў—Галавача, Лынькова, Александровіча, але і ў больш старэйшага пакаленьня—Колас, Крапіва—паднята на большую вышыню мастацкага паказу, з большай сілай і глыбінёй ускрываюцца тыя клясавыя зрухі, якія адбыліся і адбываюцца ў вёсцы. Тое самае і ў паказе нашых дасягненьняў у сацыялістычнай прамысловасьці. Нашы пісьменьнікі ў сваіх творах гэтага году паднімалі рад складанейшых і цікавейшых праблем і разьвязвалі іх ня толькі з мастацкім майстэрствам, але глыбокай праўдзівасьцю і разуменьнем клясавай сутнасьці іх. Тыя творы, якія началі друкавацца ў 1933 г. і якія такім чынам таксама зьяўля-

юцца плёнам мінулага году—паказваюць далейшы рост беларускай савецкай літаратуры і савецкай літаратуры нацыянальных меншасьцяй. Вось другі вынік прайшоўшага году.

Гэтыя нашы дасягненьні сталі магчымы толькі дзякуючы тэй мудрай палітыцы, якую праводзіць наша партыя. Зьнішчыўшы перагародкі паміж асобнымі пісьменьніцкімі арганізацыямі (а гэтыя перагародкі выраслалі ў бар'ер на шляху далейшага набліжэньня да нас шмат каго з таленавітых прадстаўнікоў старай пісьменьніцкай інтэлігенцыі)—партыя расчыніла шырока гарызонты творчасьці для тых, хто сапраўды імкнуўся працаваць разам з намі. На заклік партыі шчыра і аддана адгукнулася абсалютная большасьць пісьменьнікаў. Гэта спрыяла далейшаму перагляду, пераацэнцы сваіх старых шляхоў, грузу мінулага многімі пісьменьнікамі, гэта паскорыла іх перабудову. Гэтым тлумачыцца і вялікая палітычная актыўнасьць, якая ў гэтым годзе стала неадлучнай якасьцю пісьменьнікаў, якая побач з творчай актыўнасьцю зьяўляецца вярнейшым крытэрыем згуртаваньня пісьменьнікаў навокал ЦК нашай партыі, навокал генэральнай лініі партыі. Пастанова ЦК спрыяла далейшаму росту нашай пісьменьніцкай моладзі, у тым ліку на пэрыфэрыі, а гэта ў сваю чаргу яшчэ больш замацоўвала сувязь пісьменьніцкай арганізацыі з шырокімі коламі рабочых і калгасьнікаў. Гэта трэці вынік нашага году.

Разумеецца гэты год ня быў годам толькі перамог. У нашай рабоце былі і буйнейшыя прарывы; аб іх з дастатковай яскравасьцю гаварылася ў нашым друку, на пленуме Аргкамітэту, у дакладах выязджаючых брыгад. Вышэй мы паказалі ўжо, да чаго прывяло нас прытупленьне клясавай пільнасьці і гнілы лібэралізм у адносінах да клясавага ворага. Трэба сказаць, што і пасьля пленуму Аргкамітэту асобныя рэдакцыі („Полымя рэвалюцыі"—здачай у друк контррэвалюцыйных навэл Калюгі і Русаковіча, „Заклік"—надрукаваньнем артыкулу Глебкі з шэрагам памылковых палажэньняў і інш.) не разбілі адпаведных палітычных і практычных вынікаў з указаньняў ЦК КП(б)Б і пленуму Аргкамітэту. Гэта яшчэ раз сьведчыць, як моцна трэба змагацца з голай дэклярацыйнасьцю за сапраўдную бальшавіцкую пільнасьць і непрымірымасьць. Тым больш што клясавы вораг, як гэта мы бачым на прыкладзе Русаковіча, Калюгі, Таўбіна і інш. яшчэ больш шчыльна маскуе свой твар, спрабуючы слоўным туманам і фармальнымі выкрутасамі схаваць сапраўдныя намеры сваёй творчасьці.

Другі вялізарнейшы прарыў, які толькі ў апошні час пачаў крыху пакрывацца—гэта пастаноўка творчых пытаньняў, як па лініі самых пісьменьнікаў, так і па лініі вучобы моладзі. Партыя разам з ліквідацыяй ВОАПП'а выправіла

і памылкі яго творчага парадку—лявацкую рэцэптуру дыялектычна-матэрыялістычнага творчага мэтаду. Глыбокае растлумачэньне сацыялістычнага рэалізму—на жаль намі ня было сваячасова супроцьпастаўлена гэтай лявацкай рэцэптуры—амаль да апошняга часу. Толькі пленум Аргкамітэту і разгорнутая за ім падрыхтоўка да творчых нарад—унесла яснасьць у гэтым пытаньні.

Чаго мы пажадаем Саюзу Савецкіх пісьменьнікаў на другі год свайго існаваньня?

У першую чаргу—чыстаты ідэолёгічнага фронту. Нам разумеецца ня страшна нацыяналістычная пісаніна і нават контрабанда: мы моцны і непахісны, мы зможам выкрыць і разьнесьці ня толькі маску ворага, але і той твар, які схаваны за маскай. Із кожным месяцам, годам мы будзем яшчэ больш моцнымі, як бы не намагаліся нам перашкодзіць прахвосты і ілжэцы тыпу Калюг, Лужаніных, Русаковічаў. Аднак трэба памятаць, што і лыжка нацыяналістычнага дзёгцю можа атруціць паветра на нейкі час і прынесьці значную шкоду. А каб гэтага ня было, трэба высока трымаць сьцяг баявой рэвалюцыйнай пільнасьці, праводзіць сапраўдную барацьбу за прынцыпы пралетарскага інтэрнацыяналізму і ў літаратуры і ў выхаваўчай рабоце сярод пісьменьнікаў. Чаднай атруце шавінізму трэба супроцьпаставіць цьвярозы розум, супрацоўніцтва працоўных усіх нацыянальнасьцяй у барацьбе за сацыялізм, адначасова зьнішчаючы самі балёны атрутных газаў нацыяналізму. Пры гэтым трэба памятаць, што пакуль існуюць клясы—датуль будзе існаваць нацыяналізм, пакуль мы канчаткова не ліквідуем эксплёататарскія клясы—датуль яны будуць імкнуцца пусьціць у ход гэту атручаную зброю, асабліва напіраючы на яе на паасобных вучастках. Адным з такіх вучасткаў зьяўляецца літаратура. Далейшы рост беларускай савецкай літаратуры цалкам залежыць ад таго, ці будзе яна пабудавана на прынцыпах пралетарскага інтэрнацыяналізму.

Аднак трэба з усёй сілай падкрэсьліць, што, каб забясьпечыць далейшы рост літаратуры, трэба яшчэ большая работа пісьменьнікаў над сваімі творамі.

Кожная новая кніга, новы верш павінны быць на ступеньку вышэй сваіх папярэднікаў і па мастацкай форме і па глыбіні клясавага аналізу. А для гэтага трэба напружаная вучоба, і работа нават для высока таленавітага пісьменьніка. Калі мы кажам вучоба, мы разумеем ня толькі кніжную вучобу (яна таксама неабходна), але і вучобу на практычным удзеле ў сацбудаўніцтве. Гэтая вучоба дасьць магчымасьць ідэёва насыціць зьмест новых твораў, зрабіць больш глыбокімі абагульненьні і, ня губляючы праўдзівасьці, абмаляваць характэрных для нашай эпохі людзей і падзеі.

Справіцца з гэтай задачай нашы пісьменьнікі змогуць пры дзьвёх умовах, калі яны будуць стаяць на правільным шляху, і калі будзе сапраўды разгорнута творчая дапамога ім з боку Аргкамітэту Саюзу савецкіх пісьменьнікаў і праз яго з боку нашай крытыкі.—Крытыка ў мінулым годзе была вузкім месцам. Яна слаба дапамагала пісьменьніку.

І апошняе, што хочацца пажадаць Саюзу савецкіх пісьменьнікаў Беларусі—у яго гадавы юбілей—больш самакрытыкі—таварышы пісьменьнікі! Яна нам патрэбна ва ўсіх галінах нашай работы, як паветра.

Другі год Саюзу Савецкіх Пісьменьнікаў Беларусі—год барацьбы ўсёй масы пісьменьнікаў за Магнітабуды літаратуры, у тым ліку і драматургіі—асноўнага зьвяна на бліжэйшы адрэзак часу, год далейшых перамог пад кіраўніцтвам КП (б) Б і яе ЦК на фронце будаўніцтва нацыянальнай па форме і сацыялістычнай па зьместу культуры.

---

# АБ ПЕРАБУДОВЕ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІХ АРГАНІЗАЦЫЙ

*Пастанова ЦК ЎсеКП(б) ад 23 красавіка 1932 г.*

ЦК канстатуе, што за апошнія гады на аснове значных посьпехаў сацыялістычнага будаўніцтва дасягнуты вялікі як колькасны, так і якасны рост літаратуры і мастацтва.

Некалькі год таму назад, калі ў літаратуры ў наяўнасьці быў яшчэ значны ўплыў чужых элемэнтаў, якія асабліва ажывіліся ў першыя гады НЭП'у, а кадры пралетарскай літаратуры былі яшчэ слабыя, партыя, як мага дапамагала стварэньню і ўмацаваньню паасобных пралетарскіх арганізацый у галіне літаратуры і мастацтва ў мэтах умацаваньня пазыцый пралетарскіх пісьменьнікаў і працаўнічоў мастацтва.

У цяперашні час, калі пасьпелі ўжо вырасьці кадры пралетарскай літаратуры і мастацтва, вылучыліся новыя пісьменьнікі і мастакі з заводаў, фабрык, калгасаў, рамкі існуючых пралетарскіх літаратурнамастацкіх арганізацый (ВААПП, РАПП, РАМП і інш.) становяцца ўжо вузкімі і тармозяць сур'ёзны размах мастацкай творчасьці. Гэта акалічнасьць стварае небясьпеку ператварэньня гэтых арганізацый са сродкаў найвялікшай мабілізацыі савецкіх пісьменьнікаў і мастакоў вакол задач сацыялістычнага будаўніцтва ў сродак культываваньня гуртковай замкнутасьці, адрыву ад палітычных задач сучаснасьці і ад значных груп пісьменьнікаў і мастакоў, якія спачуваюць сацыялістычнаму будаўнітву.

Адсюль неабходнасьць адпаведнай перабудовы літаратурна-мастацкіх арганізацый і пашырэньня базы іх работы.

Выходзячы з гэтага, ЦК УсеКП(б) пастанаўляе:

1. Ліквідаваць асацыяцыю пралетарскіх пісьменьнікаў (ВААПП, РАПП);

2. Аб'яднаць усіх пісьменьнікаў, якія падтрымліваюць пляцформу савецкай улады і імкнуцца прымаць удзел у сацыялістычным будаўніцтве ў адзіны саюз савецкіх пісьменьнікаў з камуністычнай фракцыяй у ім.

Правесьці аналёгічную зьмену па лініі іншых відаў мастацтваў.

3. Даручыць аргбюро распрацаваць практычныя меры па правядзеньню гэтай пастановы.

*ЦК УсеКП(б)*

ПЛАТОН ГАЛАВАЧ

# СВАЁ ЎЛАСНАЕ

*Спэцыяльна апрацаваны для час. „Заклік" урывак з аповесьці „Праз гады".*

... і тады, узіраючыся ў затуманеную далячынь, Адаеўскі заўважыў наперадзе ад сябе чалавека. Далячынь ружавела краямі цёмнага, захмаранага неба і постаць чалавека ў вячэрнім змроку вырысоўвалася над полем як застыглая, няжывая.

Над полем хадзілі мяккія і халаднаватыя веснавыя вятры. У лагчынах стаяла халодная празрыстая вада. А вакол, як хапае вока, шэрылася высыхаючы зямля, паблісквала вузкімі паскамі вады ў разорах, ды шчацінілася леташнім жытнішчам. А пасярод зямлі, як укопаны, нярухома стаяў на адным месцы чалавек. Нешта неабдымна вялікае прышло ў чалавека ад шырокага палявога прастору і вячэрняй цішыні, узяла чалавека ўчэпістымі рукамі сваімі за самае балючае, спыніла яго тут ось сярод поля і тады гэты чалавек як ніколі яшчэ блізка ўбачыў самога сябе, зразумеў сваю прыкованасьць да зямлі, сваю залежнасьць ад яе і сваё бясьсільле. Дзяцінства, юнацтва, маладосьць, сілы ўсе,—усё аддадзена ёй.

Вецер дуў проста ў твар і апальваў вочы гострым холадам. А вочы насустрач ветру шырыліся зрэнкамі і ледзьледзь туманіліся. Потым з самага нутра, разам з глыбокім уздыхам падымаўся, расьпіраючы грудзі, холад, ад якога балюча ныла сэрца, уздрыгвала ўсё цела, а перад вачыма шырылася, расплывалася ў шэрані змрокаў і пачынала гойдацца рабацільнем шнуроў, зямля. На вочы тады наплывалі гарачыя празрыстыя кроплі і зусім засланялі сабою і поле і ружовую далячынь.

Чалавек з сілай зажмурыў вочы, працягла глыбока ўздыхнуў, інстынктыўна адчуў блізкую прысутнасьць староньняга, уздрыгануў і не азіраючыся пашоў поплавам у бок дарогі.

Абапал дарогі стаялі нізкія, голыя кусты алешніку. Чалавек ішоў паміж кустоў шырока, але няўпэўнена ступаючы па вільготнай веснавой дарозе, пакідаючы на ёй шырокія сьляды ад лапцей. На нагах у чалавека стаптаныя лапці. Над лапцямі матляюцца шырокія, свайго сукна, шмат разоў лапляныя, штаны. На плячах уздуваецца і горбіцца кароткая, лёгкая сьвіта.

Чалавек ня чуў за сабою чужых ног і ні аднаго разу не азірнуўся назад, аж пакуль Адаеўскі насьціг яго.

— Араць хутка паедуць людзі,—сказаў Адаеўскі, заходзячы з б.ку, пазнаючы селяніна.—Добрага вечару вам, дзядзька Агей.

— А-а?—плечы ў Агея спуджана ўздрыганулі, ён адразу, спыніўся, адступіў на крок у бок і тады зьдзіўлена глянуў у твар Адаеўскаму.

— З добрым вечарам і вас,—адказаў ён праз нейкі час.

— Поля глядзелі, дзядзька Агей?

— Поля.—Агей маўчаў.—Глядзеў. Можа і давядзецца яшчэ сеяць.

— А чаму-ж не?—зьдзівіўся Адаеўскі.

— Ні маё яно, таму... чужое яшчэ, панскае. От сэрца маё ірвецца, муціць праз гэта, чалавеча. Каб-жа мне, чалавеча, хоць кавалачак свайго поля, га?—Ён спыніўся, расхінуў у бакі свае рукі і, просячы поглядам, таропка загаварыў да Адаеўскага:

— Ну, хіба-ж бо я ўжо такі богам пракляты чалавек, каб век па сьвету валацугай цягацца? Каб свайго ня мець? Каб сілы свае па кавалку на чужым раскідаць? Ты от скажы, чалавеча, як-жа гэта, га? Я бадзяюся як валацуга і сыны будуць бадзяцца, ці што? га?—Агей наблізіў свой твар да Адаеўскага. Вочы гарэлі. Твар чырванеў. Вецер расхіснуўшы сьвіту, ўздуваў пачосную сарочку і тады агалялася з пад сарочкі загарэлая, аброслая грудзіна. А рукі то сьціскалі ў кулакі пальцы, то вяла абвісалі ўздоўж цела.—Як-жа гэта?—пытаў ён.-У бацькі так от жыў, бульбінай давячыся, сорамна было ў людзі выйсьці, бо голы, босы. Як жаніўся, не хацела дзеўка замуж ісьці, хоць і любіліся з ёй. Але неяк яно

пайшла, думалася—купіцца зямля. А цяцер два сыны, адзін крывы, калодай нагу зламала летась у дзялянцы, а я што-ж зноў так? Тры гады прайшло, ня выплаціў, ну ня выплаціў я зямлі, каб-жа-ж было чым выплаціць. Хіба-ж-бы я тады чакаў? А то дзе-ж я вазьму? Што было—на сына аддаў, лячыў нагу тую, зламаную. Га! Дык як-жа гэта? Я-ж як сабака перад ім валяўся, чарвяком на падлозе каля ног у яго поўзаў, боты яму цалаваў, прасіў, каб яшчэ не адбіраў, каб гэты мой кавалак застаўся мне, каб маім ён быў... Яму тошна?...

Рукі Агеевы задрыжэлі, ён заміргаў вачыма і, крута рвануўшыся з месца, пашоў па дарозе конскім сьледам, спатыкаючыся, пяўпэўнена ступаючы лапцямі ў вільготны дарожны пясок. А вочы зноў шырока і зьдзіўлена пазіралі ў палявы затуманены прастор і перад вачыма пачынала гойдацца шэрая зямля.

Як зайшоў быў ён у дзень у панскі пакой, пан нездаволена зморчшыўся на нясьмелы мужычы крок і растаптаныя мокрыя лапці і адвярнуўся да стала прыкурыць. Потым сказаў:

— Што-ж ты гэта сабе думаеш? Я табе тады на беднасьць тваю ўважыў і на паслугу тваю, а ты што-ж гэта? Тры гады прайшло, а ты ніводнай капейкі ня выплаціў. Я зямлі сваёй дарэмна раздаваць ня зьбіраюся. Гэтай вясной зямлі сеяць ня будзеш...

Пан курыў седзячы ў круглым крэсьлі і палёганьку гушкаўся назад, наперад, назад, наперад... Агей, як стаяў, пахаладзеў увесь, сьперла ў грудзёх у яго, памутнела ў ваччу і ён як стаяў, кінуўся пану ў ногі.

— Ня згубеце, панок. Сын у мяне, крывы сын, нагу зламаў, на яго грошы аддаў. А я ўсяго лішуся, ды заплачу. Толькі лецейка адно пачакайце, тады ўсё выплачу. Міласьці вашай прашу... куды-ж без зямлі мне, няма мне тады ходу ў жыцьці... лепш рукі мне адсекчы, чым без зямлі быць.

Даўгі, шырокаплечы мужчына горбіўся на падлозе каля панскіх ног, соўгаў па падлозе ілбом, хапаўся рукамі за гладкія бліскучыя халявы панскіх ботаў, лавіў панскую руку і тыкаў у яе свае патрэсканыя, шурпатыя губы.

— Ня губеце, панок, адно лецейка толькі пачакайце...

Крыху зьдзіўлены і зьбянтэжаны пан хацеў падняцца з крэсла і вызваліць з Агеявых рук свае ногі, а Агей трымаў іх горбячы шырокую сьпіну.

— Ну! Не валяйся-ж ты, як чарвяк... тошна мне...

Пан упёрся рукамі ў шырокую Агеяву сьпіну, вызваліў з ягоных рук свае ногі і таропка пашоў у другі пакой. Тады Агей узьняўся на каленкі і разгублена пазіраў навакол.

Каля стала перад ім гойдалася апусьцелае крэсла. У баку, на падлозе валялася ягоная, Агеява, шапка кучомка. Ён узяў шапку, зьбянтэжана ўзьняўся з падлогі і нясьмела, задам пасунуўся да дзьвярэй, пакідаючы на сухой чыстай падлозе свае сьляды.

З другога пакою вышаў панскі аканом.

— Ну ідзі, ідзі, сей яшчэ гэты год з панскае міласьці, паслугу тваю ён памятуе, але калі ня выплаціш сёлета, не пабачыш тады болей поля гэтага як сваіх вушэй.

Агей нізка схіліўся, схапіў пухлую валасатую аканомаву руку, засоўгаў па ёй губамі.

— Божая ласка на вас, панок, выратавалі... Век памятаць буду...

— Ідзі, ідзі ўжо,

Аканом вырваў руку і расчыніў перад Агеем дзьверы

З двара дыхнулв сьвежасьцю, веснавымі пахамі. Галава закружылася, памутнела ў ваччу.

З панскага двара Агей і пашоў проста ў поле.

— Як чарвяк, я перад ім поўзаў,—сказаў Агей.—Прасіў, маліў. І от зноў яно маё, гэтае поле. Упрасіў, зьлітаваўся...

Шурпатай далоньню ён выцер вочы, расьцёр на шчацэ сьлязу.

— Рукі яму цалаваў, ногі, як-бы я й ні чалавек зусім...

І зноў пашоў Агей, няўпэўнена ступаючы растаптанымі лапцямі ў вільготны пясок веснавой дарогі. На лапцях матляліся канцамі стаптаныя акраўкі з падплёту, зьлёгку шлёгалі раз за разам то па нагах, то па пяску.

*

А гэта здарылася значна пазьней, аж праз некалькі год пасьля расказанага выпадку.

Жыў Агей ня ў хаце, а ў клеці цеснай. А як ажаніўся яшчэ сын старэйшы, зрабілася ў клеці, што няма дзе й павярнуцца. Але жылі, церліся адно аб адно сьпінамі, калі зьбіраліся ўсе ў хаце.

З гэтай прычыны і захацелася Агею паставіць сабе новую хату.

Мінула яшчэ тры гады. Над новым хатнім зрубам ставілі кроквы. Сілы Агеевы за гэтыя гады сьцягаліся, растрэсьліся па полю, ды па лесе, як цягаў бярвеньні. З гэтай прычыны і здалася яму задужа цяжкай кроквіна. Ён хіснуўся разам з ёю ў бок, трапіў нагой на бярвяно, але нага пакаўзнулася і хапаючыся рукамі за паветра, паляцеў Агей на зямлю. Упаў цяжка, плашмя, грудзямі на бярвяно і толькі войкнуў, а тады доўга ляжаў бяз памяці пад зрубам на сьвежых хваёвых трэсках.

Сыны адлілі бацьку халоднай вадой і пад вечар павезьлі ў горад у больніцу. Ад таго часу як везьлі яго ў больніцу, засталіся ў Агеевай памяці чырвоныя агні, якія бачыў ён нібы праз сон. Калёсы тарахцелі па шашы і змоўклі. Ноч была. Наперадзе цераз шашу прабеглі агні і тады зноў затарахцелі калёсы і зноў Агей больш нічога не памятае.

З больніцы вярнуўся праз тры месяцы. Яшчэ два месяцы ляжаў дома. Пастарэў, крукам сагнуўся ў шырокіх і моцных некалі плячах.

Тым часам перайшлі з клеці ў новую хату, а ў клеці паставілі дзежкі, карыты, жлукта, ступу ды другія гаспадарскія прылады. І пачалося было нешта лепшае, ды толькі ненадоўга. Ходзячы па двару, па хаце, заўважыў Агей, што пазіраюць сыны друг на дружку скоса, не па людзкаму. І адразу разгадаў іх. Зразумеў, што як збудавалі новую хату, так і стала яна паміж ягонымі сынамі сьцяной, разьдзяліла іх, кінула праміж іх гарачага вугальля.

Бацька сачыў і маўчаў. Маўчалі пакуль і сыны, але ў маўчанцы гэтай яшчэ больш распальваўся паміж імі нядобры агонь. Не маглі яны ўжо цяпер адзін з другім пагаварыць, каб не бурчэць, каб ня было ў ваччу ў абодвух лютай злосьці.

І пад восень Агей аддзяляў старэйшага свайго сына.

Жыў Агей на водшыбе ад вёскі, на купленай панскай зямлі. Каб не сарамаціць сябе перад людзьмі, на дзяльбу не паклікаў ён нікога з чужых, спадзяваўся, што ўсё абыйдзецца добра. Зранку пасьнедаўшы дзялілі дабро ў клеці. Ён сам даставаў гарцам з дзежачак дабро і перасыпаў

у мяшкі, два гарцы старэйшаму, тры гарцы на долю меншага сына і на сваю долю.

Сыны стаялі ў клеці, сачылі за бацькавымі рухамі і перакідаліся злоснай брыдкай лаянкай, не пазіраючы адзін на аднаго. Як даходзіла лаянка да таго, што вось-вось кінуцца яны біцца, бацька ўзьнімаўся над мяшком і, трымаючы ў руцэ гарнец, злосна махаў гарцам перад сынамі, сунімаў іх.

Як кончылі дзяліць, паставілі куртатыя няпоўныя мяшкі паасобку ў два куты і пашлі палуднаваць. Бацька еў седзячы ў куце. Сыны ня елі.

— Еш! Не сядзі як мурмоль!—сказаў бацька да старэйшага. А потым зірнуў з-пад ілба на малодшага і на яго крыкнуў з яшчэ большай злосьцю:

— А ты-ж чаго не ясі, прасіць мо‘буду, думаеш?.. Каб вы падавіліся...

— Без цябе пад‘ем,—адказаў старэйшы сын, а ты справу канчай, чаго мучыш мяне маўчанкай? Хату каму аддасі, кажы?—закрычаў ён і ўсхапіўся з-за стала.—Чаго ты хаваешся? Думаеш я ня ведаю, што ты надумаўся мяне ў клець вытурыць? Ведаю! Ня вытурыш!.. Не пайду я ў клецы!.. Мая хата гэта! Я на яе лес цягаў, праз яе сілы пагубіў.

— Ты! Ты!..

Бацька ня змог ад злосьці знайсьці патрэбных слоў. Шырокай далоньню рук ён схапіўся за край стала і ўвесь трасучыся налёг на стол, перагнуўся цераз яго ў бок да сына.

— Ты! А я дзе свае сілы дзеў, га? Ты яе паставіў? С-сукін сын!.. Мая хата, сам я ў хаце буду жыць, а ты яшчэ дзякуй скажы, што ў клець пушчу...

Сын зьбялеў, потым твар ягоны счырванеў плямамі. Ногі ад злосьці і крыўды затрэсьліся, захадзілі па сталу рукі. Твар чырванеў, чарнеў. Хацеў нешта крыкнуць, але заляскаталі зубы, і ён, ухапіўшыся за стол, пасунуў яго на бацьку, стукнуўшы з разгону кантам стала ў бацькаў жывот.

Са стала паляцела, перакуліўшыся, міска з варывам, лінула гарачай стравай бацьку на грудзі.

Абясьсілены бацька сеў, тады стол націснуў яму на грудзі. Спуджаны ён хапаўся абясьсіленымі рукамі за край стала, каб адштурхнуць яго ад сябе, і, трацячы сілы, абсоў-

ваўся пад стол. Вось ужо гострым кантам стол муляе падбародак. Упіраецца бацька рукамі ў стол, мяркуе прасунуць голаву і выпаўзьці з-пад стала, але абясьсіленыя рукі здрадзілі, не пасьпеў адпіхнуць стала, і ён націснуў кантам на горла. Тады меншы сын азьвярэла кінуўся на брата, схапіў яго за грудзі і абваліў на падлогу. На падлозе сьціскаў абедзьвюма рукамі горла, ціснуў локцямі ў грудзі. Брат здушана глуха хроп, потым, упіраючыся ў падлогу нагамі і локцямі, папоўз цераз хату на сьпіне, нясучы на сабе брата, і, як данёс да парога, злаўчыўся, стукнуў каленам пад жывот брата, крутнуўся і скінуў яго з сябе, а тады ашалела ірвануў яго за валасы, пачаў біць галавой аб гліняную падлогу, а другой рукой зьбіраў пальцамі каўнер кашулі і, скрыгаючы над братавым тварам зубамі, скручваў каўнер, душыў яго і сунуў перад сабою па падлозе ў кут пад услон.

Як стукнуўся крывы галавою аб ножку ўслонаву, павёў рукой па зямлі, ашчаперыў пальцамі рог ад сахара і з разгону варсануў брату ў бок пад сэрца. Брат яшчэ раз драпануў пальцамі па горле ў яго і, ня выпускаючы з пальцаў каўняра кашулі, выгнуўся плячыма, уздыбіўся і цяжка ўпаў вобзем на халодную гліняную падлогу. А крывы з перапуду папоўз тады з-пад брата на локцях, узьняўся, сеў абясьсілены, абапёршыся рукамі на падлогу, пасядзеў хвіліну, пугліва азіраючыся па баках, а потым кінуўся з сянец у двор, на агароды і праз гароды ў кусты, што за гумнамі.

* * *

Праз чатыры дні сына Агеевага злавілі стражнікі ў язвох у лесе. Даведаўся Агей пра гэта ад вураднікa, які прыехаў, каб яшчэ раз зьняць з яго дапрос.

Вураднік сядзеў за сталом, курыў і раз за разам перапытваў Агея. Агей гаварыў, сьпяшаючыся, блытана апавядаў пра дзяльбу і між гаворкі падоўгу піў халодную ваду з высокай бляшанай конаўкі.

Як павечарэла, вураднік паехаў. Выйшаў ён з хаты, захаваўшы паперы і не зачыніўшы дзьвярэй, сьледам за ім пашоў Агей і, калі вураднік сеў на каня, асьмеліўся запытаць.

— Дык што-ж яму будзе, сыну майму?

Урааднік працягла сьвіснуў, шукаючы нагой стрэмя, а потым як нашоў стрэмя і прыладзіўся да сядла, сказаў:

— Цяпер сыну твайму дарога будзе далёкая. З воласьці ў горад, а адтуль ужо аж да самай сібірскай катаргі. Так-то...

Ураднік паехаў. Агей доўга яшчэ стаяў на пяску пасярод двара з абвіслымі рукамі і абмяркоўваючы нешта цяжкае, блудзіў застыглым поглядам дзесьці ў чужым далёкім полі, нічога ня бачачы наперадзе ад сябе. Доўга стаяў ён так, потым скрануўся з месца і таропка пашоў з двара на шлях. На шляху спыніўся, пазіраючы ў бок куды паехаў ураднік. У тым баку далёка ўжо слупам курыў пад ураднікавым канём пыл, а далей гусьцеў на небасхіле паскай бор, затуманены сіневатым дымком адлегласьці.

Калі разьвеяўся пыл, узьняты ураднікавым канём, пашоў Агей назад у двор і тады зьмеціў, што на дварэ няпрыкметна ўсталяваўся вечар.

На захадзе з самага краю неба патухала чырвань, кінутая схаладзелым восеньскім сонцам. Сонца даўно адышло за небасхіл. З-за лесу, з поўначы, цяжка ўздымалася і паўзла па небу, забіраючы ўсё больш і больш прастор яго, цёмная хмара. З вады над рэчкай падымаўся туман і павольна разыходзіўся па лугох, густа наматваючыся вакол стагоў. У лагчыне ў лугох нараджаліся змрокі і няпрыкметна распаўзаліся па ўсяму шырокаму палявому прастору. Зьмяркалася.

Агей пашоў у бок клеці і там, не валодаючы сабою, апусьціўся на бярвяно. Як сеў, заўважыў, што навакол дужа-ж ціха, як ніколі. Пачаў услухоўвацца ў цішыню і палахліва азіраючыся навакол сябе, спаткаўся спалоханым поглядам з ашчэранай пустэчай хатніх дзьвярэй. Дзьверы, як выйшаў, пакінуў нахлач і цяпер хата паглынала ўсю ягоную ўвагу сваёй пустэчай. Нікога там. Аднаго сына пахаваў. Другога павядуць у Сібір. Нявестка пайшла ў двор да бацькоў. Ён адзін цяпер, адзінцом павінен будзе дажываць свой век.

Сьцямнела.

У далёкім небе заіскрыліся халодныя, буйныя зоры.

— Вось цяпер і ўсё маё,—упаўголаса сам сабе сказаў Агей.—І поле маё, і хата, і ўсё дабро... Ну жыві-ж, чаго-ж ты!—гаварыў ён, нібы да кагось староньняга.—Карыстайся, задаволься, усё-ж яно цяпер тваё ўласнае, ніхто не адбярэ... Поля... хата... клець... Як у мяшку ў завязаным.

У галаве грукат і страшэнная гарачыня, вось-вось распадзецца галава ад гарачыні. А на плечы цісьне нешта цяжкае і старашнае. Страх халоднымі пальцамі казыча цела, дабіраецца да горла, душыць. На ілбу выступіў пот.

Хутчэй на зямлю. Агей ссунуўся з бярвяна і выцягнуўшыся лёг на зямлю, тварам у мураву. Зямля настыглая Цела на хвіліну сьвяжэе, лягчэй дыхаецца. Агей ловіць. паветра на поўны рот. А потым гарачка пачынаецца зноў. Зноў шчэміць скроні, зьвініць у вушшу і нешта вялізнае навальваецца на плечы і цісьне да зямлі, цісьне і шэпча-

— Ну, чаго-ж ты? Хіба табе мала яшчэ? Цяпер-жа ўсё тваё, тваё, тваё...

— Маё, маё, ўсё маё—шэпча ў адказ яму Агей, а той зьверху душыць, цісьне шчыльней да зямлі грудзямі і бесьперастанна шэпча:

— тваё, тваё, тваё...

Агей хоча ўзьняцца з зямлі, драпае яе пальцамі, клычыц і поўнымі жменямі ірве з зямлі з карэньнем густую мураву Потым падабраў пад сябе каленкі, узьняўся і стаяў рака насупроць хаты.

З вачэй выпаўзалі буйныя кроплі, апальвалі шчокі кал вачэй, паўзьлі ўніз і халадзелі, дапаўзаючы да губ сваё салёнасьцю. Потым твар скрывіўся хітраватай усьмешкай.

— Тэ-тэ-тэ-тэ, я цябе перахітру,—зашаптаў Агей і раптам крадучыся папоўз па двару да хаты. Каля ганку ў сенцах пастаяў, прыслухаўся, потым кінуўся ў сенцы, намацаў у цемры буталь, адкаркаваў яго і выліў з бутля за парог у хату газу. Не пасьпела газа расплысьціся па памост як ён, седзячы на карачках, запаліў сернічку і тыркануў яе ў падлогу. На падлозе палыхнулі сінія аганькі, замітусіліся і пабеглі ў бакі па памосту, па смольных хваёвых дошках. Потым разгуляўшыся, сыйшліся талакою і паціху падкраўшыся, разам паласой жоўтага густога полымя лізанул хатнюю сьцяну і парог, апаліўшы Агею твар. Як разбуджаны, усхапіўся Агей, кінуўся з хаты ў сенцы, зьняў з крука лейцы і сьпяшаючыся пайшоў у хлеў.

Лейцы туга зашмаргнуліся на чатырохкантовай бэльцы. Тады ён зьвязаў у вузел канцы лейчын, зрабіў пятлю і ўзьняўшыся на цыпачках, прасунуў у пятлю галаву.

Полымя палыхнула з хатнік вокан і па сьцяне папаўзло пад страху. У хляве завіднела. У вёсцы нехта спуджана крыкнуў. Яшчэ і яшчэ. Потым ад вёскі папл ӯў крыклівы гоман. Галасы гусьцелі, пасіляліся.

З двара ўцякала ў поле мятусьлівымі ценямі цішыня. Полымя гульліва поўзала па сьцяне, кідалася ўгару да саламянай страхі, трашчала, пагражаючы ёй і нібы знарок не чапала яе.

Агей пастаяў хвілінку, услухоўваючыся ў трэск агня, і сударгава кінуўся з калодачкі, на якой стаяў. Як кінуўся, узмахнуў рукамі, інстынктыўна хацеў схапіцца за лейчыны і паслабіць пятлю.

Лейчыны, падчапіўшы бараду, дзерганулі яе і сьціснуўшы горла, пацяглі галаву ўгару да бэлькі.

Перад вачыма густа заалела мятусьлівае полымя і зьнікла Блізкія людзкія галасы адразу абарваліся.

Цела само яшчэ колькі разоў скурчылася, выгінаючыс і павісла, павалі гушкаючыся на туга нацягнутых лейчынах.

*Менск*
*30 сакавіка 1933 г.*

# ПАГРАНІЧНАЯ ВЯСНА

## 1. Клясавая сутнасьць зялёнага гоману

Стаю ў бярэзьніку на беразе мяжы
І хваль вясны я чую пераклічку.
Зялёны гоман моўчкі, таямніча
На колах сполаху—
да нас перабяжыць.

Зямля савецкая крынічнаю расой
Акропіць ласкава пялёсткавыя крыльлі.
Братэрскай дружбаю,
шасьценьнем,
між сабой—
Пра становішча краіны гаварылі.

Я—
прыкладаю вуха да зямлі,
Калісь рабілі гэта прадзеды ў дазоры,—
І чую гутарку,
а гутарку вялі—
Заходня-беларускія прасторы.

Гаварылі віленскія гоні:
— Ой, вясна!
Кроў і сьлёзы нас палоняць,
Ой, вясна!
Вецер поле барануе,
Ой, вясна!
Голад з пошасьцю пануе,
Ой, вясна!

Шнурам петлі на прысадах,
Ой, вясна!
Славяць карныя атрады.
Ой, вясна!

Вясна гарачая, сярдзітая вясна,
Зарэе ўздыбленай трывогай над зямлёю.
Вось як рукой падаць,
а гэта за мяжою—
Атручана крывёю цаліна.

Сівога веку сьвішча прыгавор:
— Хто квапіцца прасіць і хлеба і работы—
Гуляй, французскі звон варшаўскіх шпор,
Шляхі ўсьцілай касьцьмі,
як грэблю на балотах.

Бярозка стромкая, сасонка, нават куст,
Жывыя сьведкі дзікага разгулу,—
Шуршацца роспаччу жабрацтва і пакут
Над грэбнем хваль—
Падземных грозных гулаў.

І чуе сэрца гул падземны:
— Сей агонь!
Падымайся пад'ярэмны,
Сей агонь!
У далінах Віслы, Шары—
Сей агонь!
Край зьбярэ ўраджай пажараў.
Сей агонь!
Больш агню—запалу болей,
Сей агонь!
Воля родзіцца ў падпольлі!
Сей агонь!
Сей, жменяю шчодраю!
Падпаліш корань дрэву—
Яно счарнее, зглуміцца ў агні.
І гул зямлі і гоман гулкіх ніў
Сплятаюцца ў вянок
Цярплівасьці
і гневу!

## 2. Мітынг першай баразны

Я моўчкі стаў на пагранічны-ўзгор'і,
Ў вачох снагліцца крыўда і туга.
Ахвяра чорных дзён
Жандарскае гісторыі—
Краіна—
голаду, бяспраў'я, ланцуга.

А праз лясы,
Праз горы
І вазёры—
Ходзіць маці згорбленая горам,
Маці згінуўшых сыноў.

І шукае—
Ўдзень і ўноч
Па сьвету,
Гэтак змучаная, скрыўджаная гэтак,
Маці згінуўшых сыноў.

А шуміць ля возера аер,
А возера хвалюецца прыбоем:
— Ты вытры сьлёзы горкія свае,
Твае сыны спаткаюцца з табою.

Як зарава—вакол зарыцца рунь,
Чырвоным колерам—зарыцца як ніколі!
Спаткаць узброена гарачую пару
Твае сыны гартуюцца ў падпольлі.

І без сярпа і без касы-нажа,
Няўжо выходзілі ў жніво і касавіцу?
А закрасуе ўсенявольніцкі ўраджай
Агнямі вызваленчай навальніцы.

І сьлёз тваіх гарачае зярнё
Узбожваецца руньню агнявою...
Твае сыны пад сонцам будуць зноў,
Твае сыны спаткаюцца з табою.

Ты чуеш?.. Чуеш?
Ёсьць сыны твае
На выспах катавых у катаржным палоне...
І загудзела возера і загудзеў аер,

І маці сьціснула рукамі помсты скроні:
— Каму вясну за кратамі ўтрымаць?
Хто сонца-полымя паставіць на калені?
Хай сёньня край—суцэльная турма,
Ў турме таксама кузьня вызваленьня!

Калі вясну засьцелюць туманы,
Заслоняць хмары дзень праменнатканы:
Тады—
Ўзрываюцца раскатам пяруны
І пачынаецца мяцеліца маланак.

Зьнікаюць хмары гулам раўчакоў,
Праменьняў коньніца друліць на вадапоі.
Твае сыны пад сонцам будуць зноў,
Твае сыны спаткаюцца з табою!

І ўзьнік раптоўна мітынг-сход вясны,
Загаварылі ўсе—
расьпяты хто прыгонам.
Расла ўрачыстасьць першай баразны.
Гарэў закат, нібы штандар чырвоны.

— Першай баразной
Наступны дзень вітаем!
Гудзеў гушчар лясны
На мітынгу вясны.
А водгульле—стралой:
— О-ой,
Будзе бой!
— Першай баразной
Мы гнеў свой ускрыляем!
гудзелі курганы
на мітынгу вясны.
А водгульле—стралой:
— О-ой,
Будзе бой!
І маці выпрастала стан. Яна—
Загаварыла голасам сыноў закатаваных.
— Пачаць сяўбу!
Чым больш агню—зярна—
Хутчэй залечыць раны,
Край забраны!

## 3. Дзьве Беларусі

Як бізунамі, спалосана цела
Нявольніку пана пакорнасьці для,—
Спалосана поле шнурамі-надзелам
Ад веку вялікім няшчасьцем сялян.
Палоскі шнуры, як турэмныя краты,
Напоены потам сьлязьмі і крывёй...
Я бачу ў няволі заходняга брата,
Дугою сьпіна—за матыкай-сахой.
Бярозавай далі зялёныя грывы
Сьплятаюцца ў вузел пяшчотных падзей.
Вясна расквітае і сонца ў разьлівах
І гоман разьлівамі гневу гудзе!

Стаю на граніцы сьвітаньня і змроку!
На Захадзе кроплямі стыгне зара,
А поруч—на нашых прасторах шырокіх
Зарніцамі песьні крыляцца, гарадь.
Вароты-ж вясны раскрываюцца насьцеж,
І ў сонечны—
нашых імкненьняў—
прасьцяг—
Ўрачыстасьцю заўтрашняй нашага шчасьця
Нашай рэспублікі сьцелецца шлях.
І толькі—
Ледзь раніца пераступае
Туманам у ночы пракладзены мост,
На конях, з плугамі,—дарога даўгая,—
На фронт выяжджае чырвоны абоз.
Дазорцы ўраджаю другой пяцігодкі
У наступе цьвёрда трымайце старно!
Засеем зямлю—
Да апошняе соткі,
Да самых граніц
бальшавіцкім зярном!
Іскрацца праменьні, а ноччу—за працай
Электра-вачыма гараць трактары.
Ў зялёныя майкі зямлю апранацца
Прымусяць ударнай сяўбы змагары.

Ня лёгка... Імкнуцца стрыножыць,
наюдзіць
Ганцы Бэльвэдэру—героі нажа!
І ёсьць яшчэ людзі і нашыя людзі,
А ўласнасьць іх точыць, як тая іржа.
Як багна, зацягвае ўласнасьці сіла,
Пальцамі зайздрасьці давіць стацьцём,
Надзеяй заманлівай запаланіла,
Як п'яўка, смактала людзкое жыцьцё.

Карчуючы межы-шнуры,—наступаем
На спадчыну цемры, заломаў, маны!
Пад коламі трактара
Уласнасьць канае,
Ў імя бальшавіцкай суровай вясны!
Вясна ў маладым і нястрыманым русе!
А там...
Нават гоман спалоханы сьціх.
Сягоньня—мяжуюцца дзьве Беларусі,
Непараўнальныя два жыцьці.

## 4. Сонца ў трусіках

Купаецца ў вазёрах дзетвара,
І сонца ў трусіках з дзятвой за пані-
брата.
Чаму ня радавацца сэрцу песьняра?
Прыход вясны вясёлкавае сьвята!
Вачэй пралескавых чалмой віецца дым,
У хвалях зарасьляў аветраны нырцуе.
Уздымам рокатным, зазыўным, маладым—
Дзёнь росквіту—
Маёўкамі сьвяткуем!

Бальшавікі ў сьяточны дзень заўжды
Сваю гатоўнасьць зьвераць баявую.
Як рапартуюць перамогай гарады,
Яшчэ нязнаныя дагэтуль гарады,
Ў баёх народжаныя намі гарады,—
Ўраджаем будучыні нашай
Чую—
Збожжавае поле рапартуе.

Як разгараецца прадвесьняю зара,
І без граніц, як покліч песьняра,
Як шчасьцем перамогі змагара—
Наступных дзён рунее карманёла.
Прыход вясны ўрачысты і вясёлы!
І гіне-рушыцца адвечных крыўд гара,
І рассыпаецца палёў адвечны сполах.
І сонца ў трусіках, як тая дзетвара,
Гартуе мускулы разьбежным валейболам.

ХВЕДАР ЦІМЧАНКА

## ВЕСНАВАЯ

Прыгрэе сонейка цяплом,
А вецер чмары сум разьвее,
Зямля пазмые з твару тло,
І поле зноў заружавее...
Зноў ажыве ральлі прастор,—
Ад працы шчырае, няспыннай,
Калі напоўніцца разор
І поле, гоманам машынным...
Цяцер працоўны селянін,
Ідзе калгаснымі шляхамі,
Прыдбаў насеньне да вясны,—
Ня кленчыць больш прад кулакамі.
Так, беззваротна цемры дні,
За небасхіл вятры занесьлі,
Назад ня зьвернуцца яны,
Пужаць ня будуць на прадвесьні.
Дык-жа мацней, ты, сонца, грэй,
Хутчэй ламай сьнягоў завалы—
Каб праца ўдарніцкіх брыгад
У палёх багацьцем красавала.

*Віцебск*

ЯЎГЕН ЗАМЭРФЭЛЬД

# ПАДВОЗ

Быў малым, дык неба і воблакі ўяўляў сабе як нейкую пабяляную столь. Думаў я: там нехта ходзіць—грузны, цяжкімі крокамі. Ад гэтай хады зыбаецца ўгінаючыся хмара. Ад хмары асыпаецца вапна—сьнег. Зусім як у хаце, калі палезе бацька на дах па веніку, зьверху на маю галаву адшчэпліваецца, шалушыцца кавалачкамі пабелка.

І калі-б я быў цяпер тым самым хлопчыкам шасьцігодкаю, пэўне падумаў-бы, што сёньня нехта ўжо дужа цяжкі забраўся туды ўгару, на хмары, па венікі, бо ўжо вельмі густа адвальваецца асыпаецца зьверху гэтая сьнежная скрылападобная вапна.

Бяз меры, бяз краю, бяз канца павольна плануюць сьняжынкі.

Уніз. Уніз. Уніз.

Хмарна. Сьнежань. Зіма.

І школа на водшыбе, на адхоне, за сельсаветам, за вёскаю, за белымі пліткамі пульхных стрэх, за гурбамі, што зьбіліся як мярыносы, за сьнягамі ў сьнягу—школа.

Толькі, толькі што скончаны лекцыі. З шумам выдыхнуў калідор дзятву. У хустках закутаныя, пульхныя і кашлатыя-што мядзьведзяняты, запаўняюць сабой ганак, запаўняюць сабою двор вучні. Вось яны, гэтыя „вучыльнікі“, як іх называюць вяскоўцы: да носа пастаўлены зашпіленыя каўняры, глыбака напнутыя шапкі, і тут-жа побач, толькі прыгледзьцеся, як піць даць, знойдзецца з голай грудзінай, з расшпіленымі, быццам у летку, гузікамі, зацяты гарэза, як, панталычыць настаўніцу, часам і да дошкі ўмудрыўшыся выйсьці на самаробных неразлучных каньках.

Бязупынна, як мука з рукава на млыне, сыпецца сьнег.

Па зацярушаных сьцежках з кніжкамі, з торбамі, піналамі разносіць шум дзятва. Разыходзяцца гуртам, рассыпаюцца, быццам гарох па сарвэтцы, ва ўсе бакі.

Ужо на ганку толькі далёкія. Жывымі вачанятамі ўбіраюць яны кожны рух развažнага, сьнегам завеянага, дзядзькі Ігната, што прыехаў па іх і зараз падцягвае церазсядзельнік калгаснаму каню Грамабою, абходзіць, папраўляючы ўзьдзечку прысьцяжной паджарай Марціры. Дзеці ня ўстояць. Дзеці радуюцца, спружыняць-падскакваюць. Ім зараз падабаецца ўсё, і тое, як стрыжэ Грамабой вушамі і гэты буйны нязвычайны сьнег і тое, як у дзядзькі Ігната, калі ён закурваў з настаўнікамі, вецер зьдзьмухнуў табаку, вырваў з пальцаў тоненькую курыцельную паперу і доўга дражніўся, не даваў загарэцца сярнічцы.

Дзецям зараз падабаецца ўсё. Усё для іх нова, нязьведана і цікава. Ім дзіўна, што сьнег зусім абцяжарыў елачку:— як гэта, гэткі лёгкі і абцяжарыў?

Во, выпархнуў сьнегурок, сьвежы, чырвонагруды і ўжо дзеці забыліся аб елачцы. Перад імі толькі сьнягур. На ім скрыжоўваюцца раптоўна погляды, ён засланяе ўсё.

— Бачыш, бачыш, вунь ён! Ды там глядзі!

Усе, асабліва малодшыя, зусім бяз памяці ад захапленьня. Адна ня згледзіла, як абшаснулася (а мо' і ззаду націснулі), бухнула з прыступкі ўніз.

Шпарка пырхнуў сьнягурок. З пульхнай елачкі, дзе ён сядзеў, пацярухай сыпнуўся сьнег. Лапкі спружыніста, як жывыя, узьвіліся, выпрасталіся, застылі.

А дзяўчынка паднялася, агледзіла ўсіх, міргнула павекамі, ня ведаючы што ў гэтым выпадку рабіць, пастаяла, падумала і расплакалася. Тады другая першагрупніца—карапуз Нюрка сваёй круглай ручкай у калматай шэранькай рукавічцы, першая падбегла да гэтай дзяўчынкі, стала хуценька выціраць ёй сьлёзы. Проста так, як умела, ня здымаючы гэтай ласкатлівай рукавічкі, выцірала падымаючыся на цыпачкі і прыгаварвала:—ня плач, ня плач, мы-ж зараз па-е-дзем.

І ў гэтым „паедзем“ быў самы важкі, самы пэўны аргумант. Плач рвануўся і зьнік так, як тая паперка курыцельная, ветрам вырваная ў дзядзькі Ігната.

Густа валіцца сьнег.

Гляджу.

І за сьнегам, гадамі, мяцеліцай, як кадр жыцьця пера- жытага бачу:

Шпарка, вірліва кружыцца сьнежны пыл. Ня відаць небасхілу. Толькі дыміць, да парывіста, як загнаная, дыхае сьнегавая прастора. У поле на дарозе завеянай я—малы хлопчык—іду, дабіраюся дамоў са школы. Далёка ісьці. Сьнег. Зьверху, зьнізу, з бакоў сьнег, сьнег, сьнег, ні сьледу, ні сьлядочка. Цалік. Гойсае, гігікае вецер, прабірае наскрозь. У грудзёх як жалеза настылае. Ух, халодна як! А вецер усё прабівае і прабівае, пералічвае рэбры, мацае плечы і ледзяніць, ледзяніць. Ідзеш. Клыпаеш. І вось чуецца ў ветры, у завірусе ашалелай, узбаламучанай, усхліп, уздрыгі і роскаты, роскаты шархуноў. Аглядаюся. Увесь, што заяц, у слых. Цёпла. Радасьць успыхвае. Дрыжыць і хліпае, тухне і разгараецца, палыхае ў грудзёх надзея. Убіраеш гукі. Напружаны слых. Вецер, ці шархуны?

Моцнымі крыльлямі, як гусак недарэзаны, дзіка б'ецца мяцеліца:—

шах, шах, у-ю, ш-ш-ш...

Хто яго ведае, не разабраць.

Ляцяць у вочы ахапкі сьлізкія. Лепш не глядзець, не абарочвацца.

Ідзеш.

Цяжка месіш халоднае меціва.

І от зноў, як знарок разьліліся, шарахнулі шархуны.

Шархуны?

Ну а што-ж?

Во, ды канешня яны, звонкія, галасістыя, трапяткія.

Ужо ніякіх сумненьняў. Толькі, толькі думка:—возьме ці не?—засланяе сабой ўсё. Яна расьце, разбухае, шырыцца.

З мяцеліцы, з пылу сьнежнага ўсё ясьней і ясьней вырысоўваецца, набліжаецца нейкі прадмет. Паўхвіліны... і ўжо відаць разгойданая дуга, галава конская, у воблаках пары ахутаная. Блізка, зусім блізенька, тут за плячыма, у некалькіх кроках. Працягні і дастанеш рукой. Застанешся стаяць— ударыць аглоблінай, ня ўстоіш. Таму шпарка з дарогі ў бок.

Правальваешся, што ў прорву, па калені ў сувей і голас' ня голас—ударны камэртон зрываецца жаласна наперарэз:

— дзядзеч-

ка,

падвязі.

Ужо параўняліся, ужо абмінулі, ужо пакінулі ззаду сані.

Ня ўзяў!

Вочы гэтак прагна ўвесь часъ напоўненыя чаканьнем, гатовы праліць, капнуць праз край нястрыманую дзіцячую і салёную кроплю-сьлязу.

Тады (зусім ужо нечакана) калі згасла, адхлынуўшы, надзея, аглядаецца з саней нешта пульхнае, завеянае. Голас адтуль—давай малы!—Цяміш, гэта-ж ён да мяне. Мяне кліча. Момант...

Птушкай к саням. Едзем.

А яшчэ памятаю (бывае так: уесца што-небудзь з маленства ў памяць, як атрамант густы, гумкай гадоў не сатрэш). Помню і бачу выразна так: стрэліла пуга. Ірвануўся конь. Мільганулі капылы ў палазах. Гайдануліся плечы ў санях над выбоем. Раз, другі, трэці. Зьніклі. І плечы, і конь і сані, надзея і вера дзіцячая ў чалавечую дабрату канулі, зьніклі. Адзін як вось гэты слуп верставы, усімі сіверамі абкарханы, што стаіць з гэтай дошчачкай пакаробленай, на якой перакошана:—у вёску, (якую не разабраць) далей стрэлачка і 5 вёрст.

Гэта ў гадох, гэта ў тумане, у імгле перажытага. Гэта тады, калі школ было на ўсю распластаную воласьць, на воласьць на ўсю, дзьве.

Густа валіцца сьнег.

Бачачы радасьць дзіцячую, хочацца думаць, як калісь даўным даўно, калі быў вось такім як гэтыя, аб патынкоўцы, аб столі беленай, аб даху, на які палезьлі па венікі; па дзіцячаму хочацца глянуць на ўсё.

Густа валіцца сьнег. Бель. Зноў пасівела елачка, чуць сагнулася, як дзяўчына з каромыслам ля калодзежу.

Дзядзька Ігнат даўно ўжо ўпарадкаваў вараных. Ад дзяцей, мабыць, сам весялосьці набраўся. Жартаўліва ўваліўся з дзяцьмі ў развалкі разложыстыя. Падабраў хутка лейцы

скураныя, прадзягцяраныя і, кіўнуўшы ў бок ганку—бывайце здаровенькі!—чмокнуў на коняй.

Дзеці ўзмылі рукамі, як крыльлямі перад узьлётамі. Страпянуліся, замахалі, і ў гэтых руках таксама было:—едзем! Бывайце! Да пабачэньня!

Палазы набіраюць разгон. Мільгаюць твары. Вунь і Нюрка першагрупніца, што асушвала сьлёзы рукавічкаю. Вунь яшчэ і яшчэ з вачыма—блясткамі. Не разабраць, хто плакаў, а хто гаварыў. Усе сьмяюцца, махаюць, узьвізгваюць. Сьнег. Сьнежны пыл. Бель.

І маладая сяброўка мая па тэхнікуму, настаўніца, што адбывае са мной практыку, стаіць тут побач на ганку і зыркімі ад маладосьці вачыма глядзіць праз мяцеліцу ад'яжджаючым саням усьлед.

ТОДАР КУЗЬМЯНКОЎ

# УДАРНІК НАВОЕЎ

Гады на аблічча паклалі сьляды,—
Маршчынамі і сівізною,
Але на рабоце—ударнік заўжды,
Нядаўні калгасьнік Навоеў.
Яшчэ толькі ўчора яго на завод
З калгасных палёў перадалі,—
І сёньня ён вышаў з другімі ў паход
Змагацца на фабрыцы сталі.
„Адстанеш, дзядуля!"—сказаў малады
Аднойчы яму за работай.
„Адстану, браток, ад цябе я тады,
Як толькі ня будзе ахвоты.
Я зубы даўно на рабоце прыеў,
З работай спраўляюся ў калгасе.
Жаданьні, браток, імкненьні мае,
Ніколі ніхто не загасіць".
І вочы яго запалалі ярчэй,
Пранеслася думка:—„ня здацца",
— Я прыклады дам у рабоце яшчэ
За новыя мэтады працы!

*Полацак*

СЬЦЯПАН НОРТМАН

# У КРАІНЕ ТВОРЧАЙ ПРАЦЫ

## I. Начная зьмена

Вечар,—як вечар,
іх многа штогод.
Узьдзену спэцоўку—
іду на завод.

Шумная вуліца:
гаман і звон.
Электрыка сьвеціць
прывабна з вакон.

— Гудкі 'шчэ няскора,
ідзі не сьпяшайся!..
Прамчаўся трамвай
адзьвінеўшы званком.

Асеньняя ночка
усеяна зоркамі,
Сьвецяць, міргаюць
табе з вышыні

Канула ў бездань—
былое прагорклае,
Завод па-другому
жыве і грыміць!

Ўключаю рубільнік—
і стогне матор,
На трэцюю хуткасьць
накінуты пас.

Сёньня на працы,—
а заўтра ў дазор,
Я выйду—
як кожны з нас.

Дэталь падганяю
зьмяраючы скобай.
— Націсьнем, таварыш,
(кажу я сябру).

— Хто лепей і болей?
— Дав-вай-жа, паспрабуй!
Разгон я ў рабоце
ударны бяру.

І ноч неўзаметку
тады праляцела,
Бо розум і рукі
валодалі працай.

І раніца ціха
ў вакно паглядзела,
Як скончыў я
з сябрам змагацца.

Пераростае ў радасьць
стамлёнасьць на твары,
І сэрца ўзбуджана,
сэрца ня ходзіць.

Дай-жа руку мне,
руку дай, таварыш,—
Хай праца й надалей
ударнаю будзе!

## 2. Таварыш па клясе

У сырой і цьмянай кватэры,
Нарадзіўся хлапчук узімку.
За бацькам камэры дзьверы,
замком дзынкнулі.

За ўдзел у падпольнай працы,
за наладжваньне ў пятым дэманстрацый,

Яго асудзілі й павесілі;
вецер над шыбініцай высьвістваў песьні.

Маці зачэзла ў сухотах,
(мыла бялізну панам і падпанкам).
І тады ён, хлапчук, адзін гаротны,
вышаў на вуліцу ранкам.

„Сыты галоднаму не спагадае“,
выгляд галоднага паноў не расчуліць.
Вуліца яго гадавала,
ён узрастаў на вуліцы.

*

І беглі дні бязрадасна-суровыя,
праходзілі ў пошуках кавалка хлеба.
Ня бачыў радасьці, вясёлкасьці барвовае,
туляўся па завулках дзе трэба і нятрэба.

Адмераваў ён вёрсты прастораў неабсяжных
былое царскае калёніі-краіны.
А думкі ўзьвіваліся, ды толькі недасяжныя,
бо быў ён для яе ўсё пасынкам, ня сынам.

*

Прайшлі гады ў бурах-навальніцах,
жыцьцё пайшло інакшай пуцявінай.
Цяпер ня трэба падаць ніцма,
бо для краіны ён ня пасынкам, а сынам.

Ён днём заўсёды за варштатам,
абточвае бліскучыя дэталі.
А ўвечары сустрэнеш на рабфаку,
За спрэчкамі аб цьвёрдасьці мэталяў.

І прабягуць гады, і зьдзейсьняцца намеры,
ўчарайшы бяспрытульны—заўтра інжынэрам.

## 3. Наш край у працы творчай

Наш край у працы творчай
Спатыкае вясновыя дні.
Расьце і мацнее вытворчасьць,
Палаюць у домнах агні.

Па вуліцах цокаюць падковы,
Над горадам фабрычны дым...
Прышла вясна. У дзень сакавіковы
Вітаць краіну маладых!

Пераклікнуўся горад гудкамі,
З вёскаю новай, калгаснай.
Мы сёньня вясну прывітаем,
Працаю творчай. Ня згаснуць

Запал і імпэтнасьць да працы,
На калгасных палёх, на заводах.
З чарнацьветам ня хочам мы знацца,
І мінуўшчыны чорнай ня шкода,

Што вякамі наш край паланіла,
Апранала ў жабрацкія ўборы.
Калякты ўнаю працай на нівах,
Край скідае адвечнае гора.

І на новых палёх, (што бяз межаў)
Прывітае вясну трактарамі.
Бо жыцьцё ў нас імчыцца разьбежна,
Гамоняць заводы з палямі

Пераклічкай машыннай.
І адкажуць палі:
— Ураджайнасьць узьнялі!
Як адвечныя ўзоры межы.
А краіна расьце. І няспынна
Крынічыць жыцьцём бязьмежна.

*

Калі-ж бойка апошняя грымне,
І вораг зубамі заляскае:—
У бойку са зброяй рынем,
Бо бойка
клясавая!

*1932. 1933*
*Менск.*

ЯЗЭП ЗІНЬКОВІЧ

# ПАЭМА БЕСПРАЦОЎЯ

Памылка гэта. Тут-жа я адроду,
З дзяцінства тут... аж вочы выеў дым.
Вы-ж, як сабаку выгналі з заводу—
Куды я дзенуся цяпер? Куды?

Дзяцей і жонку выгналі з кватэры,
Яны валочацца па вуліцах у трох,
А я ўсю ноч прабыў на цёмным сквэры
Нібы нявольнік у сырых мурох.

А ён прыветліва насупіць бровы
Збавіцель мой ад гора і пакут,
А потым скажа ласкавае слова,
І сотням недасяжнае „Nun, gut".

Заб'ецца сэрца раненаю качкай,
Ад радасьці пальлюцца шчуркі сьлёз...
А дзеці? З маткаю дзе небудзь плачуць...
Пайду, пайду іх ашчасьліўлю лёс.

І Ганс пайшоў. Надзеі 'шчэ ня гасьлі,
А толькі сэрца падымала крык:
— А што ён скажа твой збавіцель Гайсьлер,
Ці стане ён з табою гаварыць?

Ноч падпаўзла грымотнаю вужакай,
Мангэйм абсыпала луской агнёў...
А тут на сквэры: цемра, дождж і сьлякаць,
Асеньні вецер вые, як шчанё.

*

Дзень коўдрай хмар рупліва ўкутаў твар свой,
Над Райнам сьцелецца туманаў муць..
Аўтамабілі плоймай дзікіх барсаў
На вуліцах адрывіста равуць.

Плюскоча Райн і ў даль імчыць кудысьці,
Плюскоча Райн халоднай стальлю хваль..
У твар плюецца вецер мокрым лісьцем,
Дзьме ў рог тугі, дажджамі б'е ў асфальт.

Шчасьлівы вецер. О, які шчасьлівы!
Ён быццам дворнік—падмятае брук...
А Ганс ўсе біржы абыйшоў руплівa—
Нідзе яго ня трэба дужых рук.

—А ты, мой сябра Райн, імчыся ў поле,
Цябе Мангэйм гранітным камнем скуў,
І ты, як я—нявольнікам на волі
Сягоньня зносіш шмат цяжкіх пакут.

Цяпер мне толькі гэта засталося,
Бо пяты дзень сухі, як ґоран рот...
А дзеці, жонка? Дзе-небудзь галосяць,
Галодныя, забіўшыся пад плот.

Ці можа мерзнуць у чарзе бязконцай
На біржы, сьлёзы сольныя п'ючы..
Ну, як-жа жыць, калі пагасла сонца,
У гэтай цёмнай, жудаснай начы.

От зараз выйдзі, крыкні: „Jch will leben"—
І пранясі па вуліцы плякат
З суровым надпісам: „Работы! Хлеба!"—
Цябе ў паліцыю і... ў казэмат.

Плывеце, хмары, шэрыя, плывеце,
Хавайся ў хмарах сонца, як павук.
А мне ўжо больш ня жыць на гэтым сьвеце,
Плынь дзён сваіх я зараз абарву.

Укрыты вочы восенскай імжою,
Як лісьце дрэў туманам на вадзе...
А сівер вербам шчокі заружовіў,
І коўдры ім бялявыя надзеў.

*

Загрукаталі вуліцы, завулкі.
Панэль зашоргала прыбоем ног...
І рэха крыкаў аддаецца гулка,
У цёмных, шэрых, спуджаных мурох.

І вуліца гудзе, як навальніца,
Каменны дождж... зарніцы шкла... фасад.
Адвага ў кожнага ў вачох іскрыцца,
Няма і мысьлі, каб ісьці назад.

Прызыўны сьпеў Інтэрнацыяналу,
І пераліў барвовістых сьцягоў,
У Ганса сэрца зноў усхвалявалі,
І штурханулі полымя баёў.

Хай волавам накормяць, а ня хлебам,
Хай змоўкне сэрца у маіх грудзёх...
Другія выйдуць с крыкам: „Wollen leben“
І ім адпомсьцяць за маё жыцьцё.

Другія выйдуць новым, сьмелым шквалам,
І ўчыняць свой над катамі прысуд.
І пад напеў Інтэрнацыяналу
Эпохам новым радасьць пранясуць.

І загарэўшыся такою верай,
Ён скіміцы свае цяжкія сьцяў,
Уліўся ў шэры беспрацоўны шэраг,
І ўзьняў змаганьня наш чырвоны сьцяг!

*Менск.*

БАРЫС МІКУЛІЧ

# „Rot Front"

*Экспазыцыя.*

Шум вялізарнай эўрапейскай сталіцы: сырэны, аўто, званкі трамваяў, лязг жалеза, гамана натоўпу, шархатаньне крокаў. Перад адкрыцьцём заслоны—натоўп газэтнікаў.

Першы газэтнік (*размахівае рукамі*). Усім! Усім! Усім! Экономічны крызіс ліквідаваны.

Другі газэтнік (*на тон вышэй*). Чытайце! Чытайце! Ноч бяз крызісу! Адна ноч бяз крызісу!

Трэці газэтнік (*яшчэ вышэй*). Хто марыць аб даваеннай Нямеччыне, купляйце „Бэрлінэр Тагеблят"!

Чацьверты газэтнік (*яшчэ вышэй*). Усе на прадкалядны баль! Кожны грамадзянін мае права сустрэць каляды з вячэрай і без забастоўкі.

Другі газэтнік. Прэм'ер міністр дырыжуе танцамі! Сто беспрацоўных музыкаў выконваюць гонар нацыі!

Трэці газэтнік. Кожны пяцігадовы грамадзянін Бэрліну атрымае апэльсін і арэх!

Першы газэтнік (*обураецца*). Ня крычы глупства, рыжы! Гэтага ў тваім паршывым лістку не напісана.

Трэці газэтнік (*сьвіснуў*). А ты чытаў?

Першы газэтнік. Ня чытаў, а ведаю. Апрача рэклямы прэзэрватываў і кансэрваў з дохлых пацукоў, там нічога няма.

Трэці газэтнік. Кансэрвы братоў Грын і К—о? Ого, мілы мой! Хто цяпер ня купляе іх? (*Гладзіць рукой па грудзях*). Гэтая труха пад праванскім маслам—ам, як смачна!

Другі газэтнік (*падыходзіць*). Усе жылы парваў і хоць бы хто адну! (*Садзіцца, выцірае шапкай твар*). І казаў-жа я, што ніхто купляць тут газэт ня будзе. Яно так і вышла (*плюе*).

Першы газэтнік. Гэтым (*ківае ў бок галавой*) шанцуе... Іх заўсёды гэтая рыжая жывёла выпраўляе ў лепшае мейсца. Плоцяць яны ім...

**Трэці газэтнік.** А от, заплаці! Калі-б мне, скажам, заплапіць, дык паўдня рабіць на гэта прышлося. Бацьку з Крэзэра зволілі, часовая перадышка, так сказаць.,.

**Чацьверты газэтнік** (*падбягае*). Ужо? А я думаў, што выручку лічыце. Ой, браткі, а есьці, есьці. Як з трубы!

**Першы газэтнік.** Пачакай. На баль пойдзеш, апэльсін дадуць.

**Другі газэтнік.** Ды яшчэ маслам памажуць! Еж—ня хочацца...

**Чацьверты газэтнік.** Ды мне так...

**Першы газэтнік** (*сьмяецца*). Бяз масла?

**Чацьверты газэтнік** (*адмахваецца вяла*). Ай, ідзі ты! Хто гэта апэльсін з маслам есьць?

**Трэці газэтнік.** А я-б зьеў! Хоць чорта! (*Угледаецца*) Пачакай! Нехта ідзе. (*Усхопліваецца*).

**Першы газэтнік.** Няма беспрацоўных, няма крызісу! Ноч перад калядамі! Рай у Нямеччыне.

Да сцэны ідуць Ганц і Франц. Павалі ўзьнімаецца заслона. Люстраны пад'езд вялізарнагя будынку, дзе адбываецца прадкалядны баль. З розных бакоў сыходзіцца народ. Бесьперапынна хлопаюць дзьверы. На вуліцу вырываецца страмніна вясёленькай музыкі.

**Франц.** Ідзеш, Ганц?

**Ганц.** Хіба нявартa?

**Франц.** Чаму нявартa? Схадзіць трэба... У хаце ўсё адно ня ўседзіш. Мароз, хужэй чым на вуліцы... З месяц не палілі, вуглю няма.

**Ганц.** А як нашы? Абмяркоўвалі пытаньне?

**Франц.** Абмяркоўвалі. Вырышылі не забараняць. На тое-ж сьвята заўтра. Некаторыя яшчэ сьвяткуюць, не адвыклі. Ты толькі чаго добрага не павер ім пра крызіс. (*Сьмяецца*)

**Ганц.** Ну, от яшчэ! Добры рай, няма чаго казаць. А прыдумалі лоўка.

**Франц.** Здорава прыдумалі!

**Ганц.** Гэткая ведаеш, экзотыка! Ноч бяз крызісу і...

**Франц.** І сто беспрацоўных музыкаў выконваюць гонар нацыі!

**Ганц** (*сьмяецца*). Памылачка вышла!.. Думалі, благародны гэст.

**Франц.** Думалі... Не галавой, відаць.
(*Зьнікаюць за дзьвярыма*)

**Другі газэтнік** (*глядзіць на асьветленыя дзьверы*). Чуў, рыжы? Не галавой, кажа, думалі, от здорава, га?

**Першы газэтнік.** Ну, а я дык часта, відаць, не галавой думаю, а жыватом... Есьці часта хочацца!

(Бягуць)

Два музыкі бягуць з розных бакоў і стукаюцца адзін аб адзін.

**Першы**. Пардон!

**Другі** (*трымаецца за лоб*). Мой лоб па-француску не разумее. Чаго цябе так узяло? Сарваўся, як...

**Першы**. Пардон! Сьпяшаюся на баль. Усіх суседзяў аббегаў, каб знайсьці смокінг. І што вы думаеце? (*сьмяецца*) Ні ў кога няма, а ні—ні! Дай, думаю, зайду да старога Клопштока. Ёсьць такі на нашай вуліцы вэтэран вайны... Траха што ня Бісмарк. Прыходжу да яго, стукаю, стукаю—ні гу-гу, цішыня нябесная! Я тады дзьверы—ррраз! Уваходжу і,.. О, майн лібэр гот. Небарака Клопшток адубянеў ад холаду ў сваёй качалцы... Я званіць ва ўсе бакі, прыехала хуткая і кажуць мне плаціць штраф, бо стары сканаў яшчэ раніцою. От вам і смокінг і дзень без абеду... Здарава, га?

**Другі**. Зайздрошчу твайму Клопштоку... Перад сьвятам і да бога весялей ісьці. Пойдзем, скора, відаць, пілікаць будзем...

**Першы**. Пойдзем, маэстра. Я толькі ня ведаю, чым дуць у габой... Здаецца, у сярэдзіне а ні-ні духу няма...

(*Зьнікаюць*)

З хвіліну—пуста. Гэтая пустата запоўнена гулам вечаровага гораду, вясёленькай музыкай і гаманой, што нясецца з бліскучых асьветленых дзьвярэй. Гуд сырэны. Падыходзіць аўто. Да дзьвярэй кідаецца чалавек. Ён рухавы і клапатлівы. Голас: Фрау Вэнцэль прыехала! Фрау Вэнцэль!

І от пасталі каля дзьвярэй на ўсходцах лёкаі ў пазалочаных, сярэднявяковых готскіх адзеньнях.

**Распарадчык** (*на ніжняй усходцы, наперадзе пачціва схілены*). Фрау Вэнцэль! Усё зроблена так, як загадаў камітэт дабрачыннасьці і дабрабыту. Кожны шчыры немец мае права сустрэць сьвята нараджэньня Хрыстова весела і спакойна. У сёнешнюю ноч ніхто ня думае пра крызіс.

**Фрау Вэнцэль** (*сухая і даўгая, як цыркуль, абкружаная дамамі і сакратарамі, узьнімаецца па ўсходцах*). Оркестр?

**Распарадчык**. Ёсьць.

**Фрау**. Менавіта сто?

**Распарадчык**. Сто музыкаў, фрау Вэнцэль.

**Фрау**. Кожны мае прыбор?

**Распарадчык**. Кожны мае прыбор, фрау Вэнцэль.

**Фрау**. Ааа, добра, добра...

**Газэтнік** (*урываецца*). Ноч бяз крызісу! Каралева балю фрау Вэнцэль! (*да яе*). Купіце газэту!

**Распарадчык**. Цыц ты!

**Газэтнік**. Ужо дзесяць гадзін, а я ўсіх не прадаў. Купіце, фрау Вэнцэль!...

**Фрау**. Ня трэба. Гэтыя... чэпяцца (*ідзе*).

Газэтнік (*адным выдахам*). Фраў Вэнцэль! куціце. Усяго чатыры пфэнігі. Ваш партрэт рабіў для нашай газэты Гартфільд.

Сакратар. Ідзі, ідзі адсюль. Фрау Вэнцэль прыехала на баль.

Фрау (*зьбягае да газэтніка*). Мой партрэт? (*Рыецца ў сумачцы*) Нумар! (*Разгортвае газэту*). Ааа, добра, добра!.. (*Плоціць і уходзіць*)

Газэтнік (*глядзіць на далонь, на якой грошы*). Нават і рэшты не ўзяла. Лоўка зроблена! (*Убягае*).

Тып з зялёным шалікам (*ідзе хістаючыся*). Ах, Разалія, каханьнем упівацца нам прыпала. Ножкі здорава прыгожыя твае... На грудзях тваіх я дзіўны сон прыдбаю... (*Спыняе песьню, прыпыняецца перад дзьвярыма*). Ааа, ішоў, ішоў і такі прышоў. Пачакай, пачакай! Калі я не памыляюся, тут баль. Ааа! (*Ідзе да дзьвярэй зьнікае за імі, і раптам моцным штуршком яго выкідае на ўсходы. У дзьвярох вырастае грозны швэйцар*)

Тып (*на чацьвяронках*). Ааа? Бачыце? Сальто-мортальl (*намагаецца устаць*) Тоўстая сьвіньня! Як ты адважыўся сваімі бруднымі тоўстымі пальцамі мясьніка дакрануцца да мяне? (*Устае*) Пусьці! Шырока расчыні дзьверы і агаласі пра мой прыход.

Швэйцар (*нярухомы*)

Тып. Чуеш? Ррыжая жывёліна! Я патрабую, каб ты адказваў мне! Чуеш?

(*Маўчаньне*)

Тып. Ааа! Мяне, мяне гэтакім самым спосабам—фррр! Мяне, разумееце, мяне! Гэй, ты, агідны клоп, чуеш?

Швэйцар (*бязуважна*). Падазроных загадалі не прапускаць. Толькі шчырыя грамадзяне Нямеччыны маюць права на ўваход.

За дзьвярыма граюць. З мешаніны гукаў выразна акрэсьліваецца нацыянальны гімн.

Тып. Грамадзяне Нямеччыны? А я хто? Хто я? Уух, ррыжы пацук, тысячу д'яблаў! (*Кідаецца да швэйцара, валіцца, паўзе*). Грамадзяне Нямеччыны! Хо-хо. Пусьціце мяне, я ім пакажу, дзе Нямеччына. Я—Нямеччына! Чуеш?—Я грамадзянін Нямеччыны! Пусьціце! (*Гімн усё гучней і гучней*). І яны—грамадзяне... Дайце мне Нямеччыну! Хто адабраў яе ў мяне? Радзіму маю старую, мілую бабульку—Нямеччыну!.. Дайце, дайце! (*Падае*)

Усё пакрываецца музыкай, чутно як крычаць „гох“.

## РАЗЬДЗЕЛ ПЕРШЫ: КРЫЗІС

### ЛЯ ЗАВОДЗКАЙ БРАМЫ

Перад дзьвярыма заводзкай канторы Крэзэра. Шкляная галярэя, за якой—каменная сьцяна. Жалезная брама кідае на зямлю цень, за брамай мернымі крокамі ходзіць вартавы

Эдвард (*перад даўгім сьпісам зволеных, які вывешаны на сьцяне*). Шмідт, Шульц, Шэлькоўскі, Пільман, Рэсьлі... І стары Отто Рэсьлі зволены. Што гэта? (*Матае галавой*) От нечаканасьць. Ну далей, далей! (*Водзіць пальцам па сьпісу*). Шарэр. Фонкац... (*Паўза*) Тымрад Эдвард... Тымрад Эдвард! (*Адварочваецца ад сьцяны*) Я... (*разводзіць рукамі*) зволены... Ух, ты... (*Да вартавога*) За што, га? Што рабіць? Тут, напэўна, нейкае непаразуменьне. Так працаваў і от—на табе. У хаце што сказаць? Так працаваў... (*Зрываецца з месца*) Пайду і скажу... У кантору пайду. Тут непаразуменьне, так, непаразуменьне вышла. І Отто... стары небарака Отто зволены. А ў хаце што сказаць? Пайду, пайду і скажу. Быць ня можа!

Ганц. Таварыш!

Эдвард (*павгрочваецца*). Ну?

Ганц (*падыходзіць да яго*). Чаму ты сумны так!, таварыш? Га?

Эдвард. У мяне маці. Старая, сівенькая маці... хворая...

Ганц. Маці хворая? Напаі яе кавай, добра выпалі ў печы, зьедзьдзі па доктара... і ўсё!

Эдвард. Дзякую за параду...

Ганц (*сьмяецца*). Няма за што! Магу яшчэ параду даць... хочаш, га?

Эдвард. Наўрад, ці дапаможа твая парада...

Ганц. Ну, а ўсё-ж такі...

(*Паўза*)

Эдвард. Мяне... зволілі...

Ганц. Ааа! Гэта для мяне не навіна... Чуў. Тысячу разоў чуў. І ты ідзеш туды, у кантору? Даводзіць ім? Прасіць у іх?

Эдвард. А што рабіць? Гэта непаразуменьне вышла... Яны ня маюць права гэтага рабіць... Я працаваў, як вол... Я адданы рабочы...

Ганц. Я веру ў тваю адданасьць, але яны зрабілі так, як яны маглі...

Эдвард. Незаконна зрабілі...

Ганц. Наадварот, дужа і дужа законна.

Эдвард. Ты... Ты хто?

Ганц. Я? Хто хочаш... Толькі ня прыхільнік іхных законаў. Але яны інакш зрабіць не маглі. Цяпер законы дыктуе крызіс. Разумееш?

Эдвард. Так гавораць камуністы. Няхай іх і звальняюць... А я не камуніст... Разумееш, не камуніст. Я шчыры сацыял-дэмакрат, і я працаваў, працаваў, як вол...

Ганц. Вол дужа разумная жывёліна. Калі яму цяжка, ён мычыць...

Эдвард. Што?

(*У дзьвярох паяўляецца таўсты куртаты чалавек, неадступна за ім ідзе высокі, худы рабочы*)

Ганц. Ён мычыць.

Куртаты чалавек. Я нічога не магу зрабіць. Я тут нязпрычым. Ідзеце да дырэктара, ён вам растлумачыць.

Эдвард. Наш майстар. Негг! (*Робіць крок да яго*).

Ганц (*затрымлівае за руку*). Ня ідзі. Чакай.

Худы рабочы.' Дырэктара няма. У канторы нічога не адказваюць. Дырэктар, нарэшце, ня прыедзе. Ён хаваецца.

Куртаты чалавек. Гэта яго справа. Прычым тут я?

Худы рабочы. Вы давалі сьпісы... Я гэта добра ведаю.

Куртаты чалавек. Сьпісы? Якія сьпісы?

Худы рабочы. Не ўдавайце з сябе сьвятога. Гэта вы вінаваты ў тым, што мяне зволілі.

Куртаты чалавек. Дзіўны чалавек. Я кажу, што ніякіх сьпісаў я не даваў... Чаго вы чапляецеся?

Худы рабочы (*загароджвае яму дарогу*). А ваш подпіс?

Ганц. Гэта ня ён падпісваўся, гэта падпісаўся крызіс.

Эдвард. Негг!.. Я прашу вас...

Куртаты чалавек. Я... я... Што гэта такое? Я паклічу паліцыю!..

Ганц. Гэта ўсё, што вы можаце яшчэ зрабіць.

Куртаты чалавек (*фальцэтам*). Гэтага мне хопіць!

Ганц. Наўрад. Поліцыя вам мала дапаможа.

Куртаты чалавек. Я... я... Я загадваю маўчаць. (*Вымае сьвісток*).

Ганц. Не сьпяшайцеся, пане. Паліцыяй вы нас не спалохаеце. Праз два-тры дні кожны зволены рабочы Крэзэра з ахвотай сядзе за краты. У турмах Нямеччыны як-ні-як яшчэ кормяць...

Куртаты чалавек. Я... я... (*Уходзіць*)

Худы рабочы (*наўздагон*). Сволач!... (*Ідзе у супроцьлеглы бок*)

(*Паўза*)

Ганц. Цяпер ты можашісьці ў кантору, я цябе не затрымліваю.

(*Эдвард нярухомы*)

Ганц. Ня хочаш? (*Насьвіствае*) Ня хочаш? Там сядзіць тоўсты канторшчык, нявінны чыноўнік, які дае аднаскладовыя тлумачэньні. Яму так загадалі. Нічога не паробіш—служба такая. Ты можаш ісьці і прасіць яго,

нарэшце стучаць кулаком аб стол, крычаць і ўспамінаць добрых і благіх сваякоў... А от—хворая маці, сёньня ў яе яшчэ ёсьць драбок кавы, яна ўсяго ня вып'е, хоць і хворая. Яна пакіне шклянку кавы для свайго любага сына, для свайго кармільца... Ну, вядома... Сын прыдзе дахаты змораны, яму трэба есьці, маці клапоціцца аб ім... А сын? Сын будзе хадзіць аж да позьняга вечара па вуліцах і плошчах, будзе думаць, думаць бяз конца пра тое, як сказаць старой любай мацеры, як сказаць хворай, дужа хворай мацеры, што яго звалілі... Панурым будзе сядзець сын, а старэнькая ягоная маці будзе шэптам, абціраючы з сухенькага свайго твару сьлёзы, прасіць літасьці ў бога... А назаўтра кава скончыцца.

Эдвард. Ты!.. (*Кідаецца да Ганца, замахваецца*). Маўчы, чорт!..

Ганц (*спакойна адводзіць яго руку*). Я кажу праўду, згадзіся сам. Жорсткая праўда, балючая. Правільна, дужа балючая, але праўда.

Эдвард. Праўду? Я ўчора дачуўся пра тое, што шмат рабочых звалілі.

Ганц. На прадкалядным балю? Ты там быў?

Эдвард. Не перапыняй. Так, я быў на ўчорашнім балю, я ім верыў, што няма крызісу, што крызіс—гэта надумка, казка... Было ўсё такім сьвяточным, вясёлым!..

Ганц. Ты помніш? Танцавала дзівосная танцорка, лёгкі, наіўна-казачны танец. Сто беспрацоўных музыкаў... Зьвярні ўвагу, сто беспрацоўных музыкаў грала гонар вялікай нямецкай нацыі, якая падае ад голаду, гэтак-жа, як упала ўчора згаладалая танцорка. Ты помніш гэта?

Эдвард. Гэта ты... Я пазнаю цябе. Гэта ты першым абвясьціў учора, што на Крэзэры... І паліцыя... паліцыя гналася ..

Ганц (*сьмяецца*). Не нагнала паліцыя, ня першы раз уцякаць прыходзіцца. (*Паўза*) А ты пазнаў?

Эдвард. Пазнаў. Цяпер пазнаў!..

Шум. З розных бакоў ідзе народ. Пераважная большасьць яго—жанчыны.

Галасы:

— Неўзабаве прыедзе.
— Добра неўзабаве! Чакаем каторую гадзіну.
— На тое-ж ён і дырэктар, каб чакалі.
— Каб яго магіла чакала!
— Ды вада цёпленькая!
— Правільна!
— Цёпленькая...

Ганц (*падыходзіць да натоўпу*). Чаго, жанчыны, хвалюецеся?

Высокая жанчына. А ты хто? Паліцыянт?

Ганц (*сьмяецца*). Ня ведаю. Здаецца, не падобен да гэтых сабак.

Высокая жанчына. І сабакі масьць мяняюць.

Другая. Здаецца, ласкавы сабака, хвастом віляе, а потым—хвацъ за нагу. Ідзі, лаві яго...

Эдвард. Ён не паліцыянт, ён камуніст.

Высокая жанчына. Камуніст?

Усе сьціхаюць

Ганц. Я пытаюся, жанчыны, што вас расхвалявала так?

Высокая жанчына. Ён пытаецца, чаму мы хвалюемся. Вы чуеце, жанчыны?

Другая. Раскажы яму, няхай паслухае.

Трэцяя. Камуніст... Ня вораг-жа, хай паслухае наша гора...

Чацьвертая. Цяжкае гора. Цяжка і расказваць...

Эдвард (*адыходзіць у бок*). Гэтыя жанчыны... Такія-ж, як і маці... Эх, сволачы!..

Ганц. Цяжкае гора, кажаце? Цяжка расказваць? Хіба вы, жонкі і сёстры зволеных рабочых, вы, сяброўкі галодных нямецкіх пралетараў, ня прывыклі да гора?

Высокая жанчына. А каму гэта лёгка прывыкаць? От, прыдзеш дахаты, а дзеці абступяць, малыя дзеці, што ім зробіш? Абступяць дзеці і ня плачуць ужо, а так—моўчкі—глядзяць табе ў вочы, чакаючы... Ііх, здаецца-б, рукі на сябе наклала, каб ня бачыць гэтага маўклівага бляску вачэй сваіх-жа родных дзяцей...

Рузіна (*выходзіць з натоўпу*). Ціха ты! Я ня хочу слухаць гэтага. Мне цяжка...

Другая. Няшчасная. Яна толькі пачала жыць чалавечым жыцьцём, і от табе—пажыві.

Трэцяя. Раскажы, Рузіна, гэтаму чалавеку... Няхай паслухае, можа парадзіць што... Камуніст-жа ён, ня вораг. (*Садзіцца на зямлю*).

Рузіна. Слухаць будзеш? (*Глядзіць на яго*) Ты малады дужа, не зразумееш...

Ганц. І ты не старая... Зразумею.

Трэцяя. Праўду кажаш, Рузіна не старая, першым дзіцём ходзіць...

Рузіна (*ўздрыганула*). Зноў... (*паўза*). Мучыце вы мяне, суседкі, сваімі словамі, ох, як мучыце. (*Бярэ Ганца за руку, ідзе да лавы.*) Ня ўмею расказваць, ды і баліць тут, у сярэдзіне, надта, надта баліць... От жыцьцё раскажу сваё, калі хочаш, усёадно няма куды сьпяшацца...

Высокая жанчына. Кажы, Рузіна, кажы. Дырэктара і ня відаць, баіцца ехаць...

Рузіна. Уважна слухай, чалавек, што скажа табе маладая весялуха Рузіна. (*Ціха сьмяецца.*) Маладая весялуха Рузіна... Помню... сонечны дзень, блакітнае неба над зямлёй—

вясёлае высокае неба. Эх, як хораша глядзець на гэтае неба! Глядзіш, глядзіш і здаецца—вырастае ў грудзях вялікая радасьць, а для радасьці многага ня трэба—век маладых, галаву лёгка на плячох насіць... І пыл на дарозе, лёгкі, белы пыл... Ідзеш і пясок пад нагамі гарачы, мяккі... Так, мяккі... Былі калісьці гэткія дні... Былі... А той дзень, хоць і сонечны быў, хоць і высокае празрыстае неба ляжала над зямлёй, той дзень прынёс гора. Бацька памёр... Мне было чатырнаццаць год. Пашла ў горад, заработкаў шукаць, есьці трэба было... А горад вялізарны, нязвычайны, жорсткі горад. Сустрэў мяне пахмура і кінуў у твар восеньскую сьцюжу і золкую цемру... Стаяла я пасярод мокрай панэлі, вецер ліхтары качаў—направа, налева, раз-два, раз-два... Стаяла і глядзела на ліхтары і здаліся яны мне смачнымі аладкамі, на масьле печанымі. Згаладала. (*Паўза.*)

Чацьвертая (*ціха, ціха засьпявала, зьвесіўшы галаву на кален.*).

Вецер, вецер вее, дождж лючее...
Ные, ные сэрца, баліць дужа цела...
Доўга будзе думаць Рузя, думаць марна...
Будзе цепла, будзе сытна, хіба толькі ў марах.

Падышоў да мяне чалавек, паглядзеў і засьмяяўся... Шчырае слова, узрадвалася я чалавечаму голасу тады, а было гэта на Карлавай ускраіне, уначы, пустэча... Ну я і пашла з чалавекам, на вясёлы голас паддалася... Ды толькі весялосьць гэтая, дзявочая радасьць мая пякучым болем па целу азвалася... І здалося мне тады, што ня відаць ужо болей сіняй вышыні неба, не насіць галавы дзявочай горда і высока... Здалося так...

(*Б'е гадзіньнік на вежы—халоднымі мэталёвымі ўдарамі*)

Эдвард (*хапаецца за галаву*). Ээх, чорт!

Рузіна (*ціха сьмяецца*). Маю песьню сьпяваеш, суседка... Вясёлую песьню маладой Рузіны... Ха-ха.. ха!..

Чацьвертая (*узьнімае галаву*). Таак... тваю песьню... Старая я, а да сэрца прышлася песьня...

Ганц. Недасьпяваная.

Рузіна. Хто? Песьня недасьпяваная?

Ганц. Песьня.

Рузіна (*узьнімаецца з месца*). Дармо, што недасьпяваная... Можна дасьпяваць... Слухай от...

Ганц. Можаш не расказваць, я ведаю далей.

Рузіна (*глядзіць на яго*). Ведаеш?

Ганц. Хочаш—скончу за цябе... Маладая дзяўчына трапіла ў горад, у вялізарны жахліва-бязьлітасны горад... Што яна магла рабіць, ня ведаючы, у якія дзьверы стукацца, дзе прытулку шукаць? Што яна магла рабіць?

Высокая жанчына. Гандляваць.

Другая. Сабой...
Ганц. Гэткіх тысячы.
Трэцяя. І гэта ўсё?..
Рузіна (*зрываецца з месца*). Не! Гэта ня ўсё. Я кінула, я забылася на гэта! Я лепшае, сапраўднае жыцьцё напаткала! (*Хістаецца, яе падтрымліваюць.*) Ох баліць у сярэдзіне.. баліць...
Ганц. Ён... Ну, кім мог быць ён?.. Харошы хлопец з рабочай ускраіны... Сустрэў і пачалі жыць разам... Сапраўднае жыцьцё... Харошае, сапраўднае жыцьцё!.. І потым яго...
Эдвард. Хопіць! У мяне маці хворая, галодная маці. Што вы заладзілі, сэрца баліць!
Другая жанчына. Эх, ты мужчына... Пашкадуй сэрца, балець пасьпее...
Ганц. Рузіна, слухай. Твой муж падобны да гэтага хлапца. (*Паказвае на Эдварда.*) Яго зволілі з Крэзэра.
Высокая жанчына. От і песьні канец...
(*Пауза.*)
Чацьвертая (*сьпявае*).

Эх, жыцьцё сапраўднае ды ладнае...
Уся зямля зрабілася спагаднаю...
Толькі Рузю маладую стрэла гора зноў...
Наляцела ліхалецьце, доля горная...

У дзьвярох канторы вырастае чалавек.

Высокая жанчына. Эх, ты! Папяровы пацук. Ці хутка сам прыедзе?
Чалавек ля дзьвярэй. Чакаем.
Трэцяя. Усьцешыў!
Высокая жанчына. Эх, хутчэй-бы! Ды да горла дарвацца, ды сьціснуць, сьціснуць!

(Сырэна. З розных бакоў сыходзяцца жанчыны.

Трэцяя (*узіраецца*) Нехта ля брамы. (*Усе, апрача Рузіны, падбягаюць да яе*).
Другая. Машына стаіць.
Трэцяя. Сюды ідуць!
Чацьвертая. Дырэктар, дырэктар! Сам.

Уваходзіць паліцыянт.

Паліцыянт (*азіраецца насьвістваючы*). Мма!.. жанчыны... Фю-фю... Адны жанчыны...

Паяўляецца дырэктар і сакратар.

Дырэктар. Я казаў, я колькі разоў казаў, што тлумачыць прычыны звальненьня нікому ня зьбіраюся. На гэта ёсьць кантора.
Сакратар. Так-с, на гэта ёсьць кантора.

Дырэктар. У мяне ня хопіць языка...
Сакратар. Так-с, у вас ня хопіць языка...
Дырэктар. І потым я... (*Крута прыпыняецца*). Што гэта? Зноў дэлегацыя? Я ня маю ні часу, ні хэньці гаварыць з вамі.
Высокая жанчына (*пераймае яго*). І ў нас хэньці няма...
Дырэктар. Гэта што за фурыя?...
Чалавек ля дзьвярэй. Ад самай раніцы вас чакаюць... Ходзяць тут, адбою няма. (*Пазяхае*).
Дырэктар. Ад самай раніцы? Ааа!.. Ну, я слухаю...
Высокая жанчына. Мы доўга затрымліваць ня будзем. Нас ад раніцы чакаюць галодныя дзеці. Нашых мужчын зволілі. Прасіць прышлі...
Галасы:
— Прасіць.
— Спытацца, за што зволілі!
— Спытайся, папрасі!
— Дапаможа.
— Ня іначай, як хваробе кашаль!
— Ды ціха вы! Разбубнеліся.
Паліцыянт. Мма!.. Ціха, грамадзянкі... Беражэце горла... Паветра робіцца вільготным. Фю-фю.
Другая. Не пасьпелі сьвята адсьвяткаваць, думалі, на год ладзілі пляны, а тут раптоўнасьць такая... Пан дырэктар!
Дырэктар. Гэта ўсё?
Трэцяя. Мужа зволілі, з трыма малымі дзецьмі засталася бяз хлеба.
Рузіна. І майго Карла зволілі... А ў мяне... дзіцёнак будзе!.. Цяжарная я.
Дырэктар. Гэта ўсё?
Ганц. Вам гэтага мала, пан дырэктар?
Галасы:
— Яму мала!
— Сволач!
— Ня крычы там.
— А калі зьдзекі строіць!
Дырэктар. Гэта ўсё? Праз пяць хвілін я дам адказ.
Сакратар. Так-с.

Зьнікаюць за дзьвярыма—За імі ідзе паліцыянт.

Другая. Пяць хвілін...
Трэцяя. Эт, пачакаем, нешта скажа...
Галасы:
— Нешта скажа.
— Можа і добрае што...
— Чакай добрага!
— Прычыкаеш.

Ганц (*да Эдварда*) Ну, таварыш, давай руку. Пайду я, адказ вядомы. Калі што трэба будзе—заходзь.

Эдвард. Куды?

Ганц. Куды? Ды да нас, у раённы камітэт...

Эдвард. Нне... Да сваіх пайду, няхай дапамагаюць...

Ганц. А ўсё-ж помні... Хто ведае—мо' і спатрэбіцца (*Уходзіць*)

Зноў б'е гадзіньнік—восем разоў. Запальваюцца ліхтары. Густы туман.

Чацьвертая жанчына (*хутаецца ў хустку*). Сьцюдзёна робіцца...

Голас. Тут хоць ветру няма... А на вуліцы—дзьме, як з пекла... Туман...

Другі. Сьнег будзе...

Трэцяя жанчына. Ужо час.. Позьні сьнег у гэтым годзе...

Голас. Для беднякоў восень у самы раз...

(*Рэзка адчыняюцца дзьверы. У іх сакратар, за ім паліцыянт*

Сакратар. Пан дырэктар сказаў, што нічога ня можа зрабіць для вас.

Высокая жанчына (*падбягае да яго*) Ня можа (*замахваецца*) Уух, сволачы! Яны ня могуць. Дайце мне яго!..

(*Апускае руку, перад ёй—паліцыянт*).

Паліцыянт. Жанчына... Беражы горла, паветра вільжэе... Фю-фю!..

Сьвісьціць. Паволі паварочваецца да дзьвярэй

## ПЭТЭР ЛЯНГЕ

Рабочы пакой Пэтэр Лянге ў раённым камітэце. На стале тэлёфон. Вокны пад шторай. За сьцяной стучыцца машынка. Час-ад-часу хлопаюць дзьверы.

Пэтэр (*сядзіць за сталом і гартае газэту*). Новы манэўр... Хо-хо!.. Ня можа дазволіць, каб паны сацыял-дэмакраты правялі гэтае мерапрыемства бяз нашай дапамогі... Пакрывяцца, расплююцца.

Франц Фішэр (*уваходзіць*). Здарова (*Глядзіць на гадзіньнік*)

Пэтэр. Вітаю, вітаю!

Франц. На якую гадзіну прызначаны камітэт?

Пэтэр. А от скора... (*рацнівае газэты*). Пасядз, пачытай.

Франц. Ты абмяркоўваў становішча на Крэзэіры? Трэба ўзяцца за гэтую справу, завод-жа во які—аграмадзіна.

Пэтэр (*чытае*). Ммм...

Франц. Ты чуеш?

Пэтэр. Га? Пра што ты пытаеш?

Франц. Пытаю пра Крэзэр...

Пэтэр. Ааа... Крэзэр! Гэта, брат, наша памылка... Мы мала аддавалі ўвагі гэтаму прадпрыемству, і нашы ворагі зьвілі там вялікае гняздо. У нас ёсьць цьвёрдыя ўстаноўкі камітэту партыі. Мы сёньня будзем гаварыць пра гэта...

**Ганц** (*амаль бяжыць*) Фффу! Змарыўся зусім. Здарова, Франц! Не, гэта проста да чорта цікавая сітуацыя. Я праз цэлыя дні праводжу з рабочымі Крэзэра, цэлыя вынайсьці раблю.

**Пэтэр.** Ты толькі асьцярожней, гарачы завельмі.

**Ганц.** А ты хочаш, каб рэволюцыянэр быў цнатлівай дзяўчынкай? Чаго тут баяцца, мы-ж у дэмакратычнай Нямеччыне жывем! (*сьмяецца*).

**Франц.** От і будзе табе тады дэмакратычная Нямеччына...

**Ганц.** Фррр. Ня так лёгка мяне абвінаваціць у дзяржаўнай здрадзе. Кішка затонкая...

**Франц.** Яны абвінавацяць...

Уваходзіць Кароль Брэйтэр.

**Пэтэр.** Ты сёньня спазьніўся, Кароль.

**Кароль.** Ведаю, таварыш сакратар. Шчырае слова, толькі цяпер з работы. У нас на заводзе непаладкі, чуткі ідуць, што зьмяншаюць заробак... Нават процант зьмяншэньня аднекуль даведаліся... Чарговыя пяць...

**Пэтэр.** Гэта афіцыйныя весткі?

**Кароль.** Не, з вуснаў у вусны перадаюць, цішком. У кантору заходзіў, там, здаецца, навальніцай ня пахне.

**Пэтэр.** Беспадстаўных чутак ня можа быць...

**Кароль.** Ведаю.

**Пэтэр.** І таму трэба падрыхтавацца. Ведаеш, дынаміт падкладаюць загадзя, а потым толькі сьпічкай шнур запаляць—і гатова. (*Паўза*). Ну, таварышы, давайце пагаворым пра чарговыя задачы. Позна ўжо, думаю, што іншых ня будзе, у іх тэрміновыя заданьні.

**Ганц.** Давай, давай там.

**Пэтэр.** Раённы камітэт партыі зьвярнуў нашу ўвагу на тое, што работа на хімічным заводзе Крэзэра—адзін з баявых і найважнейшых вучасткаў нашай камсамольскай арганізацыі.

**Ганц.** Правільна! Я гэта даўно казаў.

**Пэтэр.** Цішэй, Ганц, потым будзеш гаварыць. Асабліва цяпер, калі дырэкцыя зрабіла такі манэўр, пры якім на заводзе засталася пераважная большасьць маладых рабочых, сацыял-дэмакратычны саюз моладзі ахапляе 79 процантаў яе.

**Франц.** Я ня зусім разумею гэты манэўр. Растлумач.

**Пэтэр.** Пасьля леташняй забастоўкі ўплыў камуністычнай партыі сярод старых рабочых Крэзэра дужа павялічыўся. Гэты склад рабочых, загартаваны ў баёх, ня дужа паддаецца намаганьням дырэкцыі. Калі эканамічны крызіс паставіў дырэкцыю перад фактам скарачэньня вытворчасьці, сярод зволеных апынулася пераважная частка

старых рабочых, тых рабочых, што пасьпелі так ці інакш прайсьці баявую школу. Зразумеў, Франц?

**Франц.** Справядлівасьць патрабуе прызнаць, што яны зрабілі геніяльны ход.

**Пэтэр.** Ні капейкі ня варта было-б наша змаганьне, калі-б вораг наш быў круглым дурнем. (*Сьмяецца.*) Яны зрабілі дужа разумны ход, гэта патрабуе ад нас яшчэ разумнейшага.

**Франц.** Я прапаную павесьці работу такім чынам, каб тыя рабочыя, што засталіся на Крэзэры, забаставалі.

**Кароль.** У знак салідарнасьці! Ідэя правільная, але дужа цяжка яе ажыцьцявіць.

**Пэтэр.** Цяжкасьці не павінны быць перашкодамі.

**Ганц.** І яшчэ прапаную. Арганізаваць галодны паход усёй Карлавай ускраіны. Як, га?

**Франц.** Мне здаецца, што гэта ня дасьць эфэкту.

**Ганц.** Ня дасьць эфэкту? Што ты?

**Франц.** Чаго ты дзівішся, ну, паходзяць людзі, а рэальных вынікаў надта ня будзе.

**Пэтэр.** Рэальныя вынікі, таварышы, гэта разуменьне шырокае. Яшчэ раз дэманстравацца салідарнасьць будзе, вось і рэальны вынік. (*Паўза*). Я яшчэ хацеў, таварышы, спыніць вашую ўвагу на апублікаваным сёньня лісьце фраў Вэнцэль. Гэтыя тыпы проста ў адчыненыя дзьверы ломяцца.

**Ганц.** Нахрапам бяруць!

**Пэтэр.** От слухайце. (*Бярэ газэту, чытае.*) „Для таго, каб рабочыя Нямеччыны пераканаліся самі ў тым, што бальшавікі, а ня Эўропа, ідуць на гібель, для таго, каб пераканацца ў тым, што шлях рэвалюцыі, шлях гвалту і ўціску,—гэты шлях пагібельны, я прапаную паслаць на мае грошы сапраўднага грамадзяніна Нямеччыны, шчырага і адданага рабочага ў Савецкі саюз“.

**Ганц.** Цікава, хто падыходзіць пад рубрыку сапраўдных грамадзян Нямеччыны?

**Франц.** Не перапыняй. А ты далей гані. Цікава!

**Пэтэр** (*чытае*). „Гэты рабочы павінен быць вытрыманы і сапраўдны сацыял-дэмакрат, ідэалам якога зьяўляецца вялікая Нямеччына, і, вядомая справа, не павінен мець нічога агульнага з камуністамі“.

**Кароль.** Ну, гэты нумар ім ня пройдзе!

**Пэтэр.** Але слухайце далей. „Я ўпэўнена, што грамадзянін, які наведае Савецкі саюз, ня вытрымае там і трох дзён, бо ў Савецкім саюзе, як паведамляюць нашыя газэты, страшэнныя парадкі, голад, пошасныя хваробы, распуста. Гэты грамадзянін у свае ўласныя вочы пераканаецца

ў тым, што толькі сьляпыя і неразумныя могуць верыць у дабрабыт бальшавіцкай краіны, толькі ворагі вялікай Нямеччыны могуць верыць у пяцігадовы плян".

Кароль. Гэта-ж чарговая антысавецкая прапаганда! (*Зрываецца з месца.*)

Ганц. Гэтая старая ведзьма занадта дазваляе сабе.

Пэтэр. Цішэй, Ганц, не хвалюйся. Тут ня толькі антысавецкая агітацыя, тут нешта большае.

Франц (*устае*). Што іменна?

Пэтэр. Гэта ўсё падрыхтоўка...

Ганц. Да выбараў?

Пэтэр. Так.

Франц махае рукой, нешта хоча сказаць.

Ганц. Яны працуюць здорава. Эх, паехаць-бы мне ў Савецкі саюз, паглядзець гэтую дзівосную краіну, і потым на ўвесь голас поўнымі грудзьмі пракрычаць на ўсю Нямеччыну праўду пра яе.

Пэтэр. І паехаць прыдзецца. Ёсьць пастанова камітэту партыі. Толькі, спадзяюся, на грошы фраў Вэнцэль нам ня прыдзецца ехаць. (*Сьмяецца.*)

Кароль. Ну, яшчэ чаго! Старая ад аднэй толькі ідэі тваёй богу душу можа аддаць.

Пэтэр. А вось гэтага сапраўднага грамадзяніна мы павінны адшукаць.

Ганц (*зрываецца з месца*). Кандыдатуру? У мяне ёсьць. Я знайду. (*Хоча бегчы.*)

Пэтэр. Чакай, чакай. Хто ён?

Ганц. Ён? Зволены з Крэзэра рабочы, дваццаць два гады, сацыял-дэмакрат. Як зволілі, пашоў парады прасіць да сваіх сацыялістаў, а яны яму сказалі, каб, склаўшы рукі, цярпеў.

Франц. Іншага яны і не маглі парадзіць.

Ганц. Імя гэтага рабочага—ЭдвардТымрад. Я пазнаёміўся з ім у заводзкай канторы Крэзэра. Доўга гаварыў, ён хістаецца.

Пэтэр. Кандыдатура, відаць, падыходзячая. Ён аўтарытэтны сярод рабочых?

Ганц. Дужа аўтарытэтны. Я, між іншым, чуў, што яго хочуць зноў прыняць на работу.

Пэтэр. Ах, вось як. Тады абавязкова яго трэба ўгаварыць на падарожжа ў Савецкі саюз. Даручаем гэта зрабіць табе, таварыш Грабэ.

Ганц. Хоць лопну, а зраблю. Ну, бывайце, пабягу.

Франц. Пачакай, я з табой. Таварыш Лянге! А ты зрабі, каб і нашы паехалі. Помніш? Нас камсамольцы Беларусі яшчэ на першамайскае сьвята да сябе запрашалі.

Пэтэр. Ёсьць пастанова камітэту. На гэты раз абавязкова паедзем. Шчасьлівай дарогі!

Ганц. Усяго!

Ганц і Франц уходзяць. Пауза.

Кароль. Ты чаму, Пэтэр, дахаты ня ідзеш? Позна ўжо.

Пэтэр. А тут яшчэ справы такія-сякія ёсьць... Ды мне звычайна Люіза звоніць... (*Глядзіць на гадзіньнік.*) Сем гадзін ужо... Яна звычайна звоніць а пятай, нешта затрымала яе...

Кароль. Харошая ў цябе, Пэтэр, жонка. Адданы таварыш, жанчына добрая... А скажы, Пэтэр, гэта дапамагае працы?

Пэтэр. (*сьмяецца*). Калі ёсьць добры таварыш, гэта заўсёды дапамагае. А Люіза... Люіза сапраўдны сябра. Ты што гэта распытваеш?

Кароль (*апускае вочы*). Я... Я... нічога. Я, ведаеш, так сабе... От да слова прышлося...

Пэтэр (*падыходзіць да яго*). Да слова? Ты кажы, калі што маеш...

Кароль. От, таварыш Лянге, надумаў я... сябра мець. Ты толькі ня сьмейся. Не. Ня ўтульнасьці сямейнай шукаю, ня гэтага хачу. Каб была... як твая Люіза, сябр сапраўдны, памочнік у барацьбе.

Пэтэр. Ну, от і добра. Утульнасьць—гэта рэч не для нас, Кароль. Мы на барыкадах. І каханьне нашае на барыкадах таксама... (*Пауза.*) А яна, дзяўчына твая, нашая?

Кароль. Нашая, таварыш Пэтэр. Пралетарка.

Пэтэр. Ну, давай руку, вітаю.

Звоніць тэлефон.

Кароль. Гэта па цябе. Люіза, відаць. Спакойнага сну зычу. (*Уходзіць.*)

Пэтэр (*ля тэлефону*). Так... так... Гэта ты, Люіза? Чаму так позна? Няшчасьце? Што-што? (*сьмяецца*) Ах, мяса падгарэла? Ну, ну... Я іду, іду. Праз пятнаццаць хвілін... Так... так... Цалую, цалую... Што? Моцна, моцна!

Кватэра Пэтэра Лянге. З правага боку—стол пад белай сурвэткай. Налева—канапа. Над ёй—каляізарны партрэт Карла Маркса. На канапе параскіданы газэты. Электрычная лямпачка ў сінім абажуры—нізка над канапай. Адчуваецца жаночая рука.

Люіза і тып з зялёным шалікам стаяць па абодвы бакі стала.

Люіза (*хвалюецца*). Зараз прыдзе Пэтэр. Я прашу, я патрабую, нарэшце, каб ты пакінуў нашу кватэру.

Тып. Ты, Люіза, зрабілася наіўнай. Твае патрабаваньні застануцца патрабаваньнямі, а я кватэры ня кіну. Няхай прыходзіць твой любы Пэтэр, гэты камуністычны разбойнік, які, на жаль, яшчэ ходзіць вольна па вуліцах сталіцы. Няхай ён прыдзе і я скажу яму...

Люіза. Ты ня маеш права гэтага казаць! Чуеш? Ня маеш права.

Тып. Не, не сумнявайся, язык у мяне не адсохне. Я досыць добра валодаю сваім языком. Асабліва пасьля таго, як я нарваўся на скандал на прадкалядным балю. (*Садзіцца*). Я, разумееш, Люіза, выпіў тады, ну, сьвята і ўсё такое, а мяне швэйцар ня пусьціў на баль... Няпрыемная, ведаеш, гісторыя. Каб мяне, хто стаіць на варце законаў нямецкай рэспублікі, ды ня пусьцілі на баль! (*Сьмяецца*).

Люіза. Сабачыя законы!

Тып. Што? Сабачыя законы? (*Сьмяецца*). Аднак, тое, што твой муж камуніст, ідзе табе, як бачу я, на карысьць. Але я адхіліўся ад тэмы... Уяві сабе, што твой любы Пэтэр даведаецца ад мяне, што ты дачка...

Люіза (*азіраецца*). Я прашу цябе!..

Тып. Нічога. Нас ніхто ня чуе. Дык вось ён даведаецца, што ты дачка старога паліцыянта, які ўсё сваё жыцьцё ненавідзеў чорнай нянавісьцю ўсякіх сацыялістаў, што ты сястра служачага чатырнаццатага аддзяленьня, які некаторых сацыялістаў нават паважае, але ў якога ёсьць нянавісьць да камуністаў... так! Да камуністаў, і ў тым ліку да твайго мужа... (*Устае.*) І твой муж у лепшым выпадку проста пакіне цябе, выганіць за дзьверы. Але не, ён гэтага ня можа зрабіць. Хіба можна цяперашнім часам кідацца людзьмі, якія ў курсе ўсіх спраў раённага камітэту камуністычнага саюзу моладзі? Ні ў якім разе. Ён цябе...

Люіза. Адольф! (*Закрывае твар рукамі.*)

Тып. Для цябе быў я Адольфам чатыры гады таму назад. Цяпер, здаецца, ты ня лічыш мяне за свайго брата. Аднак гэта твая справа. (*Пауза*). Ён цябе не адпусьціць. Не. Ён цябе застрэліць!

**Люіза.** О, божа мой! (*Плача*).

**Тып.** Бога клічаш? Цікавая сітуацыя. (*Сьмяецца*). Жонка выдатнага партыйнага работніка кліча бога. Але да справы, Люіза, ты хочаш, каб твой Пэтэр ня ведаў пра тваё мінулае?

**Люіза.** Адольф!

**Тып.** Так, хочаш. Ты, бязумоўна, хочаш застацца жывой?

**Люіза** (*плача*).

**Тып.** Хм! Які гэта дурань ня хоча застацца жывым? Ну, добра. Для гэтага трэба пагадзіцца з маімі прапановамі.

**Люіза.** Я не магу, я ня хачу!

**Тып.** Ня нэрвуйся, мая любая сястра. Што ты ня хочаш— я веру, але ў тое, што ты ня можаш, я ня веру. (*Устае*). Мне трэба сьпяшацца. Пэтэр зараз прыдзе. Значыць, ты па-старому будзеш даваць раз у пяць дзён інфармацыю пра справы камітэту. Згода. Згода? Ня бойся. Люіза, твайго любага мужа гэта ня тычыцца. Так? Ну, бывай. (*Зьнікае*).

Люіза кідаецца да дзьвярэй. Прыпыняецца пасярод пакою, праводзіць рукой па твары. Потым рукі апускаюцца, а з рукамі—і ўся постаць. І пакорная, няшчасная, яна ідзе да канапы.

**Люіза.** Пэтэр, Пэтэр! Што гэта такое? Што я нарабіла? (*Зрываецца з месца*). Не, гэта немагчыма. Немагчыма. Чуеш, Адольф? Немагчыма! (*Званок*). Ах. Пэтэр прышоў! (*Падбягае да люстэрка, прыводзіць сябе ў парадак. Бяжыць да дзьвярэй. Чуецца пацалунак.*)

**Голас Люізы.** Ах, так позна, Пэтэр!

Уваходзяць.

**Пэтэр.** Ну, ведаеш, справы розныя. На Крэзэры вялікую работу разгортваем, цяжкую, складаную работу.

**Люіза** (*каля стала, расстаўляе посуд*). Ты так змарыўся, Пэтэр. Ты столькі працуеш, любы!

**Пэтэр** (*падыходзіць да яе*). О, я ведаю, што ў хаце мяне чакаеш ты. (*Цалуе яе.*) Так і рабіць ахватней. Лягчэй. А цяпер разгортваем работу небясьпечную, таго і чакай, што ў дзяржаўнай здрадзе абвінавацяць. За кожным крокам сочаць... Ну, а тады—канец.

**Люіза.** Пэтэр! (*Падае з рук талерка.*)

**Пэтэр.** Што з табой?

**Люіза** (*хоча засьмяяцца*). Нічога. Проста так, выпадковасьць... Ідзі, родны, вячэраць.

Рэзкі званок.

Пэтэр. Што гэта? (*Ідзе да дзьвярэй. Люіза застывае на месцы*).

Галасы за дзьвярыма:

— Да вас дазвольце.
— Халодна дужа!
— І цёмна.
— Выпадкова знайшлі.

Шырака расчыняюцца дзьверы. Колькі жанчын нясуць нярухомую Рузіну.

Люіза. Пэтэр! Што гэта, Пэтэр? (*Кідаецца да яго*).

Пэтэр. Ціха, ціха, супакойся. Сюды кладзеце. Доктара. паклікаць. (*Ідзе да тэлефону*.)

Высокая жанчына. Ня турбуйся, сусед. Позна ўжо...

Люіза. Ааа... Мёртвая? Ды адказвайце вы мне, чаго маўчыцё?! Пэтэр!

Пэтэр. Ня нэрвуйся, Люіза. Я яшчэ сам нічога ня ведаю. Як здарылася?

Высокая жанчына. Вельмі проста, сусед. Іх раніцою з кватэры выселілі. Плаціць ня было чым. Муж ад учарашняга ня прыходзіў. Рузіна як няпрытомная хадзіла праз увесь дзень. Ну, а от вечарам ня вытрамала...

Люіза. Ааа. Гэта весялуха Рузіна! Я не спазнала яе. (*Нахіляецца над мёртвай*.) Маладая весялуха Рузіна...

Высокая жанчына (*спакойна*). Павесілася.

## РАЗЬДЗЕЛ ДРУГІ: КАНДЫДАТУРА

Габінэт фрау Вэнцэль

Фрау Вэнцэль. Вы ўпэўнены ў сваіх разважаньнях?

Сакратар. Мне так здаецца, фрау Вэнцэль.

Фрау (*б'е лёрнэтам аб далонь*). Вам здаецца? Гэтага мала, мілы мой, патрэбны абгрунтаваныя, дакладныя факты.

Сакратар. Іх ня так лёгка знайсьці, фрау Вэнцэль. Яны ведаюць пра нашу партыю больш, чым мы пра іх.

Фрау. Ооо! Я ганаруся тым, што наша партыя праводзіць сваю работу на вачох усёй Эўропы (*мяняе тон*.) Я вам загадваю праверыць чуткі, абавязкова. (*Паўза*). Але што, уласна кажучы, наштырхнула вас на гэткія думкі? Дзе прычына іх?

Сакратар. Рознае бывае, фрау Вэнцэль.

Фрау. Не, не. Адказвайце. Дзе прычына іх, я пытаюся.

Сакратар. Вы, фрау Вэнцэль, напэўна, помніце выпадак з лэдзі Астор?

Ф р а у. Ну?

С а к р а т а р. Яна таксама паслала ў Савецкі саюз ангельскакага рабочага і ён...

Ф р а у. Я даўно казала, што ангельская нацыя ідзе да гібелі. Што было з гэтым рабочым потым? Я ня помню.

С а к р а т а р. Ён не вярнуўся ў Ангельшчыну.

Ф р а у. З немцам гэтага ня можа быць. І Эдвард Тымрад да ўсяго—адданы сацыял-дэмакрат. Яго кандыдатуру мы горача абмяркоўвалі. Разумееце? (*Званок.*) Паглядзіце, хто там (*Сакратар зьнікае.*) Не, мне гэта падабаецца. Калі ласка, працуйце на карысьць бацькаўшчыны, калі нават мой сакратар пачынае сумнявацца ў вернасьці нашага ходу. О, гэты ход правільны. Тымрад прыедзе, мы возьмем яго ў свае рукі, прымусім гаварыць тое, чаго захочам мы, і вось выставім яго ў часе перадвыбарчай кампаніі перад пралетарамі сталіцы. Слухайце, слухайце, што кажа пра Савецкі саюз ваш брат, такі-ж пралетары, як і вы. Калі вы ня верыце нам, вы ня можаце ня верыць вашаму брату. (*У захапленьні бегае па пакоі.*) Мы возьмем гэтым тысячы галасоў, мы ўзьнімем аўтарытэт нашай партыі!

С а к р а т а р (*уваходзіць*). Да вас.

Ф р а у. Прасіце.

Уваходзіць Тып

Т ы п. Мне трэба бачыць фраў Вэнцэль.

Ф р а у. Можаце гаварыць. Я вас слухаю.

Т ы п. Ааа!.. Вельмі прыемна вас бачыць. Але мая справа вымагае поўнае асьцярогі. (*Глядзіць на сакратара*).

С а к р а т а р (*ля дзьвярэй*). Я вам не патрэбен, фраў Вэнцэль?.

Фрау. Вы можаце застацца ў суседнім пакоі. (*Сакратар зьнікае.*)

Т ы п. Надзвычайна добра. Цяпер я магу гаварыць нічога ня ўтойваючы.

Фрау. Сядайце.

Т ы п. Не клапаціцеся. (*Сеў.*)

Ф р а у. З кім маю гонар гаварыць?

Т ы п. Прозьвішча вам нічога ня скажа... Магу толькі сказаць, што працую ў чатырнаццатым аддзяленьні. Калі ласка. (*Працягвае дакумант.*) Аднак, мая прафэсія ні ў якім разе ня можа перашкодзіць маім палітычным пераконаньням...

Ф р а у (*аддае дакумант*). Так, вы маеце рацыю. Наша партыя ня цікавіцца прафэсіяй членаў яе... Гэта асабістая справа кожнага...

Т ы п. Аднак, партыя цікавіцца фінансавым становішчам...

Фрау. О, якое можа быць фінансавае становішча пралетараў Нямеччыны...

Тып. Я кажу пра вас...

Фрау. Бачыце... мае грошы партыя не выкарыстоўвае... Я іх аддаю ў камітэт...

Тып. Камітэтам кіруе партыя сацыял-дэмакратаў...

Фрау. Ну... Гэта кіраўніцтва ідэёвае. Аднак, чаму вас так цікавяць грашовыя справы?

Тып. Я прывык за сваю работу атрымліваць ганарар. Мецьжа справу з партыйнымі касірамі не ў маім гусьце.

Фрау. Я пакуль што ня бачу работы...

Тып. Вы яе ўбачыце...

Фрау. Тады вы будзеце мець справу са мной, а не з касірамі. Я вас слухаю.

Тып. У мяне ёсьць весткі пра камуністычную работу, якая праводзіцца камуністычным саюзам моладзі на заводзе Крэзэра.

Фрау. Ці ня лепш гэтыя весткі перадаць у чатырнаццатае аддзяленьне?..

Тып. Не, мы меркавалі пра гэта... Тут нельга ўбачыць дзяржаўнай здрады, агітатары працуюць з такім разьлікам, каб выбіць глебу з-пад ног вашай партыі.

Фрау. Гэта ім ня так лёгка ўдасца!

Тып. Але як ня сумна, трэба прызнацца, што гэта ім удасца.

Фрау (*усхопліваецца з месца*). Але работа, накіраваная супроць нашай партыі, зьяўляецца работай супроць Нямецкай рэспублікі.

Тып. Вы забываеце, фрау Вэнцэль, што ў Нямецкай рэспубліцы дэмакратыя. (*Сьмяецца.*)

Фрау. О! Дэмакратыя, пры якой гэтыя разбойнікі могуць рабіць усё, што ім хочацца супроць нас? Гэткую дэмакратыю я-б прыціснула...

Тып. На жаль, ня мы з вамі складалі канстытуцыю...

Фрау. Аднак, нашым дзяржаўным органам трэба быць больш пільнымі.

Тып. Вы хочаце прымусіць паліцыю агітаваць за вашую партыю? (*Сьмяецца.*) Гэта забясьпечыць хутчэйшы правал сацыял-дэмакратыі...

Фрау. У вас дужа рэвалюцыйныя погляды...

Тып. На жаль, толькі аб'ектыўныя. Вось чаму я і прышоў сюды, вось чаму чатырнаццатае аддзяленьне і даручыла перадаць весткі ў вашыя рукі. Гэты спосаб супрацоўніцтва, паверце, фрау Вэнцэль, куды лепш падыходзіць, чым іншы. Паверце, што дзяржаўныя органы церпяць вашую партыю толькі таму, што яны ня могуць справіцца адны...

Ф р а у. Я гэта разумею. Бліжэй да справы.
Т ы п. (*Працявае рукі*). Я казаў пра ганарар...
Ф р а у. Колькі?
Т ы п (*азіраецца*). Для знаёмых—сто марак.

Уваходзіць сакратар.

С а к р а т а р. Да вас дэлегацыя.
Ф р а у. Займецеся самі. Я занятая. (*Перадае грошы Тыпу.*) Вашыя весткі правераны?
Т ы п. Я-б ня браў грошай...
Ф р а у. Кім яны дастаўлены?
Т ы п. Люізай Лянге.
Ф р а у. Што?! (*Узьнімаецца*). Што вы сказалі?
Т ы п. Не хвалюйцеся. Гэтыя весткі атрыманы ад жонкі Пэтэра Лянге.
С а к р а т а р. Дэлегацыя ідзе сюды.
Ф р а у. Пройдзем у суседні пакой. (*Паказвае на дзьверы*). Дэлегацыяй займецеся вы. У мяне справы першай важнасьці. (*Ідзе.*)
Т ы п (*Ідзе ўсьлед*). Так, справы, якія ўжо каштуюць партыі сто марак...

Уваходзяць чатыры жанчыны.

С а к р а т а р. Фрау Вэнцэль даручыла мне выслухаць вас. Яна дужа занятая.
В ы с о к а я ж а н ч ы н а. Яна-б магла знайсьці для нас колькі хвілін, але гэта няважна, можна і без яе.
С а к р а т а р. Я слухаю вас.
Д р у г а я. Ох, колькі нас ужо слухалі за гэтыя дні. Слухалі, слухалі, а рады—ні на пфэніг.
С а к р а т а р. Вы прышлі па грошы? Зьвярнецеся ў камітэт дапамогі беспрацоўным.
В ы с о к а я ж а н ч ы н а. Не сьпяшайся, мілы чалавек. Раней выслухай. (*Да трэцяй жанчыны*). Ты кажы.
Т р э ц я я (*выступае наперад*). Казаць доўга ня прыходзіцца. Суседка нашая павесілася, Рузінай клікаць.
С а к р а т а р. Ну, і што далей?
Т р э ц я я. Што далей? Як у людзей спрадвек вядзецца—пахаваць трэба нябожчыцу.
С а к р а т а р. Ну, і хавайце.
Т р э ц я я. На гэта грошы патрэбны, дамавіну самі-ж ня зробім.
С а к р а т а р. Зьвярнецеся ў паліцыю.
Ч а ц ь в е р т а я. Няхай яна вас хавае.
В ы с о к а я ж а н ч ы н а. Ціха ты! (*Да сакратара*). Раней мы хадзілі і за мужчын, і за дзяцей сваіх малых, і за сябе прасілі. І ў вас, у камітэце дабрабыту і благачыннасьці, былі... Прасілі ўсё. Але відаць, просьбамі ня возьмеш.

Я праўду кажу, жанчыны?

Другая. Праўду.

Высокая жанчына. А цяпер-жа просім не для сябе, для мёртвай просім.

Сакратар. У нас не хапае для жывых. Вы скончылі?

Высокая жанчына. Для жывых не хапае, кажаш? А што вы даецё ім? Цярпеньне? Дзякаваць вам! (*Нізка кланяецца*). Пойдзем адсюль, жанчыны. Да іх паддамося, туды... за парадай...

(*Адна за аднэй уходзяць* .

Сакратар (*барабаніць аб стол пальцамі*). Дзіўны народ!..

(*Фрау Вэнцэль і Тып*).

Фрау. І ніякіх кампрамісаў! Чуеце? Ніякіх кампрамісаў.

Тып. О, для вашай партыі я зраблю ўсё.

Фрау. За работу, карысную партыі, мы заўсёды дзякуем.

Тып. Апрача падзякі...

Фрау (*уздыхае*). Маленькі капітал нашага камітэту заўсёды даступны такім адданым справе людзям, як вы...

Тып (*нахіляе галаву*). О, я зраблю ўсё, што ў маіх сілах на карысьць Нямецкай рэспублікі. (*Уходзіць*).

Сакратар. Фрау Вэнцэль! Вы чагосьці хвалюецеся?

Фрау. Вы яшчэ пытаецеся. З-пад нашых ног выбіваюць глебу, за намі сочаць штохвіліны, кожны наш крок вядомы камуністам... (*У хваляваньні ходзіць*). Я толькі што атрымала весткі пра разгортваньне камуністычнай работы на заводзе Крэзэра.

Сакратар. Вы верыце гэтым весткам, фрау Вэнцэль?

Фрау. О, на жаль, ім нельга ня верыць. Яны паступілі з верных крыніц.

Сакратар. Ад гэтага падазроннага чалавека з зялёным шарфам?

Фрау. Ён служачы чатырнаццатага аддзяленьня.

Сакратар. Тады весткам верыць можна. (*Паўза*). Вы паедзеце на паседжаньне камісіі дапамогі дзецям, фрау Вэнцэль?

Фрау. На паседжаньне камісіі? (*Зрываецца з месца.*) Ніякіх камісій! Далоў камісіі. Зараз-жа званеце ва ўсе канцы. Гэтыя палітыканы павінны быць тут, на нарадзе!

Сакратар. Вам патрэбны члены камітэту?

Фрау. Якія члены? Ніякіх членаў! К чорту! Мне патрэбны нашыя палітыкі, правадыры! Чым яны займаюцца? Чым? Яны гавораць прамовы, ліюць ваду, а ў іх пад носам праводзіцца работа, якая падрывае нас усіх. Чуеце?! Нас усіх! Дайце мне гэтых правадыроў, гэтых лысых красамоўнікаў. (*Прыпыняецца.*) Ооо... Калі яны на выбарах правяляць кандыдатуру майго мужа, я ім пакажу, я ім даваду... на што здольна жанчына!..

Заводзкая брама. Натоўп рабочых. Чакаюць на гудок. Адны грэюцца. Нехта сьпявае.

Першы рабочы. Каторая гадзіна?

Другі. Бяз чвэрці пяць. Пятнаццаць хвілін яшчэ.

Першы. Спраўныя потым людзі пайшлі, яшчэ і першага гудка ня было, а сабраліся ўсе.

Другі. Баяцца, каб ня звалілі.

Трэці. А ты хіба не баішся?

Другі. Чаму—не! Бачыш, прышоў.

Чацьверты (*падыходзіць*). Адпачываеце?

Першы (*дае месца побач*). Можаш і ты адпачыць. Сядай.

Чацьверты (*сядае*). Толькі з хаты, не пасьпеў яшчэ змарыцца. Закурым?

Другі. Закурым. (*Дастае папяросы*).

Трэці. Ці чулі вы пра тое, што кантора атрымала буйны заказ?

Першы (*закурвае*). Кажуць, з за мяжы. Ну, цяпер мы пратрымаемся на рабоце, покуль ня скончым заказу. Хоць на які месяц, а спакойнае сэрца будзе.

Чацьверты. А ў мяне дык спакою няма. От-жа на маіх вачох таварышоў звалілі, бяз дай прычыны ў голад людзей кінулі. Спакойны тут ня будзеш, не кажы.

Другі. Станкавога Карла з нашага цэху ведалі?

Трэці. Ну?

Другі. Кажуць, як звалілі яго, дык некуды сышоў з хаты і аж да гэтай пары няма. А жонка яго, маладая баба, ажаніліся толькі, павесілася...

Чацьверты. Самагубства—не навіна ў нашыя дні, штодня ў газэтах пра іх пішуць. Ня ведаюць людзі, што рабіць, выйсьце знайсьці дзе.

Трэці (*кідае папяросу*) А хіба ў гэтым выйсьце? (*Усё больш і больш падыходзіць рабочых.*)

Першы. Ня ў гэтым, вядома. Але калі-б звалілі мяне, ня ведаю, што-б рабіў. Пад благую хвіліну за сябе не адказваю.

Убягае газэтнік.

Газэтнік. Сьвежыя газэты! Сьвежыя газэты! Выкрыта фабрыка фальшывак. Каму сьвежыя газэты!

Уваходзіць Ганц.

Першы (*да газэтніка*). Нашай у цябе няма?

Газэтнік. Якой?

Першы. Нашай.

Газэтнік. Гэткімі не таргуем. (*Адыходзіць.*) Каму сьвежыя газэты. Ранішні выпуск, ранішні выпуск!

Ганц (*падыходзіць да рабочых*). Здаецца, таварыш пытаўся нашай газэты?

Першы. Ты-ж не газэтнік...

Ганц. Хоць не газэтнік, а маю. (*Выцягвае з кішэні*). Гэтую?

Першы (*азіраецца*). Гэтую...

Трэці. Што ў ёй, чытай.

Другі (*устае*) А я дык пайду, ня хочацца мне чытаць. (*Адыходзіць*).

Чацьверты. Палохаецца хлапец. (*Да першага.*) Ну, прачытай. Што камуністы пішуць?

Ганц. Пра ўсё пішуць. А ў сёнешнім нумары і пра вас.

Першы (*разгортвае газэту*). Гэтымі днямі адбудзецца галодны паход Карлавай ускраіны. Камуністычная партыя заклікае рабочых Крэзэра выйсьці на дапамогу сваім братом.

Трэці. Гэта што азначае?

Ганц. Забастоўку.

Чацьверты. Не, на забастоўку мы ня пойдзем. Ніколі.

Ганц. Значыць, вы згодны з тым, што чатыры тысячы вашых таварышоў па Крэзэры галадаюць?

Трэці. Хто згодзен? Ня ў гэтым справа. Але і мы можам застацца без кавалка хлеба.

Ганц. А тыя няхай галадаюць?

Чацьверты. От, заладзіў чалавек! І яны не павінны галадаць. Усім есьці трэба.

Ганц. Правільна. Значыцца, трэба зрабіць так, каб елі ўсе, каб елі і тыя, каго выкінуў эканамічны крызіс на вуліцу. Мы павінны дапамагчы сваім таварышом, бо, можа быць, яны дапамогуць нам заўтра. Толькі так павінны разважаць пралетары. А як гэтага можна дабіцца?

Падыходзіць Худы рабочы.

Худы. Закурыць дайце. (*Усе глядзяць на яго.*) Чаго пазіраеце? Убачылі дзіва, ці што? Закурыў-бы свайго, але няма. Дайце.

Першы. Ты хто такі?

Худы. Не пазнаеш, Отто? (*Сьмяецца.*) Хіба я так зьмяніўся за гэты месяц, што свайго таварыша не пазнаеш? Ня дзівіся, Отто, дай драбок тутуню, падзякую.

Першы. Слава гонару, ня ведаю цябе. Хто ты?

Худы. А закурыць даць усё-ж такі варта.

Трэці. (*дае папяросу*). Куры.

Худы. Дзякую. (*Закурвае*) Дык і не спазнаў, Отто? А Пільмана помніш?

Першы. Пільман хадзіў у бліскучых жоўтых камашах...

Худы (*глядзіць на свае атопкі*). Свае бліскучыя шагрэневыя камашы Пільман прадаў за кілёграм сітняка. (*Крута паварочваецца, крычыць.*) Эй, цётачка, хадзі сюды! Ты яшчэ тут ня брынчэла.

Уваходзіць высокая жанчына. Праз плячо ў яе лёзунг.

Высокая жанчына. Даюць, але скупа. Аджа пфэніг бедняка даражэй маркі багацея.

Худы. Правільна, цётачка. (*Да рабочых.*) Ну, таварышы, скіньце па маленькай на добрую справу.

Ганц. Гэта, таварышы, збор у фонд беспрацоўных Карлавай ускраіны. На гэтыя-ж грошы арганізуецца і паход. (*Кідае ў скарбонку грошы.*) Ахвяроўвайце, таварышы.

Худы. Цётачка, ідзі ўздоўж галярэі, там шмат народу сядзіць. Гэй, таварышы, грамадзяне, людцы добрыя, мядзяк да медзяка—залаты будзе. Сыпце, любенькія!

Голас. На турму сабе зьбіраеш?

Худы (*насьвістваe*). Разам з табой, таварыш, сядзем, не бядуй. (*Уходзіць.*)

Ганц (*глядзіць яму ўсьлед*). Гэта сапраўдны пралетар...

Першы. Не пазнаў, шчырае слова, не пазнаў. А гэта-ж і сапраўды Пільман. Месяц, як звольнілі яго. (*Рэзка.*) Вы, як хочаце, а я—за забастоўку! (*Шпаркімі крокамі ўходзіць*).

Гудок. Расчыняецца брама. Гоман. Сьмех. Лаянка. Людзі ідуць на завод; Гудзіць сырэна

Калі шум сьціхае, да Ганца падыходзіць Люіза.

Люіза. Таварыш Грабэ!

Ганц (*абяртаецца да яе*). Таварыш Люіза! Чаго вы тут?

Люіза (*бярэ яго за руку, відаць, што яна хвалюецца*) Таварыш Грабэ, вы ня бачылі Пэтэра?

Ганц. Ён напэўна ў камітэце.

Люіза. Яго там няма. Я званіла, я тры разы званіла.

Ганц. Ну, тады ён у камітэце партыі.

Люіза. Вы ўпэўнены ў гэтым, таварыш Грабэ? А калі яго і там няма...

Ганц. Калі яго там няма, дык ён дзе-небудзь на прадпрыемстве. У нас гарачая пара, таварыш Люіза.

Люіза. Не... Ён напэўна там... Ён ня можа быць у іншым месцы. Я так хвалююся.

Ганц. Што вас усхвалявала?

Люіза. Ня ведаю... Ня ведаю... Нешта ад самай раніцы праз цэлы дзень нічога рабіць не магу... Слухайце. А яму не пагражае...

Ганц. Арышт? (*Сьмяецца*). Покуль што не.

Люіза. Вы кажаце—покуль што?

Ганц. Я кажу покуль што, бо мы жывем у дэмакратычнай Нямецкай рэспубліцы... на чале з Гітлерам!

Люіза. Ах, вы жартуеце! Ведаеце, мне здаецца... Не, я проста хвалююся, дужа, дужа.

Ганц. Вы нешта хацелі сказаць.

Люіза. Нічога, апрача таго, што я сказала. Слухайце, а на які дзень прызначаны паход беспрацоўных?

Ганц. На той-жа самы, на які прызначана абвяшчэньне забастоўкі на Крэзэры.

Люіза. Я не ведаю гэтага дню.

Ганц. І... я ня ведаю.

Люіза. Вы зноў жартуеце. Са мной можна гаварыць сур'ёзна.

Ганц. Не, я не жартую, таварыш Люіза. Гэта вядома толькі тым, хто гэтую забастоўку будзе рабіць.

Люіза. Гэтага ня ведае і Пэтэр?

Ганц Гэтага ня ведае нават і Пэтэр. Калі-б пра гэта ведалі, забастоўку сарвалі-б. Ёсьць гэткія ахвотнікі да нашых...

Люіза (*уздрыганула*)

Ганц. Чаго вы ўздрыганулі?

Люіза. Гэта так... Мне проста крышку холадна. Пойдзем адсюль, мне здаецца, што нас нехта слухае.

Ганц. У вас дарэмная турбота... Зашпіліце паліто... і сапраўды холадна. (*Уходзяць*).

З розных бакоў бягуць газэтнікі.

Першы. Цсс! Гэта трэба зрабіць так, каб ніхто ня ўбачыў.

Другі. Інакш нам ніколі не даручаць гэткай работы.

Трэці. А ведаеце, хлопцы, калі я вырасту—камуністам буду. Цікавыя людзі і работа ў іх...

Чацьверты. Страшная!

Трэці. Чаго? Страшная?

Чацьверты. Вядома. Таго і глядзі, каб паліцыянт ня ўбачыў. Няма чаго казаць—цікавая!

Трэ'ці. Ну, і ваяка! Табе-б толькі прадаваць свой паганы лісток. А калі тут, можна сказаць, зямля ўся дрыжыць, калі бацькі і браты б'юцца, тут... ого!,.. Тут трэба бальшавіком быць.

Першы (*у гэты час лічыць лістоўкі*). Ціха вы! От бярыце гэтыя паперы, па роўнаму падзяліў. Клей узялі?

Другі (*выцягвае з-за пазухі бутэльку*). Узяў.

Першы. Ну, дык давайце клеіць.

Чацьверты. Ціха! Ідзе вунь. (*Усе ўзіраюцца.*) Крычы, рыжы!

Трэці. Сьвежыя газэты! Ранішні выпуск! Каму сьвежыя газэты! (*Разьбягаюцца*)

Паліцыянт ідзе павольнымі крокамі, размахваючы сваёй гумовай дубінкай.

Голас чацьвертага газэтніка Новая фабрыка фальшывак! Сэнсацыя! Сэнсацыя!

Голас першага газэтніка. Сьвежыя газэты! Апошні выпуск! Апошні выпуск.

Паліцыянт, хістаючыся на раскінутых нагах, сьпявае пад нос.

Нямеччына, Нямеччына, вышэй за ўсё... Нямеччына, Нямеччына... Ці-та-та-ці.

## НА ПЛЯЦЫ

Месца дзеі тое-ж, што і ў экспазыцыі. Шумна. Народ. Сьцягі. Плякаты: „Хлеба і работы“. Музыка. Чуваць, што людзі ідуць суцэльнай масай.

Ганц (*узвышаецца над натоўпам*). Мы вышлі сёньня, каб заявіць капіталістам і ўсім тым, хто здраджвае справе рабочых, што пралетарыят нашай краіны ня будзе пакорліва пераносіць голад і тыя зьдзекі, якія ўчыняюць так званыя абаронцы нямецкай нацыі, сацыялісты.

Галасы:

— Хлеба!

— Работы!

— Далоў чорнага цэрбера Гітлера! Далоў тэрор!

Ганц. Ідзе нячуваны віхор сусьветнага крызісу. Вы, пралетарыі Нямеччыны, самі адчуваеце подых гэтага крызісу. Вашыя дзеці галадаюць, яны тысячамі паміраюць бяз чэрствае скарынкі хлеба. Нашыя браты і сёстры канчаюць сваё жыцьцё самагубствам. Нямецкая рэчаіснасьць налічвае сотні і тысячы выпадкаў самагубства. Выпадкі робяцца сыстэмай.

Высокая жанчына. На нашай вуліцы за тыдзень два самагубствы. Толькі-ж гэта ня выйсьце, таварыш.

Ганц. Вы чуеце, што кажа гэтая жанчына? Правільна, не ў самагубстве трэба шукаць выйсьця.

Худы рабочы. Калі-б у гэтым было выйсьце, дык і на сьвет нараджацца ня варта было. У Нямеччыне, скажам, шэсьць мільёнаў беспрацоўных, і, калі-б кожны застрэліўся, накладна было-б.

Голас. Ня ў гэтым выйсьце, вядома. Выйсьце ў барацьбе.

Другі. Эх-бы скруціць шыю гэтым сволачам, сваімі-б рукамі.

Трэці. Усім не адкруціш. Ня рукамі тут трэба дзейнічаць.

Ганц. Правільна, таварыш. Ня рукамі, а сілай, арганізаванай сілай.

Голас. А чаму, грамадзяне, няма нікога з камітэту дапамогі беспрацоўным? Мне гэта адразу ў вочы кінулася.

Другі. Не пасьпелі крупнік, відаць, разьліць.

Трэці (*засьмяяўся*). Чуў, што камітэтчыкі парсючкоў нашым крупнікам адкормліваюць.

Жаночы голас. Для іх парсючкі даражэйшыя, чым нашыя дзеці. Учора прасіла, каб лішнюю лыжку ўлілі для дзяцей, плакала і нічога.

Голас. Кожнаму па лішняй ня выйдзе. Але вы мне пра начальства камітэцкае скажыце. Дзе яны?

Ганц. Яны? Сацыял-дэмакраты баяцца выступаць з такімі патрабаваньнямі, якія напісаны на нашых плакатах. Пытаньні беспрацоўных яны хочуць вырашыць міскай крупніку. А ведаеце, таварышы, што хаваецца за гэтай міскай крупніку?

Худы. Баязьлівасьць і панікёрства. Пустыя словы, якія ня робяць уплыву на мяне. Я кінуў сацыял-дэмакратычную партыю.

Ганц. Рана ці позна гэта зробяць усе. Але ёсьць яшчэ рабочыя, якія ідуць за сацыял-дэмакратамі. Іх робіцца ўсё менш і менш, але яны ёсьць. За міскай крупніку хаваецца простая здрада пралетарыяту.

Голас Таварышы! Калёны пратэстуючых ідуць з усіх бакоў Карлавай ускраіны. У нас мала часу, таварышы. Пойдзем на пляц. Там—мітынг.

Ганц. Усе, таварышы, на мітынг. Хто ня чуў, чаго хочуць камуністы, ідзеце слухаць.

Музыка. Песьня. Рытмы маршу. Чуваць: „Рот фронт“

Галасы:

— Сьцяг наперад!
— У калёну давай.
— Слухай, што скажа камуністычная партыя!

Паволі сцэна пусьцее.

Люіза (*сьпяшаецца*). Таварыш Грабэ!

Ганц (*прыпыняецца*). Я слухаю, таварыш Люіза.

**Люіза.** Слухайце... Я дужа хвалююся!.. Я хацела... Скажыце Пэтэру, што яму ня трэба выступаць. Папрасіце яго. Заклінаю вас!

**Ганц.** Супакойцеся, Люіза. Вы хочаце немагчымага. Партыя нам загадала быць сёньня з пралетарыятам на вуліцах, і мы выконваем гэты загад. Я і Пэтэр—салдаты рэвалюцыі.

**Люіза.** Ня трэба, Ганц! Ня трэба гэткіх слоў... Прасьцей трэба... Я адчуваю, вы разумееце,—адчуваю, што... яму ня трэба выступаць для мяне, для майго будучага сына... Скажыце яму, Ганц.

**Ганц.** Прабачце за ўрачыстыя словы, але я сёньня агітатар. Барацьба ведае патас урачыстасьці і іншай мовай я гаварыць не магу.

На пляцы пачаўся мітынг. Гукі яго далятаюць сюды.

**Люіза.** Але вы скажэце Пэтэру...

З дзьвярэй выходзяць людзі ў шэрых гарнітурах. Яны, азіраючыся, бягуць у бок пляцу

**Ганц** (*хапае Люізу за рукі*). Маўчыце! Вы бачыце...

**Люіза** (*спалоханым шэптам*) Хто гэта?

**Ганц.** Ціха! Пойдзем хутчэй... Ну, сьмейцеся! Расказвайце вясёлыя гісторыі! (*Бярэ яе пад руку і траха што праз сілу цягне яе*). Сёньня дзівосны дзень, фраў Люіза!

**Люіза** (*са стогнам*). Хто гэта, Ганц?

**Ганц.** Не хвалюйцеся... Цудоўны дзень, толькі гэтыя непакойныя рабочыя... (*Шэптам*) Хутчэй ідзём, папярэдзіць. Гэта—гітлераўскія штурмавікі. Значыць...

**Люіза** (*амаль павісла на Ганцавай руцэ*). Значыць...

**Ганц...** і паліцыя блізка! (*зьнікаюць*).

Фраў Вэнцэль, сакратар, тып з зялёным шалікам і колькі шэрых асоб.

**Фраў.** І я ўпэўнена, гэта толькі пачатак. Мы нічога ня ведалі пра дзень выступленьня. Рабочыя ў руках камуністаў.

**Сакратар.** Ня трэба хваляваццa, фраў Вэнцэль.

**Фраў.** Не хвалявацца? Дык вы загадаеце сядзець, склаўшы рукі, як робяць некаторыя з нашых правадыроў! О, не! Я пайду туды, на пляц, я буду гаварыць. Няхай...

**Тып** (*Падыходзіць да яе*). Я вам ня раю ісьці на пляц. Там пахне...

**Фраў.** А вы адкуль узяліся? Чым там пахне?

**Тып.** Ваш сакратар кажа праўду, ісьці туды позна. Там пахне...

**Сакратар** (*нюхае паветра*). Пахне... па-мойму... порахам!

Ф р а у. Ах! (*Прысядае на зямлю, тое-ж робяць шэрыя асобы*).

Т ы п. Вы маеце рацыю! (*Убягае.*)

Крыкі. Гругат—гэта паляцела аб брук так каменьне

— Паліцыя!
— Гітлераўцы!
— Бяжы!
— Не адступай!

Бягуць людзі. Чалавек кідае сьцяг. Яго падхоплівае хлопчык.

— Ну, і ваяка! А сьцяг, сьцяг!
— Уцякай!
— Б'юць!

Жаночы плач. Налятае паліцыя. Людзі ў шэрых гарнітурах з рэвальвэрамі. Рукапашная. Крыкі

Х у д ы (*паднімае камень, размахваецца*). Таварышы! Не адступай. Бі сабак! (*Кідае камень*)

Рукапашная канцэнтруецца ля худога. Здалёк пачуўся стрэл. Камень трапіў у люстраныя дзьверы. Пасыпалася шкло. У правале дзьвярэй—дула кулямёту. Яго не заўважаюць

Бі іх, бі!
— Страляюць!
— Ай!

І раптам над усім гэтым вырастае працяглы гуд сырэны. На хвіліну бойка сьціхае

К а р о л ь Б р э й т э р (*паяўляецца над натоўпам*). Таварышы! Чуеце?! Рабочыя Крэзэра абвясьцілі забастоўку. Ура, рабочым Крэзэра! (*натоўп паглынае яго, па іх страляюць*)

Урра!
— З намі рабочыя!
— Нашы!
— Не адступаць!
— Урра!

Ф р а у В э н ц э л ь (*высоўвае галаву з-за перакуленае лавы*). Ааааx! Гэта немагчыма...

С а к р а т а р (*з супроцьлеглага канца, таксама з-за лавы*). Парадак адноўлены, фрау Вэнцэль.

Ф р а у. Я думаю... (*намагаецца ўстаць*) Я думаю, што парадак... (*стрэл*)

Фрау Вэнцэль хавае галаву, але на гэты раз можна бачыць сьмешна скурчанае яе тулава

## РАЗЬДЗЕЛ ТРЭЦІ: ЭДВАРД ТЫМРАД У САЮЗЕ

### КАМСАМОЛЬСКІ ПАКОЙ

Вялікі пакой клюбу ў камскмольскім інтэрнаце дрэваапрацоўчага прадпрыемства. Шахматныя столікі, стол з газэтамі. З левага боку—тыр, у якім за цэлі—карыкатуры Гітлера, фон-Папэна, Эрыё, Пуанкарэ. Шафа з музычзнымі струмантамі.

Вечар. Верка і Пятро за шахматамі.

Косьцік з дробнакаліброўкай ля ты.

Хлопец „на два" трынкае на балалайцы. Камсамольцы заняты хто чым

Косьцік (*стоячы на калене, цэліцца*). Не, як ні кажы, Пятрусь, а я таварыша Брэйтара пераганю. Учора Гітлеру проста ўсамую кропку трапіў. (*Усе зарагаталі.*) Чаго вы? Я праўду кажу. У самую кропку!

Пятро. Куды, куды?

Косьцік. Ай, ідзі ты к сабакам! Заўсёды перакручваеш словы. У нос трапіў! Зразумеў.

Пятро. Ах, у нос! А я думаў у кропку...

Верка (*робіць ход*). Ну, а што вы цяпер скажаце, дарагі таварыш? Канец вам, як ня круціце.

Пятро. А я от вам скажу, мая сымпатошная, што вы прамазалі, алох вашым!

Косьцік (*кладзе вінтоўку і падыходзіць да іх*). Кіньце вы гэты сухі...

Верка. Штооо?

Косьцік. Штооо? Кажу кіньце сухі насмарк...

Русявы камсамолец. І займецеся мокрым насмаркам? (*Бярэ вінтоўку і вымае неўзаметку патрон*).

Косьцік. Ты не перапыняй. І паглядзіце, як я выбіваць буду, на Гітлера зуб маю.

Русявы. Ну, ну, давай. Давайце, хлопы, паглядзім нашага чэмпіёна. Брэйтэра перагнаць хоча.

(*Усе сочаць за Косьцікам*)

Косьцік (*доўга і ўпарта цэліцца*). От у самы нос траплю, расшыбу сволача. Камандуй там.

Русявы. Ну, давай. Раз, два, тры!

(Косьцік *націскае курок, але вінтоўка не страляе. Усе рагочуць.*)

Пятро. Ну, і стралок.

Косьцік. Асечка?

Верка. Гэта ў цябе асечка. Ты паглядзі, ці патрон ёсьць.

Косьцік (здэтанавана). Няма... І сапраўды няма... Ах, сукіны каты! Хто патрон узяў?

Русявы. На, бяры. Толькі добры стралок вінтоўкі ня кідае і правярае зарад. Навучыся гэтаму, тады і Брэйтара пераганяй. Зразумеў?

Косьцік (*пагражае кулаком*). Я табе... сукін сын! Столькі цэліўся... Жарты строіць...

Русявы. Ведаю... Кулакамі ты спрыцен, а от вінтоўкай валодаць навучыся—гэта справа.

Косьцік. Вучы вучонага...

Верка. Не навучыш...

(Косьцік ставіць вінтоўку і садзіцца за газэту).

Хлопец „на два“ (*брынчыць на балалайцы*):

Захацелася маркоўкі.
Я на рыначак пашла.
Эх, ну-ка, што за штука,
Я на рыначак пашла.

Косьцік. Сьціхні. Чытаць перашкаджаеш.

Хлапец „на два“. А ты ня слухай, калі перашкаджаю.

Я ўвесь рынак абхадзіла
І маркоўкі не знайшла.
Эх, ну-ка, што за штука.
Я маркоўкі не знайшла.

Косьцік (*кідае газэту*). Я табе кажу, ці не? Простымі словамі кажу—кінь.

Хлапец „на два“. Простых слоў не разумею.

Верка. Ты яму па-французску сыпані.

Косьцік. Я яму па-французску магу, на дзьве лапаткі.

Хлапец „на два“. Ну, ну, лятчэй на паваротах... Мы гэта таксама ўмеем. Хачу сьпяваць і буду, хоць галавой аб сьценку стукайся.

Мне ня трэба пуд гароху.
Мне адну гарошыну.
Мне ня трэба многа дзевак,
Мне адну харошую!

Косьцік. Боўдзіла!

Хлапец „на два“ (*кладзе балалайку*). Што?Што ты сказаў?

(*Устае*)

Косьцік. Тое, што чуў. Боўдзіла ты, кажу!

Хлапец „на два“ (*ідзе да яго*). Бяры словы назад, лаяцца я тут не дазволю, статуй ты гліняны.

Верка. Не разыходзьцеся там, ваякі! Ты, Санька, хоць і хлапец на два...

Камсамолец. Ды яшчэ з прысыпкай!..

Верка. ... і з прысыпкай, але шумець ня маеш права.

Хлапец „на два“. Я шумлю? Я шумлю? А мне, можа быць, нудна, нуда зялёная сэрца выядае.

Косьцік. Да доктара схадзі, ён бюлетэнь дасьць, ты ахвотнік да гэтага...

Хлапец „на два". Ты... Камсамолец яшчэ, таварыш...

Косьцік. Ці камсамолец я, пра гэта гутарка на ячэйцы будзе. А тое, што ты ня прышоў учора на сход брыгады, гэта факт.

Пятро. Ой, хлопцы! Куды вы заехалі. Санька ўчора працаваў дзьве зьмены. Ты, Косьцік, ня правы.

Косьцік. Дык хай і маўчыць.

Хлапец „на два". Маўчаць? Прышоў адпачыць, на струманце пабалавацца, а ты замінаеш. Добры адпачынак! Вясёлага хочу, разумееш? Каб маладосьць...

Верка. Ты от шахматамі займіся, гэта куды лепш тваіх дрындушак.

Хлапец „на два". Дрынудушкі? Ты мае песьні не абражай, іх у нас на вёсцы сьпяваюць.

Верка. А ты нашу засьпявай.

Хлапец „на два". Шахматы, кажа... Штодня шахматы? Уткніся, як дурань, і пацей. Я песьню хочу!

Пятро. Сьціхні, Санька. Чаго вы ўзьеліся на яго. Хіба ён ня праўду кажа? Трэба і павесяліцца, гэта рабоце дапамагае вэнь як. Толькі весялосьць разумная павінна быць, пра гэта і на ячэйцы паставіць пытаньне трэба. Толькі ты, Санька, не разумееш аднаго.

Хлапец. „на два". Чаго гэта?

Пятро. Каб весяліцца, трэба разам, гуртам. Тады і сапраўды весела будзе. А ты хочаш, каб як адзін, без калектыву ўсяго...

Камсамолец. Правільна Пятро кажа. Санька хоць і даўно ў горадзе, а ў вясковае карыта глядзіць.

Хлапец „на два". Гуртам... Я разумею, што гуртам. А от, вы ня хочаце...

Верка. Мы?... Мы ня хочам? (*Хапае яго за рукі і пачынае кружыцца*). Ах ты апартуніст, ах ты малавер! А ну, выкручвайся цяпер!..

Хлапец „на два" (*дабратліва*). Ідзі ты, Верка, пусьці, закруцішся ..

Верка. Я закручуся? Ого! Трымайся, Эўропа? Санька ляціць. (*Адрывае рукі, Санька падае. Рогат.*) Наша вам!

Косьцік. От табе і Верачка. Баявая ты баба!

Верка. Хто-о?

Косьцік. Ах, выбачай, ня баба, а дзяўчына.

Уваходзіць Васіль, Эдвард і Кароль,

Русявы. Нямецкім таварышом—салют.

Кароль. Рот фронт, геноссэ!

Усе. Рот фронт!

Васіль. Нечаканыя падзеі, таварышы...

Верка (*спалохана*). Якія?
Камсамолец. Што здарылася?
Косьцік. Ты кажы хутчэй.
Кароль (*сьмяецца*). О-о-о... Геноссэ Васіль пужае вас... Нічога страшнага. Мы едзем Дойтшлянд.
Косьцік. Вы едзеце?
Эдвард. Яа.
Косьцік. Ух, шкада! А я толькі хацеў вас на спаборніцтва па дробнакаліброваЙ выклікаць. Я тут практыкаваўся ўсё...
Кароль. Ооо- геноссэ... Костусь. Нічога. Гут... Ты будзеш а ганц снайпер. Мы стрэнемся. Праўда, таварышы?
Хлапец „на два“. У вашым Бэрліне...
Кароль. (*сьмяецца*). О-о-о! Наш Бэрлін... Мы павінны сустрэцца... чырвоны Бэрлін... (*працягвае яму руку*). Праўда?
Косьцік. Праўда, таварыш Кароль.
Верка (*да Тымрада*). Табе не спадабалася Беларусь, таварыш Эдвард?
Эдвард. Вайсрусьлянд? О! Вайсрусьлянд! Яя... Я... Іх лібэ совэтышэ Вайсрусьлянд! Я... Бэрлін... ня хочу...
Васіль. Ты ня хочаш ехаць у Бэрлін?
Кароль. Яа, Эдвард ня хоча ехаць... У вас... (*паднімае рукі*) у вас... харошае жыцьцё. Толькі... нас чакаюць Бэрлін... Там—фронт.
Эдвард. Фронт.
Верка. Мы так прывыклі да вас, таварышы, нібы як свае... Шкада, што едзеце.
Васіль. Шкада, гэта верна. А толькі, Верка, у іх там—фронт, вялікая клясавая барацьба, і фронт яе—цяжкі.
Хлапец „на два“. Хоць песьню вашу, ротфронтаўскую прасьпявайце яшчэ раз... Я тут на гэтай... на балалайцы... матыў падбіраць пачаў...
Эдвард. Оо... Гэта можна (*Паказвае рукой*) Аллэ... Усе...
Верка. Давайце усе. Пачынай, таварыш Эдвард.

Раптам дзіка загула сырэна.

Косьцік. Што гэта?
Хлапец „на два“. (*Кідае балалайку*). Трывожны?
Русявы. Трывожны гудок. Нешта здарылася. Пашлі хлопцы. (*Убягае, за ім рэшта*).
Галасы:
— Пашлі.
— Хутчэй.
— Нешта здарылася.
— Трывога!
Эдвард. І я... Фронт, цяжкі фронт!

Тонэль вадзяной падстанцыі цёплаэлектрацэнтралі прадпрыемства. Нізкае скляпеньне тонэля асьвятляецца цьмянымі лямпачкамі. Б сьперапынку гудзіць сырэна.

Дырэктар (*зашпільвае на хаду гузікі палита*). Мне званілі з падстанцыі... Тут аварыя...

Сакратар. Але якая? Спынілася падача вады?

Дырэктар. Так, так спынілася. Труба зноў дала расьселіну. Ледзь з прарыву вышлі, а тут зноў.

Сакратар. Гэта пагражае...

Дырэктар. Ты-ж помніш леташнюю аварыю... Рылі тры тыдні, покуль знайшлі... Ідзем хутчэй... (*зьнікаюць*).

Косьцік (*зусім засопся*). Хутчэй, хлопцы! Не адставай.

Русявы. (*абганяе яго*). Па-баявому, камсамольцы.

Убягаюць комсамольцы. Трывожны шум. Сырэна сьціхае.

Васіль. Дырэктар тут?

Косьцік. Зараз паклічу. Адзін момант. (*Зьнікае*).

Васіль. Туды далей не прайсьці ўсім. Давайце тут пачакаем. (*Пауза*).

Верка. Брр... Якая цішыня. Нават жудасна. Ды скажыце хоць слова!

Васіль. Пачакай, дырэктар ідзе і нехта яшчэ... Ах, сакратар партколектыву. Я яго зблытаў.

Дырэктар, сакратар, інжынэр, Костусь.

Русявы. Таварыш Бабчанка, трэба, каб па цахох супакоілі. А то яшчэ чаго добрага работу пакідаюць.

Дырэктар. Твая заўвага правільная, але позьняя.

Русявы. А што?

Дырэктар. Праз пяць гадзін прыдзецца...

Верка. Што прыдзецца?

Дырэктар. Прыдзецца спыніць работу надоўга...

(*Пауза*)

Сакратар. Трубу зноў прарвала. Падача вады паслаблена. Расьселіна можа павялічыцца і электрастанцыя вады не атрымае.

Хлапец „на два“ Дык... дык... ліквідаваць расьселіну.

Дырэктар. Гаварыць лёгка. Памятаеце летась? Тры тыдні рыдлёўкамі рылі, покуль знайшлі.

Васіль. Але прамфінплян... пераходны сьцяг?

Дырэктар (*разводзіць рукамі*). Трэба зараз-жа абмеркаваць, склікаць сход.

Косьцік. А што калі...

Сакратар. Ну?

Косьцік. Палезьці! Туды! У сярэдзіну...

Дырэктар. Што ты! Гэта небясьпечная рэч. (*Да інжынэра*) Што вы скажаце?

Інжынэр. Так, таварышы, гэта дужа небясьпечная рэч... Але...

Верка. Але?

Інжынэр. Здароваму хлапцу...

Васіль. Можна? Таварышы, я лезу! (*Падаўся наперад*).

Дырэктар. Пачакайце! Што вы робіце? Гэта... гэта... пагражае...

Васіль. Чым? Сьмерцю? (*Пауза*). Эх, можа... вывезе!

(*Зьнікае*).

Сакратар. Трэба яму на падмогу. Хто яшчэ палезе? Ну, хто там, таварышы?

Верка. Я... Я, таварыш Бабчанка!

Дырэктар. Нээ... Трэба... Трэба моцнага чалавека, хлапца. (*Абводзіць усіх вачыма*)

Эдвард (*Выступае наперад*). Іх...

Сакратар. Што?

Эдвард. Іх... Я палезу (*ідзе*).

Дырэктар. Спыніся! Затрымайце яго, таварышы!

Інжынэр (*кідаецца за ім*). Гэноссэ!

Кароль (*загароджвае дарогу*). Ооо... Мы там... цяжка для чужых, для капіталістаў... А тут—свае...

Верка (*ціха*). Свае...

(*Пауза*).

Хлапец „надва". Я пайду туды... Абвязаць іх трэба вяроўкай...

Дырэктар. І мы пойдзем... А рэшта няхай тут застанецца... Хто-небудзь няхай паведаміць па цахох, што небясьпека адцягнена...

(Утрох ідуць. Русявы кідаецца ў другі бок).

Косьцік. Таварыш інжынэр, гэта і сапраўды дужа небясьпечна?

Інжынэр. Што небясьпечна?

Косьцік. Лезьці туды? Там... вузка?

Інжынэр. Так, так! Там... ну, ня больш трох чвэрцей мэтра... Але галоўнае, там, бачыце, калена, згін... (*Малюе кіем па пяску*). От глядзіце... Труба ідзе так, потым звужаецца...

Косьцік. Я нічога ня бачу, таварыш інжынэр. Цёмна.

Інжынэр. Ах, так зусім цёмна. Я і не заўважыў, закруціўся зусім... (*Вымае электрычны ліхтарык*). Ну, от глядзіце цяпер...

Кароль (*Да Веркі*). Там... Бэрлін... я раскажу... Бальшавік!

Верка. І таварыш Тымрад. Ён таксама сапраўды бальшавік.

Кароль. Найн... (*матае галавой*). Сацыял-дэмакрат... Ён будзе бальшавік!

Хлапец „на два“ (*выбягае*). Знойдзена! Хлапцы, родненькія, бяжыце па рыдлёўкі. Самі прарыў ліквідуем, сваімі рукамі!

Інжырэр. Дзе нямецкі таварыш? Я яму падзякую... І нашаму... Гераізм, гераізм.. (*Уходзіць*).

Праз хвіліну сцэна напаўняецца людзьмі

Галасы:
— Знайшлі ўжо!
— А я думаў, ня вылезьці нам з прарыву.
— А станцыя ледзь дыхае.
— Але хто адважыўся?
Дапраўды. Хто?

Выходзяць сакратар, дырэктар, інжынэр, Васіль

Інжынэр (*заклапочана*). Рыдлёўкі ёсьць?

Косьцік. Ёсьць, таварыш інжынэр.

Інжынэр (*да Васіля*). Дзе гэтае месца?

Васіль *зусім мокры, змораны*)) Там... думаю... Мэтры два ад павароту трубы...

Голас. Васіль лазіў?

Дырэктар. Так, таварышы, лазіў Васіль...

Уваходзіць Эдвард і Кароль

Хлапец на два... І таварыш Тымрад. От!

Голас.
— Героі! Нашы героі!

Эдвард. Не... Ня герой... Аллэ... Усе.

Сакратар. Таварыш Эдвард кажа, што мы ўсе героі. Гэта правільна, таварышы. Але Васіль і таварыш Эдвард— лепшыя.

Голас. Лепшыя. Правільна!

Другі. Качаць іх! (*Кідаюцца да іх*)

Кароль. Эдвард!

Эдвард (*на ўзьнятых руках*). Яа!

Кароль. Эдвард, дзе значок?

Эдвард. (*вызваляецца ад рук*). Значок? (*Глядзіць сабе на грудзі, абмачвае рукой*). Мой значок?

Сакратар. Які значок?

Кароль. Эдвард—сацыял-дэмакрат.

Эдвард. Мой значок... Ен там... Труба! (*кідаецца і потым рэзка прыпыняецца.*) Няхай будзе там...

Кароль (*падыходзіць да яго, працявае руку*). Цьвёрда?

Эдвард. Цьвёрда!

Сакратар. Гэта будзе сапраўдны камуніст.

Камсамольцы, працуючыя рыдлёўкамі, сьпяваюць.

## ЁСЬЦЬ, ЭДВАРД, ЁСЬЦЬ!..

Адзін з пакояў інтэрнату. За сталом Кароль нешта піша, бліжэй да рампы, зьвесіўшы на калені галаву, сядзіць Тымрад.

Кароль *(не прыпыняючы пісаць)*. Пакінь, Эдвард, сумаваць, прыдзі ў сябе. Ну, я добра разумею, што гэта вялікая страта, але разваж сам—рана ці позна гэта павінна было прыйсьці... *(Падыходзіць да яго, кладзе на плячо руку)*. Праз пяць-шэсьць дзён мы адсюль паедзем... Эх, якое ўражаньне на ўсё жыцьцё пакіне краіна саветаў. Эдвард, мы будзем там, у Нямеччыне, расказваць праўду пра гэты дзівосны сьвет, малады, бадзёры сьвет.

Эдвард *(узьнімае галаву)*. Я ня хочу ехаць у Нямеччыну.

Кароль. Што? Ты ня хочаш ехаць? Эх, мілы таварыш, прызнацца па шчырасьці—і я ня хочу. Там... чакае голад цяжкае змаганьне за месца пад сонцам, за рэвалюцыю. Цяжкае жыцьцё, гэта правільна. Але я не магу заставацца тут, як і ня хочацца гэтага, бо я—бальшавік. Я павінен быць там, у Нямеччыне, каб праўдай аб Савецкім саюзе заваяваць на наш бок сотні, тысячы тых рабочых, якія яшчэ сумняваюцца ў рэвалюцыйным шляху, вочы якіх яшчэ захінаюцца сацыял-дэмакратычнай добрачыннасьцю, каб гэтыя рабочыя сталі пад сьцягі кампартыі.

Эдвард *(тужліва)*. Я не паеду з Савецкага саюзу...

Кароль *(іронічна)*. А што скажа фраў Вэнцэль, якая паслала цябе сюды?

Эдвард *(узьнімаецца)*. Я ёй плюну ў вочы!

Кароль *(сьмяецца)*. От для гэтага і трэба паехаць у Нямеччыну. *(пауза)*. Мне сёньня чыталі ў газэце пра цябе, пра твой учынак, пра дапамогу таварышу Васілю на аварыі... Цябе называюць героем. Ты павінен ганарыцца, Эдвард.

Эдвард *(горача)*. Ганарыцца? Герой? Я-б для сябе, для ўсіх нас, чорт ведае, што-б зрабіў. Я першым з першых быў-бы. Я зразумеў вялікую сілу калектыву.

Кароль. Гэтую сілу адчуў і я. А скажы, Эдвард, хіба камуністычная партыя Нямеччыны не змагаецца за тое-ж самае, за што змагаецца і партыя Савецкага саюзу? Хіба ня нашы закладзены імкненьні ў тым самым, што зьдзяйсьняецца тут, што зьдзяйсьняецца пралетарыятам Савецкага саюзу, партыяй, камсамолам?

Эдвард. Разумею гэта, Кароль. Добра разумею! *(хвалюецца)*

**Кароль.** Ты бачыў камсамольцаў Савецкага саюзу. Здаровыя, вясёлыя, яны змагаюцца з тым, што яшчэ часам цягне назад, будучае бяруць з бою. Іх партыя вучыць будаваць новы лад, у іх ёсьць воля і энэргія, і гэтую волю і энэргію яны аддаюць за будучае. Тут фронт, Эдвард, і ў нас фронт, але гэтыя франты значна розьняцца. Яны прышлі, мы ідзём. Ты-ж бачыш, разумееш гэта.

**Эдвард** (*у хваляваньні ходзіць*). Я ненавіжу Нямеччыну, я праклінаю сваю радзіму. Што зьвязвае мяне з ёю? Нічога. Партыя? Я ня веру ніводнаму слову сваіх правадыроў, перад якімі я яшчэ стаяў два месяцы таму назад з даверлівасьцю. Яны прадаліся... Яны гатовы цалаваць падэшвы Гітлеру... Я не адзену больш сацыял-дэмакратычнага значка, ён згублены ў трубе электрастанцыі, няхай! Ну, што, што зьвязвае мяне з маёй вялікай айчынай? Няма ў мяне гэтай айчыны, Кароль!

**Кароль.** Не, Эдвард, яна ёсьць.

**Эдвард.** Маці?.. Мая старэнькая любая мама. Памерла... Яе задушыла... задушыла Нямеччына! Я ня хочу вяртацца! Няма ў мяне айчыны!

**Кароль.** Ёсьць, Эдвард.

**Эдвард.** Дзе яна?

**Кароль.** Вось яна (*паказвае каля сябе*). Вось яна, Эдвард.

**Эдвард.** Яна...

**Кароль.** І калі хочаш... І Нямеччына айчына.

**Эдвард.** Не... Яна задушыла маю маці, яна выгнала мяне на вуліцу, яна прымусіла верыць таму, каму верыць нельга... Якая Нямеччына айчына, Кароль?

**Кароль.** Савецкая вядома.

**Эдвард** (*глядзіць на яго*). Аааа! (*Апускае галаву*).

**Кароль.** Мы едзем заўтра.

**Эдвард.** Едзем.

Кароль выходзіць.

**Эдвард** (*па-ранейшаму сядзіць, зьвесіўшы галаву на рукі*).

Ааа... Праўду кажа... Праўду? Ха-ха! (*нэрвова сьмяецца*) Фраў Вэнцэль! Вы памыліліся. Ракавая памылка, Фраў Вэнцэль. Сацыял-дэмократ Эдвард Тымрад вам падзякуе. О, ён падзякуе!..

Эдвард маўчыць. Ён думае. І от на вачох гледача разгортваецца, нібы ілюструючы акрайкі Эдвардавых думак.

ПАНТАМІМА.

1. Калыскі—брудныя, ў лахманох. Каля іх—зморамыя маткі· Строгія, суворыя. Яны сьпяваюць жалобную калыханку. Разабраць яе цяжка. Толькі цягучае і адчайнае „а-а-а". І раптам з правага боку вырастае вялізарны паліцыянт. На агідных яго вуснах—жахлівая ўсьмешка. Ён насьвіствае. Маткі ўзьнімаюцца. Яны перапалоханы. На тварах—боль. Бязуважны паліцыянт, амаль не кратуючыся, паказвае жэзлам на дзьверы. Адна за аднэй ідуць маткі, 2. О, гэта знаёмы твар! Фраў Вэнцэль стаіць перад натоўпам галодных жанчын. Маліцьвенна складзены рукі. Яна нешта кажа. У натоўпе—хваляваньне. Нясуць нярухомую жанчыну. Яе кладуць перад фраў. Маліцьвенны экстаз зьнікае. Фраў Вэнцэль крычыць, абураецца. Яна хоча вырвацца з кола. Але моцным колцам абступілі яе жанчыны. Фраў Вэнцэль робіцца бледнай. Ва ўсім тулаве яе—жах. У руках жанчын—каменьні. Вось-вось палятуць яны ў твар фраў. Яна крычыць. Яе пачулі. З-за павароту—сьцяной—насоўваюцца шэрагі паліцыянтаў. Вінтоўкі на пагатове. Крута абяртаюцца да іх жанчыны. Адзін момант—дзьве нярухомыя сьцяны. Паліцыянт у белых пальчатках дае сыгнал. Вось ён узьнімае руку ў белай пальчатцы. Адзін узмах, другі ўзмах, трэці...

За сьцяной—моцныя галасы грыманулі песьню „Жалезнымі рэзэрвамі". Гармонік. Сьмех.

Эдвард (*зрываецца з месца*). Што гэта? Што гэта? *Кідаецца да дзьвярэй, яго сустракае песьня, сьмех, маладыя галасы. Уваходзяць камсамольцы.*)

Косьцік. Добры вечар. Мы, таварыш Эдвард, разьвітацца прышлі. Шкода што едзеце.

Верка. Нічога, Косьцік, мы сустрэнемся з імі. Праўда, таварыш Эдвард.

Эдвард. Яа. Сустрэнемся (*цісьне яе руку*).

Хлопец „на два". Эх-бы, павесяліцца на разьвітаньне. Па-камсамольскаму. Па харошаму. Каб помніць нашых нямецкіх таварышоў. Эх, браткі!..

Кароль. Правільна „Комінтэрн." Давай „Комінтэрн"!

Верка. Пачынай, таварыш Эдвард. Голасна, на поўныя грудзі. Усім сьпяваць, хлопцы.

Васіль. Усім. Гарманіста сюды. І ты, Санька, грымані на сваёй балалайцы.

Хлопец „на два". Ну, ты... не абражай струманту.

Васіль. Не зважай, валі! Пачынай, Эдвард.

Эдвард. Пачынаю.

Заводы ўставайце,
Заводы ўставайце!..

Усе падхопліваюць песьню.

# РАЗЬДЗЕЛ ЧАЦЬВЕРТЫ

## ЛЫСЫЯ КРАСАМОЎНІКІ

Габінэт фраў Вэнцэль.

Фраў Вэнцэль, дырэктар Крэзэра, сакратар, куртаты чалавечак і іншыя шэрыя асобы сядзяць за даўгім сталом. Перад кожным—папера. Кожнае слова прамоўцы запісваецца імі з экстазам палемістаў.

Сакратар. Такім чынам, выбары ў ляндтаг праходзяць у выключных палітычных варунках, калі цяжка што-небудзь прадбачыць загадая. Нашы сілы...

Куртаты чалавечак. Нашы сілы?

Сакратар. Нашы сілы?..

Шэрая асоба. Так-с, нашы сілы?

Сакратар. Нашы сілы... дужа і дужа слабыя.

Шэрыя асобы (*разам*) Ооо! (*Нахіляюцца над наперай і з запалам запісваюць*)

фраў Вэнцэль (*нецярпліва*). Ну, далей.

Сакратар. Я бачу, што паважаныя члены камітэту маюць ахвоту сёньня горача палемізаваць... Дарэмныя клопаты. (*Усе насьцярожана слухаюць.*) Сабраныя мною весткі не становяць сабой аб'екту палемікі. Мы з кожным днём страчваем свой уплыў на масу рабочых. Камуністычная партыя выбівае глебу з-пад нашых ног. Рабочыя вераць ім, рабочыя страчваюць веру ў нас..

Дырэктар (*неспадзеўка*). Так-с...

Сакратар. Патрэбны выключны палітычны манэўр. Эфэкт.

Куртаты чалавечак. Галасаваць за партыю нацыяналістаў!

Фраў (*зрываецца з месца*). Што? Вы нічога больш не маглі прыдумаць? Як гэта каму спадабаецца. Можа вы і за манархію ўзьнявіце сваю руку?

Куртаты чалавечак. Эээ... Даруйце, фраў. Але патрэбен эфэкт, кажа пан...

сакратар. Я павінен з сумам канстатаваць, што нашы паважаныя члены камітэту дужа і дужа заняліся тэорыяй і...

Куртаты чалавечак (*з запалам*). І паверце, я прышоў да надзвычайна цікавых вывадаў, што нямецкі пралетарыят здолее зрабіць рэвалюцыю толькі праз сто год. Бачыце, нашыя нямецкія ўмовы прывялі нас...

Дырэктар (*голасна і груба*). Так-с.

Фраў. Мне няма ніякай справы да нямецкага пралетарыяту...

Шэрая асоба. Што-с? (*запісвае*).

Другая асоба. Як-с? (*запісвае*).

Фраў. Оо, не клапацецеся! Вы мяне не зразумелі... (*Да куртатага чалавека*). Вы можаце рабіць любыя тэарэтычныя

вывады, якія могуць толькі ўзбрысьці вам на розум, калі гэткі ў вас ёсьць, але здымаць нашыя кандыдатуры ніхто нікому не дазволіць. Асабліва...

Дырэктар. Асабліва?

Фрау. Асабліва кандыдатуру майго мужа? Зразумелі? (*Усе запісваюць*)

Сакратар. Я працягваю. Як вынік абвяшчэньня новага закону аб дазволе ўсіх партый, зьявілася тое, што атрады нацыянал-сацыялістаў ажыцьцяўляюць тэрор.

Дырэктар. Гэты тэрор накіраваны...

Сакратар. Бязумоўна, ня супраць нас, а супроць камуністаў. Але трэба цьвяроза глядзець на справы, трэба бачыць другі бок мэдалю.

Куртаты чалавечак. А другі бок мэдалю?

Сакратар. Не перапыняйце. Другі бок мэдалю якраз у тым, што гэта пагражае і сацыял-дэмакратычным рабочым, якія ў шэрагу месц выступалі разам з камуністамі. Якраз тут і павялічваецца ўплыў апошніх і страчваецца наш.

Фрау. Оо! На час выбараў мы гэты ўплыў будзем трымаць на ранейшым узроўні.

Сакратар. Чым

Фрау. Гэта будзе той эфэкт, аб якім вы клапоціцеся. Мы вернем страчанае. я ўпэўнена ў гэтым.

Сакратар. Чым, фрау Вэнцэль? (*Усе глядзяць на яе*)

Фрау. Вы забыліся на тое, што зьвярнуўся з Расіі пасланы мною Эдвард Тымрад. Я ўпэўнена, што яго словы пра расійскую рэвалюцыю спыняць тых, хто ідзе у лягер камуністаў.

Сакратар. Оо, фрау Вэнцэль! (*Голасна зарагатаў.*)

Куртаты чалавечак. Чаго вы?

Фрау. Чаго вы рагочаце?

Дырэктар. *Адказвайце*!

Сакратар (*злосна*). Вашая патэтыка... Пашкадуйце яе, фрау Вэнцэль. Вы... сьляпыя тэарэтыкі! Кажаце праз сто год рэвалыцыя будзе? Ах-ха-ха! Сьмешныя вы!

Куртаты чалавечак (*уздымаецца*). Дазвольце ... Вы абражаеце мяне.

Сакратар. Не праз сто год, а цяпер, а заўтра!.. Разумееце? Заўтра! Ваш Эдвард Тымрад выступаў учора на мітынгу, арганізаваным камуністычным саюзам моладзі. Гэта, яго першы, дэбют.

Фрау. Мана! Няпраўда!

Сакратар (*кідае газэту*). Чытайце.

Шэрая асоба. Газэта?

Другая асоба. „Ротэ фанэ"?

Сакратар. Грудзі вашага ўдзячнага Эдварда Тымрада ўпрыгожаны значком з надпісам...

Куртаты чалавечак (*хапае газэту*). І партрэт... І надпіс...
Надпіс!
Дырэктар. Які?
Куртаты чалавечак (*заікаючыся*). Ккккамуністычны юнгэндфэрбанд.
Фрау (*пахіснулася*). Аах! (*Падае, яе падтрымлівае дырэктар.*)
Дырэктар. Вазьміце. (*Шэрая асоба дапамагае яму*). У суседні пакой нясіце (*Нярухомую фраў Вэнцэль выносяць*).

(*Паўза*).

Куртаты чалавечак. Гэта вы...( *Тыкае пальцам у сакратара*)
Шэрая асоба. Вы!..
Сакратар. Што я?
Куртаты чалавечак. Гэта вы давялі фрау...
Шэрая асоба. Вы, вы.. Айяя, айяя!..
Сакратар. Ах, пакіньце. Тут вырашаецца лёс партыі, а вы з глупствам лезеце. (*Уваходзіць дырэктар і першая шэрая асоба*). Я працягваю. У мяне ёсьць прапанова. Я яе абмяркоўваў доўга і старанна.
Дырэктар. Выкладайце.
Сакратар. Зьвярнуцца з лістом пра ахову сацыял-дэмакратычных рабочых...
Куртаты чалавечак. Да каго?
Сакратар. Да пана прэзыдэнта.
Шэрая асоба. Але пан прэзыдэнт прымаў дэлегацыю штурмавікоў... Ён ім абяцаў грашовую дапамогу... кажуць
Шэрая асоба. Пан прэзыдэнт можа і не прачытаць наш ліст...
Сакратар (*сьмяецца*). Оо, гэта ня так важна. Затое яго прачытаюць тысячы, сотні тысяч рабочых.
Куртаты чалавечак. Ааа. Я вас разумею, Гэта геніяльны плян! Пішыце.
Сакратар. Пішыце.
Шэрая асоба. Слухаю.
Сакратар. Пішыце пан прэзыдэнт!
(*Стук у дзьверы.*)
Дырэктар (*спалохана*). Хто там? Уваходзьце.
(*У бзьвярох паяўляецца Франц і Эдвард*)
Франц (*выступае наперад. Эдвард застаецца ля дзьвярэй*). Прабачце. Нас швэйцар не хацеў упусьціць, але мы прайшлі сілай.
Сакратар. Што з вамі? Вы хвалюецеся? Вы можаце гаварыць сьмела, тут усе свае, сацыял-дэмакраты.
Франц. Выбачайце... Мы-б сюды ніколі не зайшлі, але, бачыце, вуліца перапоўнена атрадамі гітлераўцаў, немагчыма прайсьці.

Сакратар. Сядайце. Вам цяжка стаяць.

Франц. Нічога. Мы зараз пойдзем, нам трэба папярэдзіць таварышоў.

Сакратар. Вы беглі?

Франц. Так... Яны гналіся... Здаецца, стралялі.

Дырэктар. А паліцыя?

Эдвар. Паліцыя? (*сьмяецца.*) Паліцыя іх ня бачыць.

Сакратар. Вы сацыял-дэмакраты?

Франц. Не, мы камуністы.

Сакратар. Ммм...

Франц. Але гітлераўцы пагражаюць ня толькі камуністам, у атрадах самаабароны ёсьць і сацыял-дэмакраты...

Сакратар. Я ведаю гэта. (*Да шэрай асобы*). Пішэце. Пан прэзыдэнт! Мы просім абараніць рабочых Нямеччыны ад нападу людзей, якія спэкулююць імем бацькаўшчыны.

Эдвар (*засьмяяўся*). Бацькаўшчыны...

Сакратар (*крута абяртаецца да яго*). Чаго вы рагочаце?

Эдвард. Ня пана прэзыдэнта трэба прасіць, а браць вінтоўкі ў рукі.

Франц. Правільна, Эдвард.

Сакратар. Вы забываеце...

Франц. Мы не забыліся і таму ўходзім. Пашлі, Эдвард.

Фрау (*убягае*). Чакайце! Вы, прамоўцы! Вось ён, бачыце? Бачыце! Я казала, ага, казала. Ён прышоў бачыце—прышоў.

Сакратар. Фрау Вэнцэль...

Фрау. Што? Ну, што? Знаёмцеся: гэта—Эдвард Тымрад.

Шэрыя асобы (*разам*). Ооо!

(*Паўза*)

Эдвард (*выступае наперад*) Ня крычыце так, фрау Вэнцэль! Знаёміцца? Дарэмны клопат.

Фрау. Штоо?

Франц. Пойдзем Эдвар. Нам трэба сьпяшацца.

Эдвар. Чакай, Франц! Я-ж падзякаваць павінен... (*Падыходзіць да фрау.*) Чуеце, фрау Вэнцэль? Ваш пакорлі вы Эдвард Тымрад вам падзякуе... О, ён падзякуе! На барыкадах.

Сакратар. Маўчыце! Як вы сьмееце, няўдзячны нягоднік!

Эдвард. Пішыце, пішыце пану прэзыдэнту. Ён добры, ён зьлітуецца. Але пад вашым лістом, я, Эдвард Тымрад, не падпішуся. Тысячы Тымрадаў не падпішуцца. Чуеце? Тысячы!

Фрау. Вы... Я вам загадваю маўчаць. Я... я пастаўлю пытаньне пра вашае выключэньне з партыі!

Эдвард. Ха-ха! Фрау Вэнцель. Не клапаціцеся. Вы апазьніліся, фрау Вэнцель. Ганьба вашай партыі, я не навіджу яе, правадыроў, вас. Чуеце? Ненавіджу!

Франц. Пашлі, Эдвард.

Эдвард. Пашлі. А вы... Вы пішаце лісты... Здраджвайце, мы стрэнемся, мы ўбачым, хто правы. (*Уходзіць*)

Фрау. Затрымайце яго! (*Кідаецца да дзьвярэй, яе затрымлівае сакратар.*) Ух няўдзячная жывёла. Я... я... застрэлю яго. Затрымайце!

Сакратар. Позна. Я вам казаў... Гэтая Савецкая Расія ўшчэнт псуе людзей. Позна.

Дырэктар (*рашуча*). Але яшчэ ня позна ўзьняць ў выбарах руку за сацыял-нацыяналістаў. І я яе ўзьніму.

Шэрая асоба. Ці-ці-ці... Вы маеце рацыю, панове. Маеце рацыю.

## НОЧ

З правага боку сцэны частка габінэту Пэтэра Лянгэ, з левага—пакой з шырокай лесьвіцай. Паміж імі дзьверы.

Вечар У габінэце—Пэтэр, Франц і Эдвард.

Пэтэр. Ад заўтрашняй дэманстрацыі, такім чынам, усякага можна чакаць. Колёны дэманстрантаў на Бюргштрасэ і Гартэнштрасэ, трэба думаць, прыдуць у поўным баявым парадку. Тут небясьпекі не прадбачыцца. На Вінстпляцы трэба чакаць і паліцыі, і тым больш атрадаў гітлераўцаў.

Франц. Чаму камітэт партыі не зьмяніў маршрутаў і месца мітынгаў? Штурмавікі шалёна рыхтуюцца да заўтрашняга... Будзе...

Пэтэр. Будзе цяжкое змаганьне. Але ў гэтым цяжкім змаганьні атрады чырвоных франтавікоў павінны паказаць сваю баявую падрыхтаванасьць.

Франц. І гэта...

Пэтэр. І гэта не павінна нас палохаць. Ці можа ты прапануеш абраць такі шлях змаганьня, як і сацыял-дэмакраты?

Франц. Не, Пэтэр. Нашыя будуць падрыхтаваны.

Пэтэр. Так і павінна быць. Гэтага патрабуе ад нас партыя. (*Да Эдварда.*) Што ты чытаеш, Эдвард?

Эдвард. Я? (*кладзе газэту.*) Мізэрную політыку вядуць мае былыя правадыры. Ліст да пана прэзыдэнта. О, сьвятая цінатлівасьць! Не, як не кажыце, а паездка ў Савецкі саюз мяне канчаткова пераканала ў тым, што адзіны шлях пралетарыяту—гэта барацьба і барацьба з вінтоўкай у руках.

Ганц (*спускаецца па лесьвіцы*). Пароль—Ленін.

Вартавы. Праходзь і не затрымлівайся.

Пэтэр. Камітэт партыі даў дырэктыву, каб на заўтрашнім мітынгу ты выступіў з прамоваю аб Савецкім саюзе. Тваё папярэдняе выступленьне перад рабочай моладзьдзю дасягла свае мэты. Дзесяткі сацыял-дэмакратычнай моладзі прышлі да нас.

Ганц (*уваходзіць*). Дзесяткі зробяцца сотнямі, а сотні тысячамі. Добры вечар.

Франц. І сапраўды ён добры?

Ганц. Дужа добры! Атрады гітлераўцаў шнырараць па вуліцах. Адна частка іх зрабіла пікеты. Іншыя ў поўным маўчаньні, узброеныя, маршыруюць па вуліцах. Крывавая прадвыбарчая кампанія ў гэтым годзе. Заўтра будзе бой.

Пэтэр. Так. Паветра пахне порахам. А як падрыхтоўка ў нас?

Ганц. Атрады самаабароны складаюцца напалову з камсамольцаў. Яны будуць дзяжурыць праз цэлую ноч. У штабе—члены партыйнага камітэту абмяркоўваюць плян заўтрашняга.

Пэтэр. Брэтэр там?

Ганц. Там. Цябе чакаюць таксама.

Пэтэр. Я іду. Вы, таварышы, заставайцеся тут. Асабліва... Беражыце Эдварда. Яны гатовы перагрызьці за яго горла.

Франц. Будзь пэўны.

Эдвард. Жывым у рукі ня дамся.

Пэтэр. А ты нам патрэбен жывым.

Ганц. Правер зброю, Пэтэр.

Пэтэр (*вынімае рэвальвэр*). Я страляю мэтка. (*Ідзе, потым прыпыняецца ля дзьвярэй*). Ты... Пазвоніш, Ганц, да Люізы. Супакой яе.

Ганц. Пазваню.

Пэтэр уходзіць.

Франц. Будзе бой.

Эдвард. Будзе. (*Узьнімаецца з месца, ходзіць*). У дзяцінстве я марыў... Хацелася быць сьмелым, хацелася змагацца на барыкадах.

Ганц. Будуць барыкады, Эдвард, і ня ў марах, а самыя сапраўдныя барыкады. Сёнешняя ноч пазбаўлена рамантыкі

Эдвард. А ў баёх, Ганц, ёсьць романтыка, як ні кажы... От, у Савецкім саюзе, я помню... Ноч. Камсамольцы на ліквідацыі прарыву, на цеплаэлектрацэнтралі. Адчуваньне таго, што гэтая аграмадная махіна можа вось-вось захлынуцца бяз кроплі вады, родзіць трывогу. І ў гэтай трывозе ёсьць пэўная рамантыка.

У суседнім пакоі, на лесьвіцы, адбываюцца падзеі, Ціха адчыняюцца дзьверы.

Вартавы. Пароль?
Чалавек. Ленін
Вартавы. Праходзь і не затрымлівайся.

Чалавек параўняўся з вартавым, кідаецца на яго, абодвы падаюць. Усьлед за гэтым уваходзіць колькі чалавек. Ціха, бяз шораху. Сярод іх—тып з зялёным шалікам.

Ганц (*пасьля паўзы*). За гэткую рамантыку, Эдвард, трэба змагацца.
Франц. Правільна, Ганц. Хоць і дрэнна гэта, таварышы, а я дык зайздрошчу Эдварду. Ён быў у Савецкім саюзе, бачыў яго. Ён...
Ганц. Ён прыехаў зусім іншым чалавекам. Савецкі саюз зрабіў з яго камуніста. Вялікая краіна.
Эдвард. А я, таварышы, зайздрошчу вам.
Ганц. Нам?
Фішэр. Не разумею...
Эдвард. Не разумееце? Зайздрошчу, бо вы ўбачылі раней мяне Савецкі саюз...
Ганц. Але мы яго ня бачылі зусім.
Эдвард. Вы сталі пад сьцяг камуністычнай партыі. Вы ня хісталіся, як я. А хібаісьці ў шэрагах нямецкага камсамолу, гэта ня тое-ж самае?.. (*Прыслухоўваецца*)
Франц. Кажы далей. Чаго ты спыніўся?
Эдвард. Там нехта ходзіць (*паказвае на дзьверы.*)
Ганц. Ну, вядома, ходзіць. Там вартуюць нашы камсамольцы. Кожную хвіліну можна чакаць налёту гітлераўцаў. Але будзь упэўнены, вартавыя ля кожных дзьвярэй.
Франц. Ты змарыўся, Эдвард, табе і здаецца.
Ганц. Вы ідзіце ў суседні пакой, там канапа ёсьць, няхай Эдвард адпачне. А я тут Пэтэрава даручэньне выканаю. (*Бярэцца за тэлефонную трубку.*) На ўсякі выпадак... Там ёсьць дзьверы, яны вывядуць вас на лесьвіцу, якая вядзе на задні двор...
Франц. Гэта я ведаю. Ты залішнюю канспірацыю выдумляеш, Ганц.
Ганц. Асьцярожнасьць не пашкодзіць.

Эдвард і Франц уходзяць

У гэты-ж самы час я дзьвярэй на лесьвіцы паказваецца Люіза.

Вартавы. Пароль?
Люіза. Пароль? Я ня ведаю. Мне патрэбна ўбачыць мужа. Я жонка Пэтэра Лянге.
Тып з зялёным шалікам (*падыходзіць да іх*). Прапусьціце. (*Люіза праходзіць паўз яго*). Фраў Лянге!
Люіза (*уздрыгануўшы, прыпыняецца*). Нну?
Тып (*ідзе да яе*). Не пазнала?
Люіза. Адольф! (*Робіць крок наперад*)

Тып (*затрымлівае яе*). Ціха. Ні слова.

Люіза (*шэптам*). Чаго ты тут?

Тып. Аднак, ты добра граеш сваю ролю. Ты-ж ведала пароль.

Люіза. Я... я ня ведала.

Тып. Ты мне ўчора сказала выразна—Ленін.

Люіза (*азіраецца*). Я... забылася. Як ты сюды трапіў, Адольф?

Тып. З таварышамі. Ведаеш, мяняюцца часы, мяняюцца ідэі. Я вышаў з сацыял-дэмакратычнай партыі...

Люіза. І зрабіўся камуністам?

Тып. Не. Я знайшоў сабе работу ў партыі нацыянал-сацыялістаў.

Люіза. Што? (*хістаецца*)

Тып (*падтрымлівае яе*). Супакойся, Люіза. Нас могуць пачуць там А гэта яшчэ рана...

Люіза. Ты... Ты фашыст!

Тып. Гэта цябе дзівіць? Але і ты непасрэдна...

Люіза. Я ня ведала гэтага!

Тып. Ня ведала? (*Ціха сьмяецца*). Гэта твая справа. Чаго ты тут?

Люіза. Я прынесла Пэтэру вячэру. Пусьці мяне.

Тып. Не сьпяшайся. На жаль, мы апазьніліся сюды, і ён пасьпеў...

Люіза. Апазьніліся? У тваім голасе...

Тып. Люіза, кінем камэдыю. Ты добра ведаеш, хто твой муж, і яму...

Люіза. І яму?..

Тып. Ня выбрацца з нашых рук.

Люіза (*цьвёрда*). Пусьці мяне. Я пакіну яму вячэру.

Тып. Ты іх папярэдзіш. Я цябе ня пушчу.

Люіза. Я толькі пакіну вячэру.

Тып. Не забывай, Люіза, што, выдаўшы мяне, ты выдасі і сябе. Ты-ж шпіёнка на іхнай мове.

Люіза (*упарта*). Ведаю. Пусьці мяне.

Тып. Ну, можаш ісьці. Ва ўсякім выпадку, калі ты ня стрымаеш свайго слова, жывой адсюль ня выйдзеш.

Люіза. Ведаю. (*Падыходзіць да дзьвярэй кабінэту і прыслухоўваецца*).

Ганц (*ля тэлефоннай трубкі*). Альлё, альлё! Чорт пабяры. сяджу, як дурань, і не магу дазваніцца. Мёртвая цішыня. Альлё! Альлё. Відаць, сапсаваны тэлефон (*кладзе трубку*) Пайсьці праз другі пазваніць.
(*Ідзе да дзьвярэй, перад ім выростае Люіза*) Ах, вось і вы. Я ніяк не магу дазваніцца.

Люіза. Дзе Пэтэр?

Ганц. У штабе.

Люіза (*падыходзіць да стала*). Вось вячэра... Слухайце, Ганц, вы елі? Не? Ідзіце вазьміце бутэрброд. (*Ганц падыходзіць да яе*)

Ганц. Дзякую, Люіза.

Люіза. Вы помніце нашу сустрэчу перад паходам беспрацоўных Карлавай ускраіны?

Ганц. Ну?

Люіза. Вы помніце свае словы?..

Ганц. Якія?

Люіза. Ня помніце? Я вам напомню. Вы ўзялі мяне пад руку і сказалі: „Ну, сьмейцеся. Расказвайце вясёлыя гісторыі. Сёньня дзівосны дзень, фрау Люіза!"

Ганц. Пачакайце. (*Хапае яе за руку*). Там былі штурмавікі.

Люіза. Ціха, Ганц. (*Паказвае рукой на дзьверы*). Там... былі... штурмавікі...

Ганц. (*хрыпла*). Засада?

Люіза (*шэптам*). Ціха, Ганц. Ваш патруль з галоўнага ўваходу зьняты. Сьпяшайцеся. Пэтэра папярэдзьце.

Ганц. Але... (*энэргічна*) Я пайду... (*ідзе да дзьвярэй*).

Люіза (*з адчаем*). Ганц! (*Той прыпыняецца*). Вазьміце яшчэ бутэрброд. Вы-ж прагаладаліся.

Ганц. Ня было нічога, ні шуму, ні стрэлу. Але чаму яны чакаюць?

Люіза. Ім патрэбны ўсе... А тут няма Пэтэра...

Ганц. Але як яны прайшлі?... Ах! (*стукае кулаком па галаве*) Яны даведаліся пароль.

Люіза. Кажыце цішэй, ці нас...

Ганц. Хто, хто сказаў пароль? Каму?

Люіза. Ганц. Я... вінавата я!..

Ганц. Здрада?

Люіза. Не... не. Ня здрада. (*Хістаецца.*) Зразумейце, гэта брат, мой брат, Адольф!

Ганц (*вымае рэвольвэр*). Ууу, сволач! (*ідзе ў суседні пакой*).

Люіза (*кідаецца за ім*). Ганц! Ганц! (*крычыць на ўвесь голас*) Ганц! Я ня ведала. Мяне застрашылі. Адольф! (*Падае*).

Урываюцца штурмавікі на чале з тыпам.

Тып (*камандуе*). Хутчэй бяжыце! Абкружыць будынак. Яны прашлі праз гэтыя дзьверы.

Штурмавік. Тут жанчына...

Тып. Потым жанчына. Лавіце іх, страляйце! (*Штурмавікі, бягуць ў дзьверы. Чуюцца стрэлы*). Страляйце! Лавіце. Біце! (*бяжыць за імі але заўважае Люізу.*) Ааа! Сястрычка. Жонка Пэтэра Лянге. Прадала бацьку, прадала брата. (*Нахіляецца над ёю.*) Ты... грошавыя ідэі твае... У пыл, у прах... Нямеччыну прадала, радзіму. (*Рэзка выпроствае стан.*) Страляйце! Душыце іх, душыце!

Вялізарны пляц. Няспынна ідуць калёны пралетараў. Сьцягі. Чуецца песьня „Заводы ўставайце".

Голас. Цьвёрдым поступам, з узьнятымі сьцягамі—на Вінстпляц! Туды сыходзяцца пролетары ўсіх раёнаў. Магутным громам прагучаць нашыя патрабаваньні. Рот фронт!

Галасы:

— На Вінстпляц!

— Песьню!

— Сьцягі наперад!

— Музыку, песьню!

Рот фронт!

Пад магутную песьню калёны рушаць на Вінстпляц

Кароль. Эдвард! Пойдзем у калёне. Пасьля ўчорашняга табе няможна заставацца аднаму.

Эдвард. Я гэта ведаю. Надумысьля затрымаўся. Хачу даведацца ў цябе пра ўчорашні налёт.

Кароль. Была здрада.

Эвард. Я здагадваюся. Але як?

Кароль. Даведаліся пароль. Зьнялі вартавых. Толькі не пасьпелі гэтага зрабіць ля дзьвярэй, праз якія вы і вышлі.

Эдвард. Але хто сказаў пароль?

Кароль. Люіза Лянге.

Эдвард. Што!? Ты... жартуеш, Кароль.

Кароль. Не, я не жартую. Яна шпіёніла за намі, перадаючы весткі свайму брату, служачаму чатырнаццатага аддзяленьня, былому сацыял-дэмакрату. Цяпер ён гітлеравец.

Эдвард. А... а дзе Пэтэр?

Кароль. Пэтэр на Вінстпляцы. Ён трымаецца як камуніст. Ён праз цэлую ноч працаваў у штабе. Ну, пойдзем.

Эдвард. Пойдзем. Блізкі чалавек... Здрада... Сволач!..

(*Уходзяць*)

Здалёк—павадак галасоў, крыкаў, песьняў.

Фрау Вэнцэль (*уваходзіць разам са сваёй сьвітай*). Значыць нічога няможна зрабіць?

Сакратар. Позна.

Фрау. Можа можна пайсьці на Вінстпляц, выступіць, растлумачыць, застрашыць, нарэшце?

Сакратар. Позна.

Фрау. Што вы заладзілі—позна, позна. А што раней рабілі нашы правадыры?

Сакратар (*маўчыць*).

Фрау. Я пытаюся, што рабілі вы?

Куртаты чалавек. Рабілі...

Фрау. Трэба пайсьці і пераканаць, спыніць рабочых.

Сакратар. Калі знойдуцца ахвотнікі, няхай ідуць. Я на Вінстпляц не пайду.

Фрау. Чаму гэта?

Сакратар. О, я добра бачыў паліцыю. Я добра бачыў, як атрады штурмавікоў дэманстравалі ўчора сваю падрыхтаванасьць. На Вінстпляцы будзе бой. Туды ісьці позна.

Паказваецца Люіза.

Фрау. Дык што рабіць?

Куртаты чалавечак. Трэба чакаць. Пасьля бою будзе відаць.

Фрау. Зноў чакаць?

Сакратар. Чакаць. У імя жыцьця, фрау Вэнцэль, трэба чакаць. Там, дзе кулі і кроў, нам месца няма, фрау Вэнцэль.

Фрау. Добра. Будзем чакаць.

Галасы гучней. Асобныя крыкі вылучаюцца з шуму. У іх—трывога.

Люіза. Фрау Вэнцэль!

Фрау (*да сакратара*). Што гэта за жанчына?

Сакратар. Гэта...

Люіза. Фрау Вэнцэль, яны кінулі мяне... Дапамажыце. Чаму, чаму не застрэлілі? Хіба шкада кулі для мяне?

Фрау. Я вас ня ведаю. Пойдзем адсюль, панове.

(*Уходзяць.*)

Люіза. Здрада? Жонка Пэтэра Лянгэ... выдала мужа, таварышоў... Я ня ведала, я не хацела, я не магла гэтага.
Не. Трэба знайсьці Пэтэра, абавязкова (*робіць крок у бок пляцу*)

Высокая жанчына. Куды ты? Стой! Там паліцыя.

Люіза. Ня трымайце мяне. Я ім скажу... Пэтэр!

Стрэлы. Галасы. Бягуць узброеныя рабочыя. Агульная сумятня

Галасы:

— Не адступай.
— Таварышы! Рабочыя!
— Зброю! Зброю!

Люіза (*углядаецца ў натоўп*). Пэтэр! Бяжы да мяне. Я выратую цябе. Мяне не праб'е куля. Не праб'е. (*Стрэл. Люіза са стогнам падае.*)

Убягаюць Пэтэр, Франц і Ганц.

Ганц. Будуйце барыкады, пралетары. Не адступаць!

Галасы:

— Не адступаць!

— Будуй барыкады.

— Не здавацца!

— Рот фронт!

Узводзіцца барыкада

Франц (*нахіляецца над Люізай*). Пэтэр! Тут...

Пэтэр. Прыміце гэтую жанчыну з дарогі. (*Люізу адносяць ў бок*).

Франц. Пэтэр!

Пэтэр. На барыкады, Франц! Нам пагражае сьмерць, таварышы!

Перастрэлка

Рабочы. Няма патронаў.

Другі рабочы. Цэлься лепш.

Галасы:

— Патронаў!

— Не хапае патронаў!

— Не пратрымаемся доўга!

Здалёк паказваюцца шэрагі ўзброеных гітлераўцаў. Вінтоўкі—напагатове.

Кароль (*бяжыць*). Таварышы! адступайце на Гартэнштрасэ. Там—нашы! Там ёсьць патроны.

Пэтэр. Бяз панікі.

Худы рабочы (*са сьцягам ў руках*)! арганізавана адступаць. Не здавацца. (*Стрэл, ён са стогнам падае.*) Уух, сволачы!...

Праз сілу ўзьнімаецца, паўзе на барыкаду і ставіць на ёй сьцяг. Зьнясілены падае. Па сцэне праходзяць, ашчэрыўшы штыкі, гітлераўцы і паліцыя. Сцэна пусьцее. Забіты рабочы ляжыць нярухома. У грозную цішыню прарываецца рокат бар;цьбы. Узьняўся вецер. Ён крануў барвовае цела сьцягу. На ім можна выразна прачытаць два словы: „Рот фронт“.

*Май—ліпень 1932 г. г. Бабруйск*

СЯРГЕЙ ДАРОЖНЫ

# РАСКАЗ РАБОЧАЕ БРЫГАДЫ

Па адхонах, па узгор'ях паравоз,
паравоз,
За сабою пакідае гром калёс,
гром калёс.
Цераз шпалы, цераз поле, цераз лес,
цераз лес,
На пралом густое ночы йдзе экспрэс,
ідзе экспрэс.
Каля самае ля печы качагар,
качагар,
Гэтым часам набаўляе добры жар,
добры жар.
Нельга збавіць у машыне добры гон
добры гон,
Цераз падзіны, праз кожны перагон,
перагон,
Хай ляціць яна, хай кажа кожны шып,
кожны шып,
Як патрэбна рэвалюцыі служыць!

*

Мы сядзелі, мы курылі ў гэты час,
Мы спрачаліся, як кожны можа з нас,
Як пачаць сваю работу трэба нам,
Як адпор дамо зацятым кулакам,
Што за словамі ня лезуць у кішэнь,
Што на словах за Саветы ноч і дзень,
А патайна ноччу цёмнай, быццам склеп,
Рыюць ямы і хаваюць лішні хлеб.
Як мы вызнаем увесь гэты падман,
Як мы выведзем раён на першы плян!
Вечар сыпаў за ваконца жмені зор...
Вечар слухаў наш узьняты разгавор.

*

У накуранай канторы пры агні
Мы сядзелі падлічалі працадні.
І ня гледзячы на стомленасьць і час,
За траіх рабіў і думаў кожны з нас.
— От цяпер на мове лічбаў, уважай!
Перад намі ўвесь калгасны ўраджай,
Перад намі ўсёй работы разварот
Што заробленa і зроблена за год.
— От цяпер мы добра знаем—сельсавет,
Бачым кожнага калгасьніка як сьлед.
Хто сумленна, хто аддана працаваў,
А хто цэлы год на печы змарнаваў.
Хто рабіў, а хто арэхі калаціў,
Хто з кулачнікамі поначы хадзіў...
Мы сядзелі за работай, трое нас,
Мы падводзілі калгасны наш балянс!

*

А тымчасам па раёну кулакі:
— Мы такія, мы сякія, беднякі...
Падтуліліся, прыціхлі—хоць куды—
Ніжай траўкі, цішай ветру і вады:
— І зямлі ў нас цяперака трацяк,
І зусім цяпер няма у нас жыцьця.
— Каб было гэта у даўні час, (ахвоч!)
Мы-б здалі дзяржаве хлеба колькі хоч.
— А цяпер, бачно маломý—чорны год!..
На пшаніцу, хлеб і грэчку недарод.
І калі зьнікалі „госьці"—са двара,
„Бедны" гэты бег да кума, да Пятра:
— Так і возьмуць у мяне яны ражна!
Не давай, Пятро, галоце ні зярна!

*

Быў мароз, і па дратох каціўся звон
Чорнай дошкаю ляжаў увесь раён...
Цішыня, спакой такі, куды ні глянь,
Там ня выканалі, тут сарвалі плян.
Там насеньне разбазарылі нашчэнт,
Тут пра весну і ня думалі яшчэ.
Спалі ў шапку, спалі ўсюды, дзе маглі,
Пад кулацкую гутанку—ой, лю-лі..

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Быў мароз і вецер сьцежкамі гайсаў.
І тады з нас кожны сам сабе сказаў:
— Змыем пляму, не дамо ісьці ў паход!
Камуністы, камсамольцы—у паход!
Мы з прарывам недазволім скончыць год!
На кулацкую гутанку—у паход!

*

... Хутарамі, па дарогах сытых глеб
Мы хадзілі, даставалі з ямаў хлеб.
Мы знаходзілі памылкі і падман,
Мы дазналіся чаму быў хлеб схаван.
Па дарогах, па трапох на зману-скон
Уздоўж і поперак аб'езьдзілі раён.
І мы вызналі кулацкі ўвесь падман!
І мы вывелі раён на першы плян!

*1933*
*Магілеў*

---

С. СМАРОДЗІНСКІ

# ПЕСЬНЯ

Без адпачынку
Працуюць машыны,
Творчаю працай
Занята краіна.
Дзе глянеш, новакал,
На злосьць фабрыкантам,
Мы горда, высока,
Будуем гіганты.
Ангарабуды,
Магнітабуды,

Чуецца воклік,
Чуецца ўсюды.
Трактары новыя
Шлем у калгасы.
Зз моцную сувязь
З рабочаю клясай
Будзем змагацца
Мы ўпарта, няспынна.
Творчаю працай
Занята краіна!

*Ворша*

*Я. САДОЎСКІ*

# ДОРА

**Маленькая, хударлявая з чорнымі ўскалмачанымі валасамі і з такімі-ж чорнымі як валасы—вачыма, вялікімі і яркімі.**

Гэта Дора.

Дора Ханіч—старэйшы член камуны імя БВА.

Есьць п'еса „Дзяўчаты нашае краіны". Пра герояў клапатлівай будовы, пра дзяўчат, што кладуць бэтон у непагоду, пра дзяўчат, што паказалі сусьветныя рэкорды па ўкладцы бэтону,—расказвае гэта п'еса. Пра Дору Ханіч у п'есе ня пісалі, але яна зьяўляецца дзівоснай дзяўчынай нашае краіны.

Дзівоснай дзяўчынай і надзвычай добрым брыгадзірам жывёльнага двара камуны імя БВА.

Колькі энэргіі, сілы і волі ў гэтых хударлявых, але загартаваных руках. Усе вялікія падзеі ў жыцьці камуны моцна зьвязаны з імем Доры. Нават такое, самае вялікае здарэньне, як узьнікненьне самой камуны. Тады яна была адзінай жанчынай сярод сямі першых камунараў, што прыехалі сюды з арміі.

У невялічкім бараку пахіленым ад ветру, складзеным з кароткіх, з вялікай цяжкасьцю здабытых дошчак—ёй адвялі асобную каморку.

Камунары прышлі з арміі. Яны былі моцныя і здаровыя. Яны прашлі суровую школу, іх вучылі лёгка пераносіць ўсе магчымыя цяжкасьці баявога жыцьця і яны лёгка вытрымлівалі ўсю арганізацыйную цяжкасьць першых дзён існаваньня камуны.

Хударлявая, шчуплая Дора не заставалася ад моцных, здаровых байцоў. Яна разам з імі ўставала досьвіткам, каб ісьці карчаваць пні, яна—калі трэба было, цягала бярвеньні. Акрамя таго, у яе было шмат іншых нагрузак. Яна меркавала, што калі не паклапоціцца, дык хлопцы загружаныя працай, забудуць пра ежу, а потым увечары прыдуць стомлёныя, адрэжуць акраец хлеба і паваляцца спаць багатырскім сном.

Гэтай работы ёй ніхто не даручаў,—але Дора была камунаркай, адзінай камунаркай, нават невялічкай тады, нямоцнай яшчэ камуны. Ім было цяжка ў тыя дні... Невялікі барак стаяў у глухім лесе. Асеньнія вятры трасьлі сьцены бараку, праходзілі ў сярэдзіну і там сваволі над усім, што траплялася. Асеньнія дажджы ішлі бяз канца, яны таксама ня лічыліся ні з дахам, ні са сьценамі баракаў, прасочваліся ў сярэдзіну, ствараючы лужыны і раўчукі. Была восень. Мокрая, дажджастая ў тыя дні, калі заснавалася гэтая цяпер буйнейшая і лепшая ў БССР камуна.

Дора помніць з усіх дзён адзін вечар. Бушаваў лес, кідаўся вецер, буйны дождж ліў як з вядра. Ён пагражаў заліць невялічкі домік—першае памяшканьне камунараў.

Байцы саскоквалі з ложкаў мокрыя, празяблыя. Надыйшлі хвіліны напоўненыя нейкай незразумелай жудой і страхам... І вось ў гэтыя хвіліны Молін,—першы неадменны старшыня савету камуны, зацягнуў песьню. Зацягнуў так нібы ехаў строй коньнікаў Н-скага палка. Песьню падтрымалі. У строй галасоў уліўся голас Доры. Песьня зазьвінела і нібы адразу сьціх вецер, суняўся дождж.

А камуна расла. Вось ужо зьявіліся хлявы, прыгналі першыя статкі кароў. Трэба было арганізаваць догляд за імі, гаспадарскі догляд—у час пакарміць і напаіць.

Набылі першых сьвіней. Яны патрабуюць яшчэ большага догляду. Савет камуны прызначае брыгадзірам жывёльнага двара—камсамолку Дору Ханіч.

Электрычную энэргію нараджае рух матора. Адкуль яна зьяўляецца ў чалавека? Не,—гэта дарэмнае пытаньне. Дора-ж бальшавічка! Маленькая загартаваная бальшавічка! Вось адкуль у яе столькі сіл, каб уставаць штодзённа ў чатыры гадзіны раніцы і пасьпець на жывёльны двор да ўдою. А жывёльны двор расьце.

У Доры Ханіч у дзёньніку вы прачытаеце: „Касатка, пяць год, жывая вага 350 кілёграм, удой—пяць літраў. Касатка сярэдняя карова. Ёсьць лепшыя, напрыклад Галка. Ёй дванаццаць год. Яна дае ўдою 9,5 літраў".

А Рабінаўка зусім добрая карова, яна дае 15 літраў малака. Вось што пішуць у сваіх дзёньніках нашы дзяўчаты:

Спачатку стаяў хлеў. Потым ля яго вырас яшчэ адзін. Быў адзін сьвінарнік. Пасьля пачалі будаваць вялікі ацеплены, чысты з электрычным асьвятленьнем.

Тысяча турбот у Доры. Падумайце, у хлеве 432 каровы, безьліч сьвіней, кволых парасят. Гэта ня жарты—на ўсё патрэбен добры догляд.

Брыгадзір жывёльнага двара Дора Ханіч праяўляе надзвычайныя арганізатарскія здольнасьці. Яна ініцыятар спаборніцтва даярак. Тыя, у каго каровы чысьцей, тлусьцей, у каго каровы даюць больш малака—бяруць пяршынства.

Яскравым жыцьцём жыве і расьце камуна. У ёй ужо ня сем камунараў, а дзесяткі сем'яў. Не адзін маленькі барак, а новыя вялікія дамы, сьветлыя, цёплыя з электрычным асьвятленьнем.

А Дора як і раней—член савету камуны, брыгадзір жывёльнага двара, на ёй, як і раней, ляжыць дзесятак нагрузак. Яна прайшла з камунай увесь цяжкі шлях—шлях росту. І таму зразумела, чаму наліваюцца яе вочы гневам і голас робіцца злосным, калі яна хвалюючыся расказвае пра гультая, які забыўся напаіць кароў. І наадварот, толькі дзяўчаты могуць казаць такім голасам пра герояў, простых герояў вялікай камуны. Пра нямога Хадзько.

— Разумееш, забіты, змучаны хлапец. Ніколі яго вусны не вымаўлялі ніводнага слова. Кулацкія зьдзекі ён пераносіў моўчкі. А паглядзі зараз на яго. Хадзько робіць дзівы. Нават расьпісвацца навучыўся.

Дора Ханіч на сваіх хударлявых плячох разам з дзесяткамі другіх байцоў вынесла цяжар росту вялікай сацыялістычнай гаспадаркі.

Чырвоная армія ведае дзесяткі герояў грамадзянскай вайны—такіх вось як Дора, работніц, сялянак,—беднячак.

Краіна ведае дзесяткі такіх-жа герояў у дні сацыялістычнага будаўніцтва і сярод іх адну—Дору Ханіч.

# ЛІТАРАТУРНАЯ ВУЧОБА

## МАКСІМ ГОРКІ ПРА ЛІТАРАТУРНУЮ ВУЧОБУ*

### НАКАПЛЕНЬНЕ МАТАР'ЯЛУ

(*Канец*).

**Вы** ідзеце па вуліцы і вы бачыце фігуру, якая чымсьці адрозьніваецца ад усіх фігур. Ня бывае, каб вы зварачалі ўвагу на кожны твар у натоўпе, паўз які вы ідзяцё. Вы бачыце вялізарную колькасьць асоб, але два-тры твары чамусьці сунімаюць вашу ўвагу. Ваша памяць фіксуе гэтыя рысы. Магчыма, фіксуе надзвычайную ці сьмешную вопратку, магчыма позу, магчыма хаду, магчыма рысы твару. Вы не здаіцё сабе справы, а мэханічна ўспрымаеце ўражаньні, забываецеся аб іх. Але, калі трэба, ваша зрокавая памяць прыходзіць вам на дапамогу і вы бярыцё з запасаў гэтых дробных уражаньняў, патрэбны вам твар. Гэта звычайны працэс накапліваньня вопыту. Я бачыў на працягу жыцьця, магчыма, паўтары тысячы папоў. І ў мяне склалася ўяўленьне аб якімсьці адным папе, таму, што ад усіх адкладаліся якіясьці рысы. І калі мне трэба напісаць папа, то я ведаю, як яго паказаць, якія рысы яму надаць, каб ён быў тыповы. Тып— гэта сынтэз шматлікавасьці асобных рыс, уласьцівых людзям той ці іншай пароды: крамнікам, манахам, паліцэйскім і г. д. Разьвіваецца прафэсійная наглядальнасьць літаратараў. Літаратар бачыць больш, таму што гэта яго прафэсія. Усе нашы здольнасьці разьвіваюцца ад іх ужываньня ў справу, ад работы. І ў літаратараў таксама разьвіваецца прывычка наглядаць, здольнасьць хутка схопліваць рэчы.

(„Гутарка М. Горкага з пісьменьнікамі-ударнікамі"—„Литературная учеба" № 1, 1931 г.).

---

*) Глядзі „Заклік" № 3

# ТЫПІЗАЦЫЯ

Учора, гутарачы з ударнікамі-камсамольцамі, я атрымаў такое пытаньне: што рабіць? Вось напішаш які-небудзь нарыс, а потым табе паказваюць, што ты напісаў няправільна, што чалавек, аб якім ты пісаў, не такі. Таварышы, ня трэба пісаць аб якімсьці пэўным чалавеку. Калі пішуць аб герої працы, аб ударніку, аб энэргічным чалавеку, які ў сваёй працы паказвае іншым шлях, увесь кіпіць, добра працуе, то ў некаторых выпадках трэба пісаць проста—герой. Газэты так і робяць. У нарысах-жа трэба тыпізаваць героя, ня пісаць просты партрэт Іванова, Мікалаева, Пятухова, бо ня толькі яны адны добрыя работнікі, ёсьць і іншыя такія-ж добрыя людзі. Дык вось вы вазьмеце і зьляпеце з двух дзесяткаў добрых,—аднаго добрага. Ад гэтага ён выйграе, таму што будзе яскравейшы, будзе віднейшы, і тым самым ён будзе пэдагагічным, сама фігура яго зьявіцца больш выхаваўчай. Гэта, бязумоўна, так.

Як ствараюцца тыпы ў літаратуры? Яны ствараюцца, зразумела, не партрэтна, не бяруць акрэсьлена якога-небудзь чалавека, а бяруць трыццаць—пяцьдзесят чалавек аднэй лініі, аднаго раду, аднаго настрою і з іх ствараюць Абломава, Анегіна, Фауста, Гамлета, Отэлло і інш. Усё гэта—абагуленыя тыпы. Літаратура тады становіцца мастацкай, тады становіцца сапраўднай сілай, той сілай, якая нам патрэбна, якая мае пэўнае выхаваўчае, палітыка-культурнае значэньне, калі ў ёй усё яскравае, бясспрэчнае.

(„Гутарка М. Горкага з пісьменьнікамі-ударнікамі"—„Литературная учэба" № 1, 1931 г.).

Калі вы абмалёўваеце якога-небудзь рвача, п'яніцу Іванова, то трэба абагульніць: бо ён, Іваноў, не адзін рвач, п'яніца, а ёсьць і іншыя. Дык вы ў аднаго вазьмеце нос, у другога вуха, у трэцяга яшчэ што-небудзь.

Абмалюйце тып так, каб усе рвачы ў гэтым тыпе пазналі сябе. Бо агульныя рысы ёсьць у іх? Ёсьць, бязумоўна. Вось іх вы і адбярэце. Што значыць тып у вялікага пісьменьніка, у старога пісьменьніка, у нашых клясыкаў? Гэта тварог, які адціснуты з малака, гэта штосьці сквашанае, штосьці сьціслае.

Тып—гэта зьява эпохі...

Усе вялікія творы заўжды ёсьць абагульненьні. „Дон Кіхот", Фауст, Гамлет—усё гэта абагульненьні. Вы жывеце ў масе, вы не сядзіце, як Талстой, Тургенеў на вёсцы і ня пішаце ў габінэце. Усе працэсы адбываюцца на вашых вачох. Трэба ўмець іх бачыць, трэба прыглядацца, узважваць, параўноўваць трэба, шукаць адзінства, трэба шукаць процілегласьці. Да гэтага зводзіцца ўсё.

(М. Горкі—„Две беседы" Молодая Гвардия, 1931 г.).

## МОВА І СЛОВАТВОРЧАСЬЦЬ

Мне таксама прыходзіцца чытаць надзвычай многа лістоў рабселькораў, пачынаючых літаратараў, вучнёўскай моладзі і ў мяне якраз такое ўражаньне: руская мова скажаецца, вульгарызуецца, яе акрэсьленыя формы пухнуць, насычаюцца мясцовымі гутаркамі, захапляючы словы з лексыкону нацыянальных меншасьцяй, з галіны вытворчых працэсаў, з кніжок і г. д.,—мова становіцца менш вобразнай, дакладнай, трапнай, больш шматслоўнай, вязкай, словы вельмі часта становяцца побач з сэнсам, ня ўключаючы яго ў сябе. Але я ўжо казаў, што гэта—працэс натуральны, нямінучы і, у існасьці, гэта—працэс узбагачэньня, пашырэньня лексыкону, але пакуль што на маю думку, яшчэ не працэс словатворчасьці, зусім блізкай духу нашай мовы, а—мэханічны працэс.

Надзвычай многа слоў у мове, але разам з тым ідзе псаваньне мовы, зараз ідзе газэтная суконная мова, надзвычай аднастайная і бясфарбная, шэраватая, а побач з гэтым на заводах і ў калгасах, усюды складаюць новыя прыпеўкі надзвычайных рыфмаў з цікавымі рытмічнымі фокусамі, надзвычайнай чуласьцю, такой музыкай у вершах, што проста дзівішся.

Ёсьць цэлы шэраг кніжок па паэзіі, дзе выкарыстана ўсё, што можна: Пушкін, Лерманатаў і г. д., і тым ня менш гэты бок масавай творчасьці не зьяўляецца такім барвістым, як анэкдоты, прыказкі, казачкі. Гэтага яшчэ няма, гэта трэба зрабіць і вы нядрэнна зробіце; надзвычай карысна для вас запісваць словы, якія найбольш зьдзіўляюць сваёй лёгкасьцю, прыгожасьцю, надзвычайнай гнуткасьцю, як гэта зрабіў Лаўрухін у кнізе „По следам героя“.

(Гутарка М. Горкага з пісьменьнікамі-ударнікамі—„Литературная учеба“ № 1, 1931 г.).

Мне здаецца, што, працуючы на словатворчасьці, неабходна ведаць наш багаты фальклёр, асабліва-ж нашы, надзвычай выразьлівыя, трапныя прыказкі і прыслоўі. Наша мова, пераважна афарыстычная, адрозьніваецца сваёй сьцісласьцю, моцнасьцю. Адзначу, што ў ёй антрапамарфізм не такі значны, як у прыкладах, якія вы ўжываеце, а ўсё-ж антрапамарфізм, хоць і нямінучы, аднак сьціскае выабражэньне, фантазію, скарачае думку.

Усё гэта сказана мной з баязьні такой: калі мы прызнаем, што працэс мэханічнага абагачэньня лексыкону і ёсьць працэс творчасьці новай мовы, які нібы-та адпавядае цалкам новым думкам і настроям,—мы гэтым прызнаньнем дамо падставу рабселькорам і маладым літаратарам думаць, што яны дастаткова багатыя слоўным матар'ялам і зусім правільна „словотворят“. Гэта будзе няправільна, шкодна.

Справа ў тым, што сучасныя маладыя літаратары наогул дрэнна вучацца і таму туга растуць. Адзін з іх сказаў: „калі сам напішаш кніжку, перастаеш чытаць“. Мусіць гэта праўда, бо ёсьць цэлы шэраг аўтараў, якія, напісаўшы адну кніжку нядрэнна, другую даюць горш, а трэцюю яшчэ горш. Крытыка ня вучыць, як трэба працаваць над словам.

(М. Горкі—„Письма из редакции“ (письмо второе)—„Литературная учеба“ № 3, 1930 г.).

## ВУЧОБА Ў КЛЯСЫКАЎ

Трэба ведаць мінулае ўва ўсёй яго цёмнай бытавой нялюдзкасьці, з яго гідкім цынізмам, з яго дзіўнай двудушнасьцю. Гэта неабходна для таго, каб выхаваць у сабе арганічную агіду да капіталістычнага мінулага, каб тонка адчуць уплыў яго пылу, каб навучыцца гістарычна мысьліць, каб насыціць баявую тэорыю ленінізму фактамі і паглыбіць яе, каб засвоіць дух бальшавізму, яго няпрымірымасьць, яго гнуткі розум адточаны гісторыяй мінулага.

М. Горкі—„Создадим большевистскую историю фабрик и заводов“—Выд. „Журн. газ. об‘единения“ Масква, 1932 г.

Вучыцца трэба ня толькі ў клясыкаў, але нават у ворага, калі ён разумны. Вучыцца ня значыць пераймаць у чымсьці, а значыць асвойваць прыёмы майстэрства. Аўладаць прыёмамі работы зусім ня значыць замацоўваць іх за забой на ўсё жыцьцё: толькі пачні рабіць—і работа сама стане вучыць цябе, гэта ведае кожны рабочы. Калі-б вучэньне зводзілася толькі да перайманьня, у нас ня было-б ні навукі, ні тэхнікі, ды і літаратура не дасягнула-б той дасканаласьці, якая абавязкова для маладых пісьменьнікаў. Ёсьць штосьці сьмешнае ў боязьні вучобы ў клясыкаў, як быццам асьцерагаюцца, што клясык схопіць вучня за нагу і пацягне ў магілу да сябе.

(М. Горкі—„Статьи о литературе и литературной технике“ (О литературе). Гихл. 1931 г.).

Сапраўднае і глыбока-выхаваўчае значэньне на мяне, як пісьменьніка, зрабіла „вялікая“ француская літаратура—Стэндаль, Бальзак, Флёбэр; гэтых аўтароў я надзвычай-бы раіў чытаць „пачынаючым“. Гэта сапраўды геніяльныя мастакі, буйнейшыя майстры формы, такіх мастакоў руская літаратура яшчэ ня мае.

Мастацтва паказу людзей словамі, мастацтва рабіць іх гутарку жывой і чутнай, найдасканальнейшае майстэрства дыялёгу заўжды зьдзіўляла мяне ў Бальзака і французаў.

(М. Горкі—„О том, как я учился писать“—Масква ГИЗ 1928 г.).

Адносіны да маладых пачынаючых пісьменьнікаў ня досыць дбайныя і ўважныя. Крытыка вучыць іх палітграмаце ў той час, калі яна павінна была-б вучыць літаратурнай тэхніцы. Для абвучэньня палітграмаце ёсьць людзі больш асьвядомленыя і таленавітыя, чым крытыкі і рэцэнзэнты. „ЛЕФ" упэўнівае моладзь ня вучыцца ў клясыкаў зусім дарэмна. Літаратурнай тэхніцы і мове трэба вучыцца якраз у Талстога, Гогаля, Ляскова, Тургенева, да іх бы я дадаў і Буніна, Чэхава, Прышвіна. Баяцца ідэалёгічнай заразы, значыць ня верыць у сілу клясавай самасьвядомасьці.

(М. Горкі—„Статьи о литературе и литературной технікe"—(„О пользе грамотности"), ГИХЛ 1931 г.).

Плястыцы, рэльефнасьці, амаль фізычнай адчувальнасьці выяўленага трэба вучыцца ў Талстога. Гэта пісьменьнік, неперавышаны ў сэнсе таго, каб даць такі вобраз, што ў яго літаральна хочацца тырхануць пальцам.

(„Гутарка М. Горкага з пісьменьнікамі-ударнікамі"—„Литературная учеба", № 1 1931 г.).

## АПАВЯДАНЬНЕ

Тут мяне пытаюць, з чаго трэба пачынаць пачынаючаму пісьменьніку? На гэта я адкажу: з таго, з чаго ён пачынае, з таго, што яму блізка. Наогул я раіў-бы пачынаць з дробных апавяданьняў, імкнучыся ў кожную старонку ўкласьці як мага больш зьместу. Пісаць крэпкімі, тугімі словамі, расказаць так, каб усё было проста, ясна,—вось да чаго трэба імкнуцца.

(М. Горкі—Две беседы—„Молодая гвардия" 1931 г.).

Ад апавяданьня патрабуецца акрэсьленасьць паказу месца дзеяньня, жывасьць дзейных асоб, дакладнасьць і барвістасьць мовы,—апавяданьне павінна быць напісана так, каб чытач бачыў усё, аб чым расказвае аўтар. Паміж малюнкамі мастака і дзіцяці розьніца ў тым, што мастак малюе пуката, яго малюнак ідзе як-бы ў глыбіню паперы, а дзіця дае малюнак плоскі, накідваючы толькі контуры, вонкавыя формы фігур і прадметаў—ня ўмеючы паказаць адлегласьць паміж імі. Вось таксама вонкава, на аднэй роўніцы намалявалі і камунараў, спэца, яны ў вас гавораць, але ня жывуць, ня рухаюцца і ня бачыш, якія яны... Але вы паставілі перад сабой задачу выкрыць спэца і, сьпяшаючыся, вырашыць яе суха, напісалі рэч у існасьці нудную, пазбаўленую адзнак мастацкага апавяданьня.

(М. Горкі—„Письма из редакции"—(письмо 4-ое) —„Литературная учеба", I, 1930 г.).

Ніколі не пачынайце апавяданьняў „дыялёгам“—гутаркай, гэта прыём стары і няўдалы. Трэба, каб чытач спачатку бачыў, дзе гавораць і хто гаворыць, інакш кажучы, гутарцы, галасам трэба прадпаслаць маленькае апісаньне абстаноўкі, а таксама даць накіды фігур асоб, якія гутараць. Тоўсты, рыжаваты, басы гаворыць з маленькім, сумятлівым, вастраносым і г. д. Месца дзеяньня—хата, трэба паказаць у ёй штосьці характэрнае, што адразу засталося-б у памяці чытача.

Калі вы яму дасьцё фігуры і абстаноўку, далей ён сам, сваім выбражэньнем, дапоўніць малюнак. Гэтым вы як-бы прымусіце чытача быць аднэй з дзейных асоб у вашым апавяданьні, удзельнікам здарэньняў, якія вы паказваеце. Трэба якраз адлюстроўваць, паказваць, а ня толькі расказваць.

(Горкі —„Письма из редакции“ (письмо 1-ое)—„Литературная учеба“ № 2, 1930 г.).

Апавяданьне няўдалае, таму, што напісана няўважліва і суха ўадносінах да людзей, яны ў вас—нявідныя, бяз твараў, без вачэй, бяз гэстаў. Магчыма, што гэты недахоп тлумачыцца вашай прыхільнасьцю да факта. У лісьце да мяне вы паведамляеце, што вас „цікавіць літаратура факта“, інакш кажучы, самы грубы і няўдалы „ухіл“ натуралізма. Нават у лепшым сваім выяўленьні—у братоў Гонкур—натуралістычны прыём рэчаіснасьці, апісваючы дакладна і дробязна рэчы, пэйзажы, паказваў жывых людзей надзвычай слаба і „бяздушна“. Апрача амаль аўтобіаграфічнай кнігі „Браты Земгано“ Гонкуры ва ўсіх іншых кнігах цьмяна, хоць і дакладна, апісвалі „гісторыю хвароб“ розных людзей ці выпадковыя факты, пазбаўленыя сацыяльна-тыповага значэньня. Вы таксама ўзялі выпадак вашага героя, як прыватны выпадак, аднесьліся да яго па рэпартэрску, абыякава і праз гэтую бязуважнасьць усе героі вашага апавяданьня жывуць.

А калі-б вы ўзялі з сотні такіх выпадкаў няпрымірымых рознагалосьсяў бацькоў-дзяцей, хоць-бы дзесятак, ды, добра прадумаўшы, аб'ядналі дзесяць фактаў у адзін, гэты, вамі створаны факт, магчыма, атрымаў-бы сур'ёзнае і надзвычай глыбокае мастацкае і сацыяльна выхаваўчае значэньне. Атрымаў-бы пры той яшчэ ўмове, калі-б вы паставіліся больш уважліва да формы апавяданьня, да мовы, а таксама не падказвалі-б, што яны павінны рабіць кожны за сябе адпаведна свайму вопыту і характару.

Мастак павінен уладаць здольнасьцю абагуленьня—тыпізацыі паўторных зьяў рэчаіснасьці.

(М. Горкі—„Письма из редакции“ (письмо 6-ое) „Литературная учеба“ № 1, 1930 г.).

# АБ ВЕРШАХ

Наша моладзь—узрастаючая, узыходзячая сіла, якая прызвана лёгікай гісторыі стварыць новыя формы і ўмовы жыцьця. Яна павінна ведаць, якія прычыны вызвалі заняпад буржуазіі, на чым спатыкнулася эўрапейскае і рускае мяшчанства, з якой паўнатой і праўдзівасьцю адлюстравалі паэты, дзеці буржуазіі, працэсападаньня сіл сваіх бацькоў і асабовыя свае драмы— драмы „лішніх людзей“ незадаволеных тэй рэчаіснасьцю, якая створана бацькамі. Усё гэта зусім неабходна зразумець маладым нашым чытачом.

А паэтам нашым, апрача ўсяго гэтага, трэба добра ведаць гісторыю рускай паэзіі, і ведаць якімі прыёмамі тэхнікі слова карысталіся паэты мінулага часу, як разьвівалася, абагачалася мова рускай паэзіі, як рабіліся больш рознастайныя формы вершаў. Трэба ведаць тэхніку творчасьці. Веданьне тэхнікі справы—гэта і ёсьць веданьне справы. Тэхніка, узятая цалкам ува ўсіх галінах працы і творчасьці, ёсьць адна з асноўных сіл культурнага росту, адна з сіл, якая вядзе ўвесь працэс культуры. Можна шмат бачыць, чытаць, можна нешта ўявіць, але каб зрабіць, неабходна ўмець, а ўменьне даецца толькі вывучэньнем тэхнікі. У рабоце са словам і над словам бярэ ўдзел здольнасьць вынаходзіць,—мы добра ведаем, якія пакутныя і бязплённыя працы вынаходцы, што незнаёмы з тэхнікай, і як часта вынаходзяцца рэчы даўно і добра вядомыя.

Мала хто з нашых паэтаў можа пахваліцца тым, што ведае сваю справу так добра, як трэба яе ведаць. І мала хто з іх разумее, як глыбока рэчаіснасьць, што творыцца рабочай клясай Саюзу Саветаў, узрушае ўвесь працоўны сусьвет нябывалымі надзеямі, прадчуваньнямі нямінучай трагедыі сусьветнай барацьбы пазбаўленага ўласнасьці, але багатага рэвалюцыйнай энэргіяй пралетарыяту супроць багатай золатам, але ніжэйшай духам сусьветнай буржуазіі. Жыцьцё патрабуе гераічнай паэзіі, паэзіі паглыбленьня ў сэнс нарастаючай трагедыі. Ніколі яшчэ жыцьцё не патрабавала ад паэты і наогул ад літаратара так многа, і ніколі літаратура не давала так мала, так ашчадна, як дае ў нашы дні. Гэта магчыма вытлумачыць толькі вузкасьцю кругавіду літаратараў, недахопам іх увагі да жыцьця, недахопам ведаў аб ім. Ня ведаючы гісторыі культуры, немагчыма быць культурным чалавекам, ня ведаючы мінулага, немагчыма зразумець сапраўдны сэнс сучаснага і мэты будучага.

(М. Горкі—„О библиотеке поэта“—„Литературная учеба“ № 4, 1932 г.).

Па-мойму ў нашых вершах раней за ўсё не хапае натхненьня, патосу. Так большасьць нашых вершаў хварэе гэтым недахопам: яны пішуцца з надзвычайнай хуткасьцю, і хоць у іх прыкметна імкненьне адгукнуцца на будні, але гераізму нашых будняў яны не адлюстроўваюць. Гэта толькі больш ці менш цікавыя строфы, аднак не паэзія ў тым сэнсе, у якім яна павінна быць у клясы-пераможцы, у клясы, якая стварае вялізарныя каштоўнасьці духоўнага і матар'яльнага значэньня, у клясы, якая ўзяла на сябе найвялікшую задачу, -ісьці паперадзе ўсяго сусьветнага пралетарыяту.

(М. Горкі—„Две беседы". Молодая гвардия, 1931 г.).

...Верш патрабуе дакладнасьці і маласлоўя, сьцісласьці, эканоміі слова. Гэта надзвычай добра, таму, што бяз гэтай эканоміі, бяз гэтага сьціслага, моцнага сказу—ня зробіш твору ў дастатковай ступені моцнага, зычнага, прыгожага. Але ня трэба забывацца: для таго, каб пісаць, трэба надзвычай добра ведаць мову. У адносінах да шмат каго з нашых пісьменьнікаў трэба сказаць, што рускай мовай яны карыстаюцца па-барбарску і ведаюць яе дрэнна. Большасьць нашых паэтаў, на жаль, работай над мовай не займаюцца і вершы ў іх шэранькія, бляшаныя. Медзі няма, няма срэбра, ня зьвіняць яны, не пяюць.

(„Гутарка М. Горкага з пісьменьнікамі-ударнікамі" „Литературная учеба" № 1, 1931 г.).

## ГІСТОРЫЯ ФАБРЫК І ЗАВОДАЎ

Мы павінны нястомна змагацца супроць рэштак старажытнай грубасьці, супроць палітычнай і ўсякай іншай няпісьменнасьці, за нашу культуру сацыялізму. Нам неабходна вывучаць нашу рэчаіснасьць ва ўсім яе аб'ёме, нам трэба ведаць у твар усе нашы заводы і фабрыкі, усе прадпрыемствы, усе работы па будаўніцтву дзяржавы.

Трэба ведаць завод у яго сучасным значэньні, як арганізатара сацыялістычнай сьвядомасьці і сацыялістычнай вытворчасьці.

Як, якім прыёмам пазнаёміць рабочую масу з усім гэтым? Пралетарыят ужо сам намацаў гэтыя мэтады і прыёмы. Чырвоная кніжка аб „Каменцы", створаная самімі рабочымі, і шэраг іншых, менш удалых, кніжок гавораць нам, што у такіх кніжках насьпела неабходнасьць і што яны павінны стварацца шляхам калектыўнай работы. Рабочыя стварылі завод, яны-ж і павінны напісаць гісторыю яго стварэньня—гісторыю яго работы.

(М. Горкі—„Создадим большевистскую историю фабрик и заводов"—Библиотека „Рост" Масква, 1932 г.)

У працэсе работы над „Гісторыяй заводаў“ маладыя літаратары атрымаюць магчымасьць дасягнуць тэй высокай літаратурна-тэхнічнай кваліфікацыі, якая абавязкова для іх і неабходна для краіны. Разам з гэтым члены фабрычна-заводзкіх літгурткоў, знаёмячыся з мінулым сваіх дзядоў і бацькоў, павінны будуць узмацніць і сваю клясавую самасьвядомасьць.

(М. Горкі „Создадим большевистскую историю фабрик и заводов“—Масква. 1932 г.).

*Вытрымкі сабраў*
*М. АЛЯХНОВІЧ.*

---

*ПЛАТОН ГАЛАВАЧ*

# ЯК БЫЛА НАПІСАНА АПОВЕСЬЦЬ „СПАЛОХ НА ЗАГОНАХ“.

ЗІМОЙ 1928-1929 году я быў на перавыбарах сельсаветаў у Кляніцкім с/с Смалявіцкага раёну. У гэтым с/с у в. Пацічова існавала ўжо тады с.-г. камуна „Камсамольская воля“, створаная ў надзвычайна цяжкіх умовах ініцыятывай камсамольцаў т. т. Чыкуна і Воўка.

Да 1929 году камуна ўжо моцна стала на ногі, вырасла і зрабілася фактычным кіраўніком усяго палітычнага жыцьця ў сельсавеце.

Пазнаёміўшыся блізка з жыцьцём камуны, я паставіў сабе мэтай напісаць твор пра с.-г. камуну. Пачаў зьбіраць матар'ялы, рабіў запісы, але да 1930 году нічога не напісаў.

У лютым 1930 году па камандырсўцы ЦК КП(б)Б я паехаў у Дрысенскі раён (б. Полацкая акруга) на правядзеньне работы па калектывізацыі і веснавой сяўбе. У гэтую камандыроўку я ехаў з вялікаю радасьцю, бо вельмі добра разумеў значэньне гэтае паездкі для мяне, як пісьменьніка. Я разумеў, што ў вёсцы у масе сялянства адбываецца рашучы пералом, рашучы паварот у бок да сацыялізму, і разумеў, што пісьменьнік камуніст ня можа ня быць жывым сьведкай і ўдзельнікам гэтых падзей.

У раёне работы было багата, а сіл мала. І я адразу акунуўся ў самую гушчу падзей, пашоў працаваць у Бігосаўскі сельсавет. Яшчэ зусім ня ведаючы, як я скарыстаю матар'ял, я поўнымі прыгаршчамі браў яго для сябе як пісьменьніка. Так накапляліся запісы: выступленьняў сялян, партыйных і савецкіх работнікаў; сялянскіх гутарак, канкрэтных фактаў палітычнага і бытавога характару і г. д. і г. д. Плюс фіксацыя сваіх адносін да гэтага матар'ялу.

Вясна 1930 году была для мяне, як пісьменьніка, надзвычай вялікай практычнай школай у справе вывучэньня, пазнаваньня сялянства і надзвычай вялікай магчымасьцю нарыхтовак матар'ялу. Запас матар'ялу стаў яшчэ большым, калі ЦК КП(б)Б у маі 1930 г. перакінула мяне для ўдзелу ў сяўбовай кампаніі ў Лупалаўскі раён (б. Магілеўская акруга).

У працэсе практычнае работы я зьбіраў матар'ялы, абдумваў іх і меркаваў пра напісаньне аповесьці.

Я разумеў:

што бедната і асноўная маса серадняцтва сталі на шлях калектывізацыі сельскае гаспадаркі; што менавіта ў сувязі з гэтым асабліва актывізаваўся клясавы вораг, у прыватнасьці разьюшанае кулацтва, якое павяло шалёную работу супроць калгасаў;

што многія з сялян ідуць у калгас, азіраючыся на старое, баючыся калгаснага жыцьця, паколькі гэтае жыцьцё было новым, і паколькі кулацтва рабіла ўсё магчымае, каб выхаваць у сялян антыкалгасныя настроі;

што многія з тых, хто пашоў у калгас, пры першым-жа выпрабаваньні, пры першых-жа цяжкасьцях пойдуць назад;

што кулак у сваім змаганьні сам будзе ісьці ў калгас, каб узарваць яго знутры;

што часта сяляне, а то і работнікі сельсаветаў і асобныя камуністы ня ўмеюць пазнаць клясавага ворага і выкрыць яго для мабілізацыі сялянскіх мас на змаганьне з ім.

Я разумеў, што гэта патрабуе ад мяне--камуніста-пісьменьніка хутчэйшага напісаньня твору, які дапамагаў-бы партыі ў справе калектывізацыі.

Да гэтага я быў цьвёрда пераконаны, што твор будзе найбольш дзейным тады, калі мне ўдасца ў ім з максымальнай праўдзівасьцю паказаць самы працэс калектывізацыі вёскі з усімі цяжкасьцямі, з усёй складанасьцю клясавага змаганьня, ва ўмовах якога гэты працэс ідзе.

Шмат хто з сялян, меркаваў я, бачаць тое, што робіцца ў вёсцы вакол іх, бачаць вялізарныя зрухі, што адбыліся ў жыцьці вёскі, самі зьяўляюцца ў большай ці меншай меры ўдзельнікамі гэтых падзей, але бачаць усё гэта яны па свойму, часта не разумеючы сутнасьці падзей, пэрспэктывы іхнага разьвіцьця. Як пісьменьнік, я павінен праўдзіва, без прыфарбоўкі паказаць селяніну ў мастацкім творы ўсё тое, што адбываецца вакол яго, але паказаць так, каб ён убачыў усё гэта, ужо бачанае, па новаму, па мойму, па нашаму. Каб прачытаўшы аповесьць, ён змог разгадаць на сходзе ў сваёй вёсцы, у сваім калгасе, хто зьяўляецца ворагам калгасу, яго ным ворагам, а хто зьяўляецца сапраўдным калгасьнікам, старонь нікам новага жыцьця.

І я зрабіў першую спробу. Напісаў эскіз „Нястрымнае“, які надрукаваў у адным з нумароў „Чырвонай Беларусі“ за 1930 год. Гэты эскіз я чытаў на некалькіх сходах. Сяляне ўважліва слухалі і гаварылі, што напісана правільна, так як от было яно і ў іхнай вёсцы.

Гэта было вялікім стымулам для работы. Вярнуўшыся ў канцы мая месяца ў Менск, я зьвярнуўся да сваіх запісных кніжок і пачаў работу. А праз тры месяцы, менавіта 27 жніўня 1930 году я змог запісаць у дзеньніку:

„Сёньня скончыў пісаць аповесьць „Спалох на загонах“.

І я аддаў аповесьць у выдавецтва.

Але праз нейкі час, калі аповесьць была ўжо здадзена ў друк, я зразумеў, што над аповесьцю працаваў мала, што ў ёй багата недаапрацаваных месц, месц, зробленых схематычна, месц, на якіх ляжыць сьлед залішняй пасьпешнасьці. Тады, не адкладаючы справы, я пачаў пераапрацоўваць аповесьць, пачаў, не мяняючы асноўнае ідэі, нанава пісаць яе. Пры пераапрацоўцы я паставіў сабе задачай: даць больш глыбокі паказ арганізуючай ролі рабочае клясы і партыі ў справе калектывізацыі, пазбавіць аповесьць па магчымасьці ад слабых, схэматычных, недаробленых месц.

Увосень 1931 г. пераапрацоўка аповесьці была скончана, і я здаў у друк 2-ое яе выданьне.

Але і цяпер, калі я зьвяртаюся да сваіх запісных кніжак, я разумею, што поўнасьцю з задачай, якую я ставіў перад сабой у самым пачатку напісаньня аповесьці, я ня справіўся яшчэ. І таму я кажу, што мая аповесьць „Спалох на загонах“, якая зьяўляецца бясспрэчным дасягненьнем у маёй творчай рабоце, ёсьць эскіз для напісаньня новага вялікага твору пра сялянства, над якім я працую цяпер.

*30-1-33 г.*

---

*З. БЯДУЛЯ*

# УМОВЫ ЛІТАРАТУРНАЙ ВУЧОБЫ І ПРАКТЫКІ РАНЕЙ І ЦЯПЕР

**ЖЫВУЧЫ калісьці ў глухой вёсцы, я часта задумваўся над пытаньнем—аб чым пісаць? Мне, юнаку, які тады ведаў толькі біблію, талмуд і некалькі школьных хрэстаматый на стара-яўрэйскай і рускай мовах, гэтае пытаньне—аб чым пісаць—было сапраўды самым цэнтральным пунктам у маіх вучнёўскіх літаратурных спробах.**

Яўрэйскі „хэдар“ і „яшыбот“ [1]) убілі мне ў мазгі, нібы паіржавелыя цьвікі, містыку і схалястычна-філёзофскую рыторыку. Я пачынаў нацяг, ваць свае невялічкія творы на гэты капыл. Пісаў дзень-у-дзень узапар, у кожную вольную хвіліну. Пісаць да вар'яцьця хацелася... Калі я пачынаю задумвацца над тым, што тады паслужыла мне першым штуршком да пісаньня, дык застаецца толькі адно: вечнае дачыненьне да кнігі. Ня гледзячы на якасьць гэтай кнігі ў яўрэйскім хедары, я ўсё-ж такі быў з ёю неразлучным ад сямі да пятнаццаці год. Ею, можна сказаць, увайшоў у жыцьцё. Спачатку верыў кожнаму слову гэтай „сьвятой“ кнігі, а пасьля, маючы каля пятнаццаці год, пачаў задумвацца над жыцьцём, над яго зьявішчамі (хоць бы ў сувязі з тым, што я з дванаццацігадовага ўзросту вельмі часта галадаў у мястэчках, дзе я вучыўся) і адважыўся крытыкаваць тыя кнігі, якім аддаў дзіцячыя гады. Я перастаў верыць ім.

Пісаў я тады шмат—вершыкі і абразкі прозай. І вось тут атрымалася цікавае зьявішча: ня гледзячы на тое, што я крытыкаваў рэлігійныя кнігі, ня мог усё-ж такі вызваліцца ад біблійнага стылю, ад рытарычных разважаньняў талмуду і ад містыкі хасыдзкіх казак, якіх ня мала начытаўся ў дзіцячыя гады[2]). Крытыкаў я тады ня меў. Ня было каму паказваць напісанага. Калі-ні-калі чытаў свае творы на рускай мове сядзельцу манапролькі, які выпраўляў у іх самыя асноўныя граматычныя памылкі. Сядзелец падарыў мне рускую граматыку, якую я пачаў адразу зубрыць.

А цяга да пісаньня была такая вялікая, што бяз гэтага проста жыць ня мог... Друкаванае слова вабіла, прыцягвала да сябе сваяасаблівай сілай. Пачаў чытаць рускія кнігі, і кожная з іх была для мяне цэлай падзеяй. Мне здавалася, што каб меў адукацыю, дык і я мог-бы пісаць такія творы.

Калі часам прыяжджаў у наша мястэчка гімназіст з гораду, я глядзеў на яго з вялікай зайздрасьцю.

...Каб я меў магчымасьць вучыцца. Вось-бы тады пісаў, і мае творы друкаваліся-б...

Я дастаў школьныя падручнікі і давай сядзець над імі цэлымі начамі.

Чытаючы творы Пушкіна, Лермантава, Гогаля, Тургенева, Чэхава, Гэйнэ, Золя і розных іншых, таксама і яўрэйскіх пісьменьнікаў, у мяне зьявілася думка аб тых крыніцах, скуль пісьменьнікі чэрпаюць сваю творчасьць. І я кінуў самому сабе лёзунг:

Ад кнігі да жыцьця!

Жыцьцё нашай вёскі і мястэчка дваццаць пяць год таму назад—аднастайнае, з бязьлітаснай эксплёатацыяй, кулацкай кабалой, горам, нядоляй... Царская рэакцыя пасьля рэвалюцыі 1905 г. павялічвалася з кожным днём. У глушы Беларусі адчуваўся нязвычайны застой. Год напаўняўся нудою няўдзячнай штодзённай вясковай працы. Год „аздабляўся“ рэлігійнымі сьвятамі, якія ў большасьці і ў яўрэяў і беларусоў выходзілі бадай у адзін і той самы час.

---

1) Рэлігійныя школы.

2) Містычныя рысы ў маёй творчасьці гэтак і выразныя нацыянал-дэмакратычныя пазыцыі, якія былі ў маёй творчасьці, на колькі год пазьней пачалі расхвальваць у „Нашай Ніве“, чым прынесьлі мне вялікую шкоду.

Я пачаў шкадаваць беднага чалавека. Я тады слаба разумеў клясавыя суадносіны паміж багатым і бедным, паміж кулаком і бедняком. Шкадаваць беднага чалавека зрабілася ў мяне нейкім рамантычным. Я не задумваўся над прычынамі пакут беднаты. На такім рамантычным фоне я і пісаў.

Пісаў, можна сказаць, выключна для сябе, бо сваіх твораў тады ні ў якія рэдакцыі яшчэ не пасылаў.

Апрача мяне яшчэ некаторыя ў ваколіцы займаліся складаньнем вершаў. Яны іх не запісвалі толькі таму, што самі аўтары былі зусім няпісьменнымі... Усё-ж такі іхнія вершы распаўсюджваліся сярод сялян... Гэта былі складальнікі народнай творчасьці, якія выводзяцца з старадаўніх часоў у тых мясцох, дзе насельнасьць спрэс няпісьменная. Я вельмі зацікавіўся гэтымі народнымі паэтамі з тэй мэтай, каб пашырыць і сваю тэматыку, бо пытаньне—аб чым пісаць—у мяне яшчэ стаяла рубам.

У нашай ваколіцы я знаў трох такіх вершаскладальнікаў.

Бардкевіч--безьзямельны селянін, „кутнік"; жыў вечна па чужых кутках, вандраваў з вёскі ў вёску. Чалавек сярэдніх год, з чорнымі праніклымі вачыма, твар голены, маршчыністы, чорныя, спушчаныя ўніз вусы, як у Шаўчэнкі. Ён складаў вершы пры выпіўцы гумарыстычныя, на розныя падзеі ў ваколіцы. Галоўным чынам высьмейваў шляхту і гандляроў-яўрэяў. Лейт-матыў у яго вершах быў такі: дробны панок або яўрэй-крамнік памірае. Іх душа ідзе на той сьвет. Чэрці прыдумляюць для іх розныя пакуты. Пекла і пакуты грэшнікаў ён імправізаваў жыва ў гумарыстычных сытуацыях. Гэтая імправізацыя выклікала сярод сабутыльнікаў Бардкевіча гучны рогат.

Вершамі ён зарабляў на гарэлку, а часам і на хлеб... Няпісьменныя сяляне радаваліся і такой літаратуры.

Кравец Юзік--бялявы, малады, таксама любіў выпіць і таксама вандраваў з вёскі ў вёску, як кравец. Абшываў у большасьці заможнае сялянства. У сваіх вершах ён высьмейваў галоўным чынам скупых, якія кепска кармілі яго ў часе працы. Многія баяліся браць яго ў хату на працу толькі таму, каб ён потым ня прыдумаў пра іх вершаў. Бо тады яго жывому герою хоць нікуды не паказвайся—засьмяюць. Цэлыя паэмы складаў ён пра такіх. Ня раз пападалася Юзіку поўху ад сваіх „герояў". Іхні „гонар" можа і жыцьцё яму скараціў, бо Юзік памёр маладым.

Хутаранін Гайнэ. Мяне страшэнна зьдзівіла прозьвішча гэтага няпісьменнага паэта. Гэнрыха Гайнэ, нямецкага паэта я тады ўжо добра ведаў. Я запытаўся ў гэтага селяніна, ці ён не паходзіць з Германіі.. Яго прозьвішча Гайнэ мяне да таго зачаравала, што я часта да яго хадзіў. Ён складаў вершы на мяшанай беларуска-польскай мове. Маляваў засьцянковыя вечарынкі, высьмейваў шляхцянак. У яго творах пападаліся някепскія бытавыя малюнкі і лірыка прыроды. Колькі ні гаварыў яму, каб навучыўся грамаце, ён усё аднекваўся тым, што „часу няма".

Пазнаёміўшыся з тэматыкай гэтых трох няпісьменных паэтаў, я пабачыў, што ня толькі чытаньне твораў выклікае цягу да творчасьці, а самае галоўнае—вакольнае жыцьцё, які-б вузкі погляд у аўтара ні быў на гэтае жыцьцё.

Тым часам сшыткі маіх пісанін расьлі ды расьлі. Я ўяўляў сабе, што ўсе гэтыя творы будуць друкавацца, а пакуль што я іх сам „друкаваў“— перапісваў друкаванымі літарамі...

Я ўжо выпісваю „Нашу Ніву“.

Друкую ў гэтай часопісі допісы з сялянскага быту: п'янства і галеча, смутак і безнадзейнасьць, бездапаможнасьць і беспэрспэктыўнасьць сялянскай беднаты. Што і казаць, рэвалюцыя 1905 году ўжо магла не паказаць пэрспэктыву для сялянскай беднаты, але надышоўшая пасьля гэтага рэакцыя, адарванасьць ад рэвалюцыйнага асяродку адсунулі мяне ад тых часоў і я ня мог разьбірацца ў ходзе гістарычных падзей, тым болей, што вельмі мала можна было на вёсцы дастаць рэвалюцыйнай літаратуры. У той час поп у недалёкім мястэчку Крайск у кожную нядзелю гаварыў перад сялянамі з амбону, што „ва ўсім вінаваты жыды“. Наша мястэчка з 10 яўрэйскіх хат чакала пагрому з нядзелі на нядзелю...

„Наша Ніва“, якая нарадзілася пасьля 1905 году, станавілася ўсё больш буржуазна-нацыяналістычнай, рэакцыйнай... А „Наша Ніва“, хаця я жыў яшчэ на вёсцы, зрабілася маім настаўнікам...

Аднак у той час я напісаў драматычны твор на рускай мове з часоў рэвалюцыі 1905 году. Ня буду гаварыць аб мастацкай якасьці гэтага твору, яна была, бязумоўна, вельмі малой, але мой новы крытык—настаўнік з вёскі Рэпішча (упяршыню зьявілася тады народная школа ў нашай ваколіцы), прагледзеўшы гэты твор, параіў мне зараз-жа яго парваць а то са мной „можа быць кепска“, могуць арыштаваць.

Цікава, што памянёны настаўнік (прозьвішча не памятаю) вучыўся ў настаўніцкай сэмінарыі разам з Якубам Коласам. Ён мне расказаў, што Колас пакутвае ў турме за рэвалюцыйную дзейнасьць. У гэтага настаўніка захаваўся сшытак вершаў Коласа на рускай мове. Ён мне іх чытаў.

У той час я часта сустракаўся з сялянствам. Я стараўся бліжэй пазнаёміцца з бытам. Вёў гутаркі з сялянамі, запісваў народныя песьні і чытаў ім „Нашу Ніву“. Часта хадзіў да аднаго старога бондара Мірона, які на ўсю ваколіцу славіўся сваімі вырабамі (пасьля выкарыстаў яго для апавяданьня „Бондар“). Гэты стары добра памятаў прыгон і апавядаў мне з часоў паншчыны шмат цікавага (некаторыя з яго успамінаў я выкарыстаў для аповесьці „Салавей“).

У 1911 годзе, на 50-годзьдзе адмены прыгону я напісаў артыкул у „Нашу Ніву“. Галоўным матар'ялам мне служылі ўспаміны старога бондара з часоў паншчыны. Артыкул ня быў надрукаваны. Калі ў 1912 годзе я прыехаў у Вільню і запытаўся, чаму мой артыкул ня быў зьмешчаны, сакратар газэты тлумачыў, што каб надрукавалі, прышлося-б плаціць штраф. Тут мне была прачытана лекцыя на тэму, аб чым можна пісаць і аб чым нельга.

„Н. Н.“ была замкнута ў сваім маленечкім гародзіку „ўсяго роднага“, „самабытнага“ і „нацыяналістычнага“. І ў „Н. Н“. нарадзіла мяне пытаньне, аб чым пісаць. Але рэдакцыя ўжо мела сваю рэдакцыйную школку: „адраджэньне беларускага народу“, заслона перад усім „небеларускім“

калі часам браліся тэмы з жыцьця іншых нацыяналянасьцяй (у публіцыстыцы), дык толькі ў разрэзе адражэньня, напр., адражэньня чэскага іпароду, сіянісцкі рух і г. д.

„Н. Н.“ дыктавала, аб чым пісаць. Калі я раней пісаў з жыцьця сялян, калі маляваў сялянскую беднату, хаця і не паказваў прычын галечы, хаця не паказваў клясавага расслаеньня на вёсцы, хаця не паказваў паратунку ад галечы—аднак той смутак, тая роспач, якія былі выкліканы ў чытача такімі малюнкамі, маглі-б яго накіраваць на думку аб прычынах кепскага жыцьця і аб спосабах змаганьня з імі. Але кіраўнікі „Н. Н.“ кінулі рэакцыйны, буржуазны лёзунг аб „слаўнай мінуўшчыне“, калі Беларусь квітнела, калі „беларуская культура... і г. д.

Я і па сёнешні дзень ня ведаю, у чым выявіўся росквіт старой Беларусі, дзе блішчэла золата яе „залатога веку“. Аб гэтым гаварылася туманіста, узьнёсла. Гэта было рэдакцыйна-рамантычным блуканьнем па лябірынтах вякоў. На магілах фэадалізму зьбіралі пажоўклыя шкілеты, літоўскі статут, біблія Ф. Скарыны, міталёгія, купальле, каляды і г. д. Фэтышызацыя мовы хмяліла людзей, як опіум. Дзе толькі ў старых фаліянтах гісторыі знаходзілі намёк на беларускую мову, дык усё гэта кідалася, як скарб, у рэакцыйна-рамантычны нашаніўскі мяшок.

Зьявілася „новая тэматыка“: старая Беларусь... Пайшоў і я па гэтай сьцежцы. Сам не заўважыў, як перакінуўся з сялянскага быту ў рамантычную містыку мінулага.

„Пэрспэктывы“ кіраўніцтва „Н. Н“. пашырыліся: мінулае. Да гэтага яшчэ трэба дадаць тое, што „пашырыўся, кругавід на тагачасную сучаснасьць. Напрыклад, нашаніўскі сум аб нядолі селяніна пачаў знаходзіць адпор у тым сэнсе, „што ня так ужо кепска жывецца беларускаму селяніну і няма чаго сумаваць“. Аб гэтым у „Н. Н“. было зьмешчана некалькі артыкулаў Ю. Верашчакі. „Ня так кепска жывецца“ была стаўка на кулацтва...—на багатых людзей. „Годзе сумаваць“—не таму што трэба змагацца за лепшы лёс беднаты, а таму што ў нас ёсьць багатыя.

У той час я напісаў артыкул пад назваю „Я галодны,—пра беднага селяніна, які сваім потам і крывёю корміць багатых, а сам з сям'ёй пухне з голаду. За гэты артыкул на мяне накінуўся ідэолёг кулацтва Ядвігін Ш. „Селянін—сказаў ён,—ня так ужо кепска жыве. Паглядзеце, якія ў нас ёсьць багатыя мужыкі, а мы цацкаемся з бедным мужычком, з лодарам, як з пісанай торбай“.

Рознымі спосабамі стараліся накіраваць беларускага пісьменьніка ў той бок, дзе „беларусу жывецца ня кепска“—г. зн. у бок буржуазіі.

*

Калі ў тыя часы рэакцыі і застою жыцьця пісьменьнікі „Н. Н.“ былі ў вялікай большасьці людзьмі мала адукаванымі, з вузкім сьветапоглядамі калі ў тыя часы наша моладзь па вёсках была няпісьменная, дык у наш час у гэтых адносінах непараўнальна зусім іншае становішча. Цяпер рэдка дзе знойдзеш няпісьменных людзей. 20-25 год таму назад і цяпер гэта ўзьлёт на сотні год. Кастрычнік даў нам шмат пісьменьнікаў і сотні тысяч, мільёны чытачоў. Рэвалюцыя і сацыялістычнае будаўніцтва далі пісьменьнікам і шырокай масе чытачоў такую школу, такі сьветапогляд

якіх не давала і не дае ніякая адукацыя на ўсім сьвеце. Цяпер, каб набыць бібліятэку на беларускай мове, патрэбны вялікія сродкі і некалькі шафаў для кніг, а ў 1910 годзе я выпісаў з Вільні поўную беларускую бібліятэчку нешта за рублёў 7-8—маленькую пачачку кніжок, якую прынёс з пошты за 10 вёрст...

Цяпер ужо ня прыходзіцца ставіць пытаньня, аб чым пісаць. Пісаць можна і трэба аб усім, толькі праўдзіва маляваць нашу сучаснасьць з усёй плянавасьцю, мэтаімкнёнасьцю і рэальнасьцю нашай сацыялістычнай эпохі, з усімі цяжкасьцямі і клясавым змаганьнем, якія няміную сустракаюцца на нашым шляху. Завод і калгас, Чырвоная армія, савецкая інтэлігенцыя, аздараўленьне сям'і, адміраньне рэлігіі, перапрабка чалавечай псыхікі ад уласнасьці да камуны, сужыцьцё пралетарыяту розных нацыянальнасьцяй у аднэй вялізнай інтэрнацыянальнай сям'і, пабудова новых індустрыяльных гарадоў на месцы ранейшых пустэч, пераіначаньне выгляду нашых пэйзажаў, дзе на месцы непраходных балот ствараюцца фабрыкі, заводы і г. д. і г. д.—усё гэта дае надзвычай багатую тэматыку. Жыцьцё наша шматгранна. Працэс клясавага змаганьня на любым фронце будаўніцтва, выкрываньне клясавага ворага, перамога пралетарыяту—усё гэта зьяўляецца жывой тэматыкай.

Кожны куток нашага будаўніцтва мае дзесяткі і сотні пытаньняў, якія чакаюць пісьменьніка.

Тыя абставіны жыцьця, якія калісьці былі толькі ў буржуазіі для выяўленьня талентаў, мае цяпер уся наша пралетарская і калгасная моладзь.

Наша моладзь мае магчымасьць атрымліваць усебаковую адукацыю, з поўным усьведамленьнем сваёй клясавай прыналежнасьці, задач сваёй пралетарскай клясы ў пераможнай хадзе да бяскляcавага грамадзтва да поўнага сацыялізму.

Яшчэ калісьці ў часы рэакцыі і застою жыцьця, А. Чэхаў пісаў, што кожная жыцьцёвая драбніца можа быць тэмай для пісьменьніка. Дык што казаць цяперашняму пісьменьніку, які зьяўляецца саўдзельнікам і сьведкай будаваньня сацыялізму. Ня трэба шукаць тэмы—яна перад тваімі вачыма на кожным кроку. Ня трэба думаць над тым, ці разыйдзецца твая кніга, калі яна напісана з талентам, калі яна дае праўдзівы малюнак жыцьця—характарны для нашай эпохі, калі яна будзіць думку мас у бок удасканаленьня гэтага жыцьця—яе чытачамі будуць сотні тысяч. Ёсьць каму чытаць, ёсьць аб чым пісаць.

Пісьменьніку патрэбна церпялівая праца над сабою, грунтоўная вучоба, сур'ёзны ўдзел у будаўніцтве сацыялізму. Трэба добра ведаць філёзофію нашай эпохі—тэорыю марксызму-ленінізму, каб разумець жыцьцё, усе яго супярэчнасьці, усе яго адценьні. Мала таго, што трэба ведаць тэорыю літаратуры, а неабходна многа чытаць мастацкіх твораў, каб вывучаць тэхніку свайго майстэрства. Пры чытаньні звярочваць увагу на тыя асаблівасьці, якімі ён адрозьніваецца ад іншых аўтараў. А гэта не для таго, каб пераймаць прыёмы данага пісьменьніка, а каб навучыцца быць самому арыгінальным, новым, паказаць жыцьцё багатымі, сваімі ўласнымі сродкамі слова, назіраньняў і думак, так як да гэтага яшчэ ніхто не паказваў. Трэба зварочваць увагу ад меншага да большага: на слоўны

матэрыял, на маляваньне людзей, пэйзажу, падзеі, на пастаноўку і вырашэньне праблем, на разгортваньне сюжэту, на фабульнасьць, на ўзаемаадносіны пэрсанажу між сабою і на кампазыцыю твору ў цэлым, падпарадкаваючы ўсё гэта сваім клясавым задачам.

Калі любому майстэрству, любой навуцы, любой спэцыяльнасьці можна навучыцца на пэўных кнігах, на жывых лекцыях, дык майстэрня пісьменьн ка вельмі складаная рэч. Можна навучыцца быць добрым літаратуразнаўцам, а нельга навучыцца хаця-бы ў вышэйшай школе быць добрым пісьменьнікам, калі ў яго няма прыроднага таленту. А пры таленце трэба самаарганізавана працаваць над сабою.

Перад пачынаючым талентам шэраг вельмі цікавых фактаў, падзей. На гатым фоне праходзіць вялікае галярэя рознастайных людзей. Усё гата так просіцца на пяро... Неабходна даць гэта ў літаратурна-мастацкі паказе. Багатая наглядальнасьць пачынаючага ўсё надбаўляе ў памяці новыя моманты, цікавыя сітуацыі. Ён сам перабалеў гэтыя пытаньні і праблемы. Яны сьвежыя, новыя. Ніхто аб іх яшчэ нічога не сказаў, альбо сказаў няпоўна, няправільна.

Пачынаючы з вялікім імпэтам бярэцца за пяро. Расьце лісток за лістком, разьдзел за разьдзелам. Ён прасіджвае над гэтым цэлымі начамі, а раптам.. напісанае яго не задавальняе. Рве напісанае, бярэцца нанава пісаць. Адпадае ранейшы імпэт. Малады аўтар пачынае сумнявацца ў сваіх здольнасьцях. Аднак здольнасьці ў яго бязумоўна ёсьць. Дык у чым тут справа? Награмаджаньне фактаў і падзей, рознастайнасьць тыпажу узвальваюцца на яго, як цяжар. Ён ня ведае, за што раней брацца. Ня ўмее адрозьніваць галоўнага тыпавога ад выпадковага і нехарактэрнага. У вялім грузе дэталяў загубілася цэнтральная ідэя. У яго з рук выпала галоўная лінія сюжэту. Ён ня ведае, як разгортваць далей фабулу. Твор страціў сваю цэльнасьць і стройнасьць, рассыпаецца на свае асноўныя часткі. Малады пісьменьнік у роспачы.

Справа ў тым, што пісьменьнік яшчэ не заўладаў гэтым багатым матэрыялам, не прадумаў яго да канца і не самаарганізаваўся ў працы. Яго сыравінны матэрыял навален ў цэлую гару і пісьменьнік губляецца ў ім: працуе бяз пляну, бяз сыстэмы. Вялікі запас нагляданьняў і вобразаў блытаецца ў яго памяці. Тут неабходна запісная кніжка, куды павінен быць упісаны ўвесь сыры матэрыял: тэма, праблема, пэрсанаж, паасобныя сцэнкі, дыялёгі, першыя накідкі людзкіх партрэтаў і агульны плян разгортваньня фабулы. Гэта будзе галоўным каркасам твору. Яшчэ раз праверыць свае палітычныя веды па пытаньнях свайго твору, няпрыкметна, як бы паміж іншым, са сваімі знаёмымі заводзіць гутаркі на тэму, якая яго цікавіць, каб быць у гэтым усебакова падрыхтаваным.

Запісная кніжка—неабходная для пісьменьніка рэч.

Запаўненьнем нататак ён ужо фактычна працуе над аповесьцю. Не бяда, калі плян будзе ў працэсе працы пераіначаны, калі будуць уведзены новыя дзейныя асобы і выкінуты некаторыя з ранейшых. Гэта будзе толькі адзначаць, што з агромністага запасу матэрыялу робіцца адбор самага галоўнага і тыповага.

Для паказу людзей у мастацкай прозе патрэбны жывыя канкрэтныя людзі. Бяз гэтага героі аповесьці выйдуць надуманымі, фальшывымі,

Бальзак, напрыклад, каб даваць рэальны паказ людзей, рыхтуючы матэрыял для новага твору, запісваў сацыяльнае паходжаньне чалавека, яго адукацыю, узрост, выгляд, манэры, чым ён займаецца, колькі пэнсіі атрымлівае ў месяц, паводле гэтага: што ён есьць, як ён апранаецца, абсталяваньне яго кватэры. Усю гэту „Чорную работу“ ён праводзіў для таго, каб з матэматычнай дакладнасьцю маляваць чалавека, каб адчуваць яго жывым і рэальным ва ўсіх яго дэталях.

Пісьменьнік павінен дасканала вывучаць свой пэрсанаж у яго клясавых і групавых расслаеньнях, у яго хатнім быце і на працы, у яго ўдзеле ў грамадзкім жыцьці, у яго дзеях, супярэчнасьцях, памылках сумненьнях, упэўненасьці. У адпаведнасьці з гэтымназіраць за яго манэрамі і ведаць усе дэталі яго вонкавага выгляду. Канешне, не дзеля таго, каб усе гэтыя дробязі былі ўстаўлены ў твор, але часам адна дэталь, адзін характэрны штрых, паказаны трапна, на мейсцы, дае больш, чым некалькі абзацаў трафарэтнага паказу. Калі поп у „Бацькаўшчыне“ К. Чорнага, кажучы „хвалите его (бога) в кимвалех доброгласных“, пачухаў нагою аб нагу, дык гэтым чуханьнем нагі аўтар паказаў і „ахайнасьць“ папа, і яго манеру гаварыць „сьвятыя словы“ і адносіны самога папа да бога. Тут ужо паводле трапнага аўтарскага паказу такой маленькай рыскі папа, чытач можа сам дамаляваць поўны партрэт гэтага чалавека.

Для рэальнага паказу чалавека ў пляне яго канкрэтных дзеяў, вялікае значэньне мае яго гутарка, асаблівасьць дыялёгу. Як па выгляду сярод соцен мільёнаў людзей ня знойдзеш двух чалавек, якія былі-б да таго падобны адзін да аднаго, каб іх нельга было адрозьніваць, тое самае і па гутарцы. Кожны мае свае асаблівасьці ў мове, у выражэньні думак, уласьцівыя толькі яму. Сярод маладых аўтараў часта здараецца, што ўсе яго героі гавораць адной мовай—мовай самога аўтара. Гэта вялікі недахоп. Апрача таго, што трэба запісваць асаблівасьці мовы герояў, вылаўліваць характэрныя словы, параўнаньні, сказы, варта яшчэ павучыцца ў вялікіх майстроў слова, як будаваць дыялёг. Вазьмеце, напрыклад, дыялёг у Максіма Горкага. Кожны сказ любога героя Горкага надае партрэту чалавека новы штрышок, выпукляе яго скульптурна, надае яму эфэкт жыцьцёвасьці. Некаторыя пачынаючыя з гэтага боку робяць перагіб, удаюцца ў крайнасьць, яны ствараюць прафэсыйныя жаргоны. Калі герой у яго шавец, дык той абавязкова гаворыць „шаўцоўскай мовай“. У яго дзе трэба і дзе ня трэба фігуруе капыл, дратва, рамень, бот, цьвік і г. д. Усё ў яго моцна, як д р а т в а, воблакі ў яго маюць выгляд б о т а ў, словы лезуць у вушы, як ш ы л ы. Словам, на ўвесь сьвет ён глядзіць праз акуляры сваёй прафэсіі. Гэты стары трафарэтны спосаб паказу. Такое перахапленьне меры кепска дзейнічае на чытача, бо чытач ужо раней ведае, як герой будзе гаварыць і што ён будзе рабіць. Добрая назіральнасьць пісьменьніка павінна яму дыктаваць адчуваньне меры.

Часта прыходзіцца пісьменьніку даць паказ людзей, з прафэсіяй якіх ён мала знаём і пры паказе іх часам у яго сустракаюцца грубыя памылкі. Маленькая няправільная рыска, заўважаная чытачом у творы, зьяўляецца вялікай няпрыемнасьцю для аўтара. Пісьменьнік павінен быць

у некаторым сэнсе энцыклёпэдыстам. Павінен добра ведаць сваіх герояў, мець знаёмства з іх прафэсіямі. Флёбэр, Золя, А. Франс, Талстой і інш. перагортвалі горы кніг, каб вывучаць прафэсіі сваіх гэрояў. Многія з амэрыканскіх пісьменьнікаў самі станавіліся працаваць на розных прадпрыемствах на некалькі месяцаў з мэтай вывучэньня жыцьця герояў задуманых імі твораў. Так рабіў Джэк Лёндан і многія іншыя.

Здараецца часам, што аўтар ня ведае, што рабіць з некаторымі героямі свайго твору. Раптам якая-небудзь дзейная асоба „памірае без пары", альбо бяз прычыны зьнікае. Чытач не разумее, у чым справа: чалавек мог-бы яшчэ жыць, павінен быў жыць і дзейнічаць, а раптам яго ня стала. Аўтар не патрапіў даць герою работы, ня здолеў паставіць яго на месцы. Не апраўдана ні жыцьцё гэтага чалавека, ні яго зьнікненьне. Гэта таму, што аўтар ня меў у сваім уяўленьні поўнага разьвіцьця сюжэту, працаваў бяз пляну. Кожная адзінка з пэрсанажу ня была прадумана да канца. Вось і вышла такая бяда.

А. Чэхаў пісаў, што, калі у пачатку твору ў кватэры героя вісіць стрэльба на сьцяне, яна абавязкова павінна ў канцы твору выстраліць. Ня тое, што героі, а кожная драбніца ў творы павінна быць апраўдана. Гэтага можна дасягнуць толькі тады, калі аўтар ясна выявіў сабе, што даным творам ён сам хоча сказаць. Разгортваньне падзей можна даць жыва і рэальна толькі пры тых ўмовах, калі пісьменьнік добра ведае жыцьцё. Ён выбірае самае, галоўнае, самае тыповае, а лішняе адпадае само сабою. Тады „лішніх людзей", якія раптам зьнікаюць, выпадаюць з сюжэту, ня будзе. Як на заводзе, у войску кожны чалавек знаходзіцца на сваім месцы—тое самае павінна быць у пляне пісьменьніцкага твору.

Каркас, плян пісьменьніцкага твору ў працэсе працы абрастае жывым мясам падзей, маляваньнем пэрсанажу, З кожным новым разьдзелам твары і дзеі пэрсанажу выступаюць больш жыва, больш выпукла з драматычным фабульным нарастаньнем. Адчуваецца нутраная і вонкавая гармонія твору. Больш ярка і востра вылазіць на верх пастаўленая праблема. Яна хвалюе, яна цікавіць сваёй сьвежасьцю. Гэта ўсё таму, што аўтар арганізаваў жыцьцёвыя факты ў мастацкі вобраз а не фатаграфаваў іх бясплянава і хаотычна. Як добры шахматыст умее расстаўляць свае фігуры па шахматных клетках са строгай матэматычнай дакладнасьцю, таксама і пісьменьнік павінен умець растаўляць гэрояў у сваім творы. Ён павінен умець паказваць іх, а не апавядаць пра іх. У гэтым паказе яны павінны дзейнічаць, а ня так сабе гаварыць—дзейнічаць жыва, рэальна, псыхолёгічна апраўдана, паводле тых абставін і ўмоў жыцьця, пры якіх яны знаходзяцца. Але тут трэба асьцерагацца схэмы Чалавек павінен быць паказаны з усімі яго супярэчнасьцямі, у прычыннай сувязі гэтых супярэчнасьцяй. Усё гэта не праз наматваньне вакол яго псыхолёгічных тоўстых скруткаў ад аўтара, а праз яго дзеі.

Усё гэта ня лёгка даецца нават спрактыкаванаму пісьменьніку. У сваім дзеньніку аб тым, як М. Шагінян працавала над творам „Гідрацэнтраль", яна апавядае, як часам выкрэслівала цэлыя разьдзелы, якія лічыла няўдалымі. Адрывалася ад працы над раманам і езьдзіла на прадпрыемства яшчэ раз вывучаць абстаноўку і людзей, спыняла свой твор і чытала Леніна.

Л. Талстой перарабляў „Вайну і мір“ некалькі разоў.

Часта пачынаючы пісьменьнік ня ведае, як закончыць свой твор, дзе паставіць апошнюю кропку. Калі ідэя твору, праблемы, пастаўленыя ў ім перад аўтарам, ясны з усіх бакоў, тады само сабой канчатак твору проста вынікае з усяго зьместу ў цэлым. Няведаньне, як закончыць твор, толькі даводзіць, што аўтарам твор не прадуманы, сыры, што сам аўтар добра ня ведае, што ён гэтым творам хоча сказаць...

Не абавязкова, каб твор канчаўся вясёлым „ура“. Вось, напрыклад, галоўны герой раману „Спалох на загонах“ Галавача, Панас, быў забіты разьюшаным клясавым ворагам. Аднак ня гледзячы на гэта ва ўсёй хадзе падзей данага твору адчуваецца перамога беднаты ў арганізацыі калгасу. З прычыны забойства Панаса клясавым ворагам чытач адчувае яшчэ большы ўздым настрою, яшчэ большы энтузыязм да будаваньня новага жыцьця. Тое самае і „Разгром“ Фадзеева: бальшавіцкі партызанскі атрад пацярпеў няўдачу. Трагічны канец. І вось сумная канцоўка ў творы выклікае ў чытача не адчуваньне разгубленасьці і роспачы, а якраз адваротнае.

Калі клясавае паказана з сацыялістычнай рэальнасьцю, калі пэўны адрэзак жыцьця намаляваны так праўдзіва, што паводле гэтага адрэзку чытач можа сабе ўявіць і будучыню сацыялізму, калі ўсе героі поўнакроўныя і жыцьцёвыя ў сваіх клясавых расслаеньнях, калі разгортваньне падзей ідзе жыцьцёва-праўдзіва, тады ніколі пісьменьніку ня прыдзецца ламаць голаў над тым, які канчатак даць свайму твору. Канчатак выйдзе сам сабою і будзе выклікаць у чытача бадзёрасьць і задаволенасьць, ня гледзячы на тое, ці апошні акорд твору мінорны ці мажорны.

Цяпер наконт пэйзажу. Ня знойдзеш ніводнага мастацкага твору ніводнага пісьменьніка, які ў хадзе падзей не маляваў бы прыроды. Акружаючая прырода—гэта адзін з неад'емлемых фонаў, на якім даюцца людзі і ўзоры падзей. Хто з пісьменьнікаў аддае гэтаму больш увагі, хто менш—але зусім абмінаць у творы малюнкі прыроды ён бадай ня можа.

Пэйзаж, як люстэрка, адбівае ў сябе дзеі чалавека і яго настрої. Якімі вачыма глядзіш на пэйзаж, такім яго і бачыш. Зусім неабавязкова, напрыклад, каб вясна выклікала ва ўсіх людзей радасьць, а глыбокая дажджлівая восень—сум. Возьмем вясновую сяўбу ў наш час у калгасьнікаў яна выклікае радасьць, у кулака—сум. Шырокае калгаснае поле, трактар на ім выклікае бадзёрасьць у беднаты і адчай у клясавага ворага. Тое самае і восень.

Асушка балот, праўка дарог, новыя пасёлкі і фабрыкі ў тых мясцох, дзе раней была бязлюдная глуш, мяняе выгляд пэйзажу.

Тэлеграфныя і тэлефонныя слупы, шпілі радыё, сілосныя вежы, электрастанцыі ды інш. мяняе пэйзаж. У сувязі з рэканструкцыяй сельскай гаспадаркі мяняецца выгляд вакольнай прыроды. Пераробка псыхалёгіі чалавека пры новых умовах жыцьця і праца дзейнічае на яго адносіны да прыроды. Ранейшае сузіраньне прыгожасьці прыроды без практычнага выкарыстаньня яе сіл і магчымасьцяў адпадае. Нельга цяпер даваць пэйззажаў, скажам, у Тургенеўскім стылі. Але зусім без пэйзажу твор выйдзе няпоўным, часам і сухаватым. Пэйзаж павінен гарманаваць з творам у цэлым. Трапная ўвязка з сюжэтам больш жыва выпукляе

людзкія дзеі ды ўчынкі. Пэйзаж павінен эмоцыянальна ўзбагаціць і дапаўняць сабою сюжэтныя сітуацыі. Раней пэйзаж быў нярухомым, не мяняўся ў працягу вякоў, дзеля чаго людзі глядзелі на прыроду, як на сілу непераможную для іх. Цяпер-жа пэйзаж залежыць ад людзей. Сацыялістычнае будаўніцтва перайначвае і пэйзаж. Дзеля гэтага трэба, каб пісьменьнік пры маляваньні пэйзажу надаваў яму новыя фарбы, новую патэтычнасьць, новае хараство.

Маладому пісьменьніку карысна зварочваць увагу на пэйзажы ў творах Ю. Олешы, Панферава, К. Чорнага, Я. Коласа, Шолахава, П. Галавача, Фурманава, вялікага майстра пэйзажу М. Горкага ды шмат іншых. Пісьменьнік павінен вывучаць іх, знаходзіць ладатныя і адмоўныя бакі ў іх, заўважваць, дзе яны пададзены сьвежымі фарбамі. Маляваньне прыроды, усходу і заходу сонца над калгасным полем, над фабрыкай і заводам, у горадзе, над ракой—павінна быць зроблена пановаму, зусім ня тымі сродкамі, якімі карысталіся раней. У адчуваньні прыроды і паказу яе кожны пісьменьнік павінен даць нешта сваё—арыгінальнае і сьвежае.

Мова і стыль твору. Ад гэтага залежыць вельмі шмат. Над гэтым малады пісьменьнік павінен цярпліва працаваць.

За пятнаццаць год пасьля Кастрычніка беларуская мова абагацілася тысячамі новых слоў. Адыйшла ў нябыт засьцянковая мова шляхты, у якой раней знаходзілі „чыстату" беларускай мовы. Любы рабочы, любы калгасьнік узбагацілі свой слоўнік вялікім запасам новых слоў і тэрмінаў. Тыя зьмены, якія адбыліся за пасьлякастрычнікавы пэрыяд ва ўсім жыцьці, адбыліся і ў мове. Новае жыцьцё выражана новымі словамі. Пісьменьнік павінен вучыцца мове з жывых крыніц працоўных мас. Ужываньне старых, няжыцьцёвых цяпер слоў—гэта нацягваньне на плечы сучаснай моладзі старога, пагрызанага мольлю халата. Гэта тое самае, што прысьці ў калгас са старай драўлянай сахою. Мова павінна быць сугучна нашаму дню. Але гэта ня значыць, што пісьменьнік не павінен ведаць старой мовы, ён абавязан ведаць яе. Бяз веданьня старой мовы не напішаш гістарычнай аповесьці, бяз веданьня мовы клясавага ворага не дасі сапраўднага паказу жыцьця ва ўсіх супярэчнасьцях. Пісьменьнік мусіць ведаць беларускую мову ў розных этапах яе разьвіцьця, каб на аснове законаў разьвіцьця мовы ён мог бы тварыць новыя словы, патрэбныя яму ў творы. Але тут трэба мець на ўвазе яшчэ і тое, што справа наватвораў у мове была выкарыстана пры складаньні слоўнікаў. Як, напрыклад, бядняк—злыдзень, калгас—абязьмежка, пралетарыят—убоства і г. д. Пад маскаю „чыстаты" мовы клясавы вораг—нацыянал-дэмакраты рабілі проста контррэвалюцыйныя ўчынкі. Словы, якія ўвайшлі ў жыцьцё і ўжываюцца ў штодзённым абыходзе мас, нельга мяняць. Справа ідзе аб зусім новых патрэбных словах, якіх яшчэ няма ў беларускай мове. Аўтар павінен вельмі асьцярожна падыходзіць да гэтай справы і залішне не злаўжываць наватворамі. Таксама некаторыя з нашых пісьменьнікаў пішуць выключна на мове сваёй ваколіцы, не даючы тлумачэньня тым словам, якія не зразумелы для большасьці чытачоў. Ужываць правінцыялізмы трэба ў тых выпадках, калі аўтар малюе людзей данай ваколіцы і то толькі ў маналёгах і дыялёгах пэрсанажу. А то некаторыя ператвараюць такім чынам мову ў нейкі жаргон.

Таксама некаторыя вульгарызуюць мову ў тым сэнсе, што гук „ф“ замяняюць гукам „х“, напр., „Ахроім“, а не Афроім, „Хрума“, а ня Фрума. Няўжо пабеларуску ніяк не ўдаецца выгаварыць „ф“. Гэта няпраўда. Я сам жыў на вёсцы 24 гады і ведаю, што большасьць сялян дасканала выгаварваюць „ф“. Гэта зусім не ўласьцівасьць беларускай мовы. Вазьмеце, напрыклад, рускую літаратуру, дык і там аўтары паказваюць, як некаторыя сяляне заменьваюць „ф“ на „х“, але гэта ня значыць, што аўтар узаконьвае „х“ замест „ф“, як правіла для мовы ў цэлым. Пісьменьнік павінен даваць тыя словы, якія ўжываюцца яго героямі ў іх дыялёгах, але аўтар не павінен ужываць пакалечаных слоў, калі ён гаворыць ад сябе. З такім посьпехам некаторыя замест „мядзьведзь“ пішуць „мядзьмедзь“, „эканом“—„акамон“ і г. д. Ужываньнем слоў у такой „народнай чыстай“ форме аўтар перарабляе мову на жаргон.

Пісьменьнік павінен адчуваць меру ў мове, добра ведаць яе законы, усе яе нюансы, яе музычнасьць і не вульгарызаваць яе празьмерным ужываньнем слоў сваёй „самабытнай“ ваколіцы.

Малады пісьменьнік павінен вучыцца мове з жывых крыніц працоўных мас, і з літаратурных твораў нашых лепшых мастакоў слова. У першым выпадку ён павінен ня прымаць за нешта непарушнае пакалечанае „народнае“ слова. У другім выпадку—адносіцца крытычна да тых слоў, якія выклікаюць у яго сумненьне.

Ад веданьня мовы залежыць і мастацкасьць стылю аўтара. Удалы запас слоў, будова фразы—адзін з галоўных сродкаў маляўнічасьці ў мастацкай прозе.

Пачынаючы пісьменьнік часта ня можа вызваліцца з-пад уплыву чужога стылю ў мове ўлюбёнага пісьменьніка. Канечна, трэба вучыцца добраму стылю ў вядомых літаратурных майстроў, але вучыцца так, каб быць самому арыгінальным, вучыцца выпрацоўваць свой уласны стыль, свае ўласныя манэры пісьма. Сьцісласьць, маляўнічасьць і скульптурнасьць стылю, сьвежасьць яго—гэта адна з найвялікшых дастойнасьцяй кожнага пісьменьніка. М. Горкі—вялікі майстар стылю. Маладыя пісьменьнікі павінны ў яго доўга вучыцца, як знаходзіць свой уласны стыль.

*

Калі твор напісаны, аўтар павінен перачытваць яго некалькі разоў і самакрытыкаваць яго, рабіць папраўкі, лішнія мейсцы выкрэсьліваць, не шкадуючы выкідваць частыя паўтарэньні адных і тых самых слоў, заменяць іх новымі. Аўтар павінен цярпліва шліфаваць свой твор. Шліфоўка неабходна і найлепшаму майстру. Калі, паводле погляду аўтара, твор ужо ня мае ніякіх заган, наладзіць чытку твору сярод сваіх таварышоў. Ня трэба баяцца жорсткай крытыкі, таксама ня трэба думаць што неспэцыялісты па літаратуры не дадуць правільнай крытыкі. Вельмі часта „неспэцыяліст“ дае трапныя заўвагі, як па ідэалёгіі твору, таксама і ў маляваньні людзей, у разгортваньні сюжэту.

Нерэальную рыску ў творы, нехарактэрнае зьявішча заўважыць хутчэй таварыш па цэху на заводзе ці таварыш па калгасу, чымся літаратуразнаўца. Ён заўважыць памылку тэхнічнага парадку ў абрысоўцы, напр., трактарыста, якога-небудзь майстра на заводзе. Ён угледзіць памылку ў такіх дэталях, дзе чалавек не з данай вытворчасьці ніколі іх ня прыкмеціць.

Калі з фармальнага боку масавы крытык усіх хібаў у творы не зразумее, дык затое на масавай крытыцы аўтар праверыць, як успрымаецца твор у цэлым, і таксама знойдзе ў гэтай крытыцы шэраг практычных заўваг. Трэба надзвычайна пільна прыслухоўвацца да крытыкі, якая ідзе непасрэдна ад людзей з практыкай будаўніцтва. Пасьля папраўак хібаў, паказаных крытыкам з масы, твор будзе больш жыцьцёвым і больш рэальным.

# КРЫТЫКА І БІБЛІЯГРАФІЯ

Л. БЭНДЭ

## УНУК, ЯКІ ЗРАЗУМЕЎ

СЫМОН Баранавых сваім нацыялістычным панігірыкам „Матчын сын" вельмі і вельмі прыгадвае нам купца, які ўкрадкай зрабіў адбітак з гандлёвых кніг свайго багатага суперніка і ўявіў сабе, што разам з аўладаньнем адбітка, ён заўладаў і ягоным багацьцем.

Сымон Баранавых уявіў, што, зрабіўшы няўдалы, да рэчы, адбітак з вершу Купалы, ён ужо заўладаў усім багацьцем аўтара вершу. А на справе Баранавых падабраў толькі кавалкі адкідаў раскіданых на шляху беларускага нацыяналізму. З гэтай прычыны ад „Матчынага сына" аддае спэцыфічным, але няпрыемным пахам.

Пах, які ідзе ад „Матчынага сына" Баранавых, прымушае зразумець, што недалёка ляжыць падаль і вылучае ў паветра свае атрутныя бацылы, якія могуць трапіць у здаровы арганізм некаторых не загартаваных у барацьбе з падобнымі бацыламі людзей і прынесьці шкоду.

Паспрабуем анатаміраваць „Матчына сына", паспрабуем разгледзець бацылы, каб вызначыць іх род і ступень шкоднасьці.

Каб ня сумна было займацца гэтай зусім няўдзячнай працай, Сымон Баранавых, як вучыў у свой час·Фохт, пераапрануўшыся ў зязюльку, будзе нам звонка кукаваць.

Давайце-ж возьмем „Матчынага сына", пазнаёмімся з ім, каб даведацца адначасова і пра радаслоўную яго „унукаў.

„Маці калыхала сына. Плакаў сын і ня ведаў чаго, а маці калыхала—гаварыла:

— Сьпі... сьпі, мой мілы сынок. Ня плач-жа ..

Вырасьцеш от... Будзеш вялікім, вялікім, вялікім, вялікім. Сьмелым..."

У чытача паўстае зусім законнае пытаньне: што гэта за алегорыя? што хаваецца за „маткай" і за „сынам", які плача і ня ведае чаго?

„Маці", „сын" і „дзеткі"—усё гэта традыцыйныя вобразы, сымбалі беларускай нацыяналістычнай літаратуры. За гэтымі вобразамі, сымбалямі хаваецца зусім ня тая рэальная

існасьць, якая, скажам, у пралетарскага пісьменьніка Максіма Горкага ў яго рамане „Маці“.

„Маці“—пакутная жанчына, гэта традыцыйны вобраз Беларусі ў творах усіх нацыяналістычных беларускіх пісьменьнікаў. „Сын“—таксама традыцыйны сымбаль беларускай інтэлігенцыі. Гэтая-ж інтэлігенцыя зьяўляецца ўвасабленьнем і „Матчынага сына“ Баранавых.

Вось цяпер, калі расчынілі дужкі, калі сымбалі пераклалі на рэчы, якія паддаюцца ўяўленьню, ня цяжка будзе зразумець і ўвесь сэнс „Матчынага сына“.

Што гэта так, зварочваем увагу нашага чытача на тыя вытрымкі з вершу Купалы, якімі расшыфроўвае Сымон Баранавых рэальны зьмест „маткі“ і „сына“.

„Сьпі і сьні вясёлкі гулі,
Як-жа вырасьцеш вялікім,—
Не забудзеш ты матулі .
. . . . . . . . . . . . . .
Сьпі, злажыўшы ў крыж далонкі,
Як-жа вырасьцеш вялікім,—
Не забудзеш ты старонкі“.

Спынім увагу на гэтым. Што тут характэрнага? Перш за ўсё ўспрыняцьце Баранавых самой, рэальна існуючай Беларусі, Беларусі сацыяльна і нацыянальна прыгнечанай у сваім дарэвалюцыйным мінулым. Гэтае ўспрыняцьце Баранавых нічым ня розьніцца ад успрыняцьця мінулай Беларусі ўсімі нацдэмамі.

Беларусь—гэта нізкая, адзіная, не падзеленая на клясы, пасыўная, пакутная краіна-маці. У нутры яе няма кляс, няма клясавай барацьбы, яна цэламудраная, не закранутая агульнымі законамі разьвіцьця чалавецтва, яна „самабытная“ маці-непарочная. Вось такое ўяўленьне нацыяналістых аб мінулай Беларусі, вось такі яе вобраз яны стварылі і іх атрэп‘е спрабуе зараз ствараць у мастацкай літаратуры. Дый ня толькі ў мастацкай літаратуры. Вядомая „тэорыя“ „самабытнасьці“, „беларускай выключнасьці“ уключае ў сабе як сваю аснову „вучэньне“ аб бясклясавасьці беларускай нацыі.

Гэтае нацыяналістычнае ўяўленьне аб мінулай Беларусі і зьяўляецца адпраўным пунктам „Матчынага сына“. Тое-ж самае і ўяўленьне нацыяналістых аб рэальных, рухаючых гістарычнае розьніцы сілах. Гісторыю рухае не барацьба антаганістычных кляс, а абраныя калыханьні „у ліповай калысцы“ асобы, якія стаяць вышэй зямных спраў, вышэй „толпы“, несьвядомага натоўпу і г. д. і г. д. Такімі асобамі, якія рухаюць гістарычны працэс, зьяўляюцца асобы інтэлігенцыі—асабліва паэты, песьняры. Гэта катэгорыя, згодна вучэньню нацыянал-дэмакратаў і мастацкай прапагандзе

гэтага вучэньня праз паэтаў і песьняроў нацыянал-дэмакратызму, вяла беларускі народ па шляху вызваленьня, яна яму ўказвала гэты шлях, пад яе кіраўніцтвам народ змагаўся за сваю будучыню.

Няма патрэбы гаварыць, што гэтае суб'ектыўна ідэалістычнае вучэньне нічога агульнага ня мае з рэальна-гістарычным рухам, ня мае нічога агульнага з марксысцка-ленінскай тэорыяй, хаця зямныя карэньні яго відавочны. Гэтыя рэакцыйныя „тэорыі" нацыяналістаў ёсьць ня што іншае, як уяўленьне дробнага буржуа аб рэальным клясавым грамадзтве, дробнага буржуа, ня здольнага ў моц эканамічных умоў свайго існаваньня зразумець сутнасьць акаляючай рэчаіснасьці. Гэта зусім ня значыць, вядома, што гэтыя тэорыі несьвядома прапагандаваліся і прапагандуюцца ў зусім ясна-зразумелых контррэвалюцыйных мэтах нават і для тых, хто зьяўляецца іх носьбітам. Мы толькі гаворым аб зямных карэньнях гэтых тэорый. Рэакцыйнасьць і шкоднасьць іх відавочна.

Усё гэта зьяўляецца здабыткам і „Матчынага сына" і яго аўтара. Гэты нацыяналістычны, дробнабуржуазны, суб'ектыўна-ідэалістычны сьветапогляд і зьяўляецца адпраўным пунктам Сымона Баранавых.

Стварыўшы нудную замагільную ідылію з зязюляй, Баранавых разгортвае шлях матчынага сына.

„Гады ішлі. Гады міналіся, як тэлеграфныя слупы. Сын пакідаў свае гады на паўстанках, што бяз надпісу. Таму і не заўважыў, як стаў падрастаць. А даросламу сорамна было плакаць. Пачаў стала ганяць у поле статак. Пасе статак ды на жалейцы грае. Як зграе—выгаворвае жалейка словы:

Як пайду, пайду па загонах,
Па мазольным аратым сьляду,
Па лугох і па борах зялёных
І па сёлах убогіх пайду.
На жалейцы сваёй на гульлівай
Там я песьню пачну расьпяваць.
Прыслухаўся шчасьліў, нешчасьлівы
Думкі лепшы хачу вызываць.

Вершавыя радкі, вядома, належаць не Баранавых, а Янку Купале. Яны ўзяты з вершу „Як пайду я, пайду".

Верш Купалы адлюстроўвае нездавальненьне селяніна дарэвалюцыйным сваім станам, імкненьне яго да лепшага, да таго, каб ніва „радзіла спарней „дабрыню", каб „больш сянца" было, калі гэты верш адначасна выяўляе бездапаможнасьць паэты ў пошуках шляхоў да лепшага яго дробнабуржуазнае імкненьне стаць пад „шчасьлівымі і нешчасьлівымі" і ўсім „думкі лепшыя вызываць" Сымон Баранавых з пэўна акрэсьленай мэтаімкненасьцю вытрахае менавіта

гэта з-пад гістарычнага пылу і прагне перакрыць усю рэвалюцыйную барацьбу працоўных мас Беларусі пасьля 1905 году, перакрыць гэтымі ідэйкамі кіруючую арганізуючую, натхняючую для рэвалюцыйнай барацьбы беларускае сялянства ролю рабочае клясы, ролю бальшавізму.

Праз гэтыя-ж рамкі нацыянал-дэмакратызму адлюстроўвае Баранавых і барацьбу працоўных Беларусі, якія пад кіраўніцтвам рабочае клясы змагаліся супроць сваіх прыгняталынікаў. Праўдзівей было-б сказаць: не адлюстроўвае, а затушоўвае.

Па ўяўленьню і перадачы Баранавых у гісторыі Беларусі ня было ніякай барацьбы, а быў толькі плач і енк працоўных мас на ўсім працягу руху прадрэвалюцыйнага часу.

„Людзі прыходзяць слухаць, як грае матчын сын, і плакаць хочацца ад тэй музыкі".

Характэрнай асаблівасьцю дробна-буржуазнага ідэолёга зьяўляецца:—выдаваць сваю ўласную сутнасьць за ўсеагульную рэальна існуючую рэчаіснасьць, пераносіць свае ўласныя якасьці на ўсё і ўсіх.

Пэўная частка беларускай дробна-буржуазнай інтэлігенцыі ў дарэвалюцыйны час, замест барацьбы з капіталістычна-каленіяльным ладам—плакала, енчыла (другая частка прасмыкалася перад гэтым ладам), ня бачыла пэрспэктывы, выйсьця, бо ня бачыла рэальных сіл, якія змагаліся супроць гэтага ладу і гэтую сваю ярасьць імкнуліся выдаць за ярасьць усяго беларускага народу.

Ідэолёг дробнага буржуа Баранавых сёньня імкнецца гэты дробна-буржуазны хлам засалодзіць сваім халуйскім лірызмам і выдаць яго за рэальнае адлюстраваньне сапраўднасьці для таго, каб затушаваць ролю рабочае клясы, ролю бальшавізму ў гісторыі барацьбы працоўных мас Беларусі. Для чаго гэта патрэбна, будзе відна потым.

Далей. Сын расьце. Сын вырас вялікі—„угадзіла маці". Сын больш ужо не ганяе статак, а „пачаў сеяць палеткі. Шырокія доўгія палеткі... Сеяў і меркаваў: „пасею, пажну"...

„А зязюлька зноў кукуе... і не спазнаць: тая зязюлька ці ня тая...

Вельмі клапоціцца матчын сын, каб хоць усе палеткі былі засеяны. Ад рана-рана і да позьняга зьмярканьня—сеяў. Сее, сее, а паглядзіць, памяркуе і нестае нечага. Бо, калі жаць зьбіраўся, людзі чужыя прыходзілі ды жалі палеткі".

Давайце разьбярэмся, што да чаго. Перш за ўсё, што сеяў матчын сын. Наіўна было-б натуралізаваць „сяўбу". Гэта ні ў якім разе не ўвязваецца як з агульным стылем (сымбалем), так і з ідэямі „Матчынага сына".

Што сеяла беларуская нацыяналістычная інтэлігенцыя на палетках Беларусі? Яна сеяла ідэі буржуазнага нацыяналізму, буржуазнага адраджанізму. Вось гэта сеяў матчын сын Сымона Баранавых. Гэтае імкнецца сеяць і зараз эпігон нацыяналізму Сымон Баранавых. Толькі-ж хлусіць Баранавых, калі кажа, што чужыя людзі жалі тое, што сеяў матчын сын. Ён хлусіць так сама, як хлусілі яго папярэднікі з нацыянал-дэмакратаў, якія сьцьвярджалі, што быццам-бы ідэі дыктатуры пралетарыяту былі закладзены ў БСГ, што яшчэ і Багушэвіч зьяўляецца вястуном сацыяльнага і нацыянальнага вызваленьня Беларусі, што камуністычная партыя грубай сілай „маскоўскіх наезьнікаў“ і „камісараў заходняй вобласьці“ пажала пасеяныя матчыным сынам палеткі Беларусі. Ідэя вызваленьня як сацыяльнага, так і нацыянальнага, барацьба працоўных мас Беларусі пад кіраўніцтвам бальшавізму за сваё вызваленьне, нічога агульнага ня мае з буржуазным адраджанізмам. Больш таго, каб сапраўды забясьпечыць барацьбу беларускіх працоўных мас за сваё вызваленьне, каб забясьпечыць гэтае вызваленьне, каб замацаваць перамогу працоўных мас—абсалютнай умовай зьяўлялася і зараз зьяўляецца бязьлітасная барацьба супроць ідэі буржуазнага нацыяналізму, якія сеяліся і сеюцца яшчэ і сёньня „матчынымі сынамі“—буржуазнай і дробна-буржуазнай нацыяналістычнай інтэлігенцыяй.

Нам прыходзіцца згадзіцца з Сымонам Баранавых, „адзін застаўся сын“, але наша згода зусім па іншых матывах. У выніку бязьлітаснай барацьбы бальшавізму супроць буржуазнага нацыяналізму, барацьбы за інтэрнацыянальнае адзінства рабочае клясы, за братэрскі саюз працоўных мас Беларусі з рэвалюцыйным пралетарыятам усей былой Расіі, усяго сучаснага СССР—буржуазныя нацыяналісты засталіся ізаляванымі ад працоўных мас, засталіся адны. Таму яны ішлі на паклон і да Вільгельма, і да Пілсудзкага і да кожнага царскага генэрала, таму яны і зараз знаходзяцца ў саюзе з нацыянал-фашыстамі і інтэрвэнтамі.

Паклёпам буржуазнага нацыяналіста на працоўныя масы Беларусі зьяўляецца „работа“ Баранавых, калі ён абагульвае ў вобразе маткі ўсю Беларусь—у тым ліку і працоўных і гаворыць, што „матка, бацька“ бласлаўляюць сына „шукаць свае долі“.

„Матка, бацька сказалі сыну: „Мы цябе ўзгадавалі. Вырас ты... І сіла ў цябе ёсьць. Сам шукай сваёй долі.,. ты-ж не маленькі“.

Працоўныя масы выкінулі з свайго асяродзьдзя „сынкоў“, носьбітаў буржуазнага нацыяналізму. Яны нящчадна выкідаюць і будуць выкідаць і „ўнукаў“, якія спрабуюць адроджваць ідэйкі гэткіх сынкоў.

Далей:

„І сын пачаў шукаць долі... Апавядаў песьні.(так і напісана. Л.Б), байкі сваім унукам, гаварыў, што ёсьць на сьвеце лепшая доля.

— Адшукаць толькі от бы яе“.

„Здарылася так, што людзі не пайшлі за гадамі; гады пайшлі за людзямі. Апярэдзілі людзі свае гады... ды як загаманілі людзі—

Ой, многа, многа...

А пад гэты людзкі гоман унукі зразумелі, што гаварыў матчын сын у сваіх песьнях, байках... „Многазначным шматкроп‘ем і канчаецца пагулянка „матчынага сына“ па старонцы газэты „Літаратура і мастацтва“.

Гэтае шматкроп‘е і выдае з галавой буржуазную контррэвалюцыйную сутнасьць твору Баранавых. Зусім-жа адкрыта Баранавых прапагандуе контррэвалюцыйныя ідэі нацыянал-дэмакратызму і símat многазначным шматкроп‘ем падкрэсьлівае, што „ўнукі“—нацыянал-дэмакратычнае атрэп‘е, „маладая рунь“ яго,—ідэолёгі кулацкага контррэвалюцыйнага сабатажу, кулацкай контррэвалюцыі—„зразумелі, што гаварыў матчын сын“, які шлях ён ім паказваў, куды ён іх зваў. Зусім-жа зразумела, што шматкроп‘е гаворыць пра неабходнасьць дзейнічаць, раз зразумеў, што гаварыў „матчын сын“. Зробім некаторыя ітогі.

Твор Баранавых „Матчын сын“ зьяўляецца арганічным, неадлучным элемэнтам у сыстэме (іменна ў сыстэме) нацыянал-дэмакратычных, рэваншыцкіх вылазак на культурным вучастку за апошнія часы. Асноўная ідэя гэтага твору ідзе па лініі рэабілітацыі, падфарбаваньня буржуазнага, контррэвалюцыйнага, разьбітага, але не дабітага нашай партыяй—беларускага нацыянал-дэмакратызму. Для гэтых мэт Баранавых, як і Сідарэнка, адраджае і прасоўвае праз наш друк вядомыя „тэорыі“ нацыянал-дэмакратаў аб бясклясавасьці беларускай нацыі, аб мэсыянскай ролі інтэлігенцыі, аб вястунах сацыяльнага і нацыянальнага вызваленьня—буржуазных нацыяналістых, аб суцэльным непарыўным працэсе адраджэньня. Усё гэта афарбоўваецца, засалоджваецца прытарным да ташнаты халуйскім лірызмам.

Усё гэта патрэбна, каб шляхам уродлівага адлюстраваньня рэчаіснасьці затушаваць ролю рабочае клясы ў барацьбе працоўных мас Беларусі за свае вызваленьне, каб затушаваць ролю бальшавізму ў гэтым вызваленьні, ролю нашай бальшавіцкай партыі ў справе пабудовы нацыянальнай па форме і сацыялістычнай зьместам беларускай культуры.

Выступленьне Баранавых і выступленьне Сідарэнкі-Пеначкіна, Нікановіча і інш. ёсьць ідэалёгічнае афармленьне

кулацкага сабатажу, кулацкай контррэвалюцыі на сучасным этапе, ёсьць адлюстраваньне новых форм клясавай маскіроўкі клясавага ворага.

Ці зьяўляецца гэтая вылазка Баранавых выпадковасьцю, ці зьяўляецца яна памылкай, як гэта лічаць некаторыя таварышы? Не, гэтая клясава-варожая вылазка Баранавых не зьяўляецца выпадковасьцю, яна зьяўляецца законамерным,—ва ўмовах клясавай барацьбы на даным этапе,—разьвіцьцём кулацкай тэндэнцыі уласьцівай яго мастацкай творчасьці. „Матчын сын" зьяўляецца апафэозам гэтай кулацкай тэндэнцыі, абумоўленым клясавай барацьбой, прыёмамі і мэтадамі барацьбы клясавага ворага супроць сацыялістычнага будаўніцтва на даным этапе.

А ўсё гэта вызначае і функцыянальнае значэньне „Матчынага сына". „Матчын сын"—сваяасаблівая, спэцыфічная зброя ў руках клясавага ворага супроць сацыялістычнага будаўніцтва, супроць палітыкі нашай партыі. Вось чаму „Матчын сын" павінен быць разьбіты да шчэнту, павінны быць зьнішчаны яго атрутныя бацылы.

*21 лістапада 1923 г.*

---

**ХВ. БУЖАН „ЛЯСЬНІКІ" (аповесьць) Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі. ЛІМ. Менск, 1932 г. Цана 1 руб. 90 кап., пераплёт 30 кап.**

Аповесьць „Лясьнікі"—першы твор Хв. Бужана.

Ідэя аповесьці—паказаць барацьбу бядняцка-серадняцкіх мас сялянства за новыя, сацыялістычныя мэтады працы на лясной гаспадарцы ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы.

Апрача гэтай, галоўнай задачы, аповесьць разьвязвае праблему новых кадраў кваліфікаваных працаўнікоў лясной гаспадаркі.

Лясьнік Арцём—адзін з „спэцаў", які прыстасоўваецца да новых умоў і трымаецца на пасадзе дзякуючы гнілому кіраўніцтву. Арцём паказаны як спэц, як вялікі знаўца сваёй справы. Але-ж якія яго адносіны да нашай рэчаіснасьці?

— Любы сынку,—пачаў Арцём злым, але роўным голасам,—у наш час толькі і ведаць трэба: „ня сьпі!" прыглядзіся да жыцьця, і табе яскрава вызначыцца ашуканскі лад. З людзкога жыцьця...ты разумны?... з людзкога жыцьця робяць і сам чорт не разумее, што...Труцяць людзей, як рыбу кукальванам, калгасамі,..а хто ў іх ідзе, хто? Гультаі, а на цябе-э... „Арцём кулак ...лясьнікам зямлі ня трэба", Мелка ты, сынку, плаваеш... зусім мелка... (стар. 9).

Калісьці ў „добрыя, старыя часы" добра жыў Арцём.

Жыў ён у пашане і ў славе. У яго бывалі лясьнічыя, рэвізоры розныя, станавы прыстаў і земскія начальнікі, нават сам губэрнатар прыяжджаў.

У афіцэрскім пакойчыку лясьнічоўкі, дзе астанаўлівалася „вялікае" начальства, і чыста і багата. Тут і мяккая мэбля, і стаячае люстра ў бліскучай пазалочанай асадцы, і малюнкі розных гор, лясоў, і ласідыя рогі, і чучалы розных птушак ны зьвяркоў, а пры ўваходзе вялізарнейшы воўк з бліскучымі, падробленымі пад сапраўдныя, вачыма. Пакойчык—вокнамі ў садок, абсаджаны ліпамі, клянамі, каштанамі. У садзіку круглы, карцёжны столік, а навокал яго—кватнічок. Тут адпачывалі паны, паляўнічыя, адводзілі дух паны і паненкі дачніцы.

...І жыў Арцём.

Гаспадарка моцная. Раней двух меў парабкоў і пастуха. Вось і ільнулі да яго багацейшыя ды шляхэтныя людзі. У старыя часы лічылася гонарам для селяніна назваць Арцёма кумам, яго, знаёмага з вялікім начальствам. Калі што—можа і ў бядзе дапамагчы—думалі і спадзяваліся... (стар. 22).

Арцёму супроцьстаўляецца лясьнік Сымон. Гэта яшчэ малады лясьнік, які ня мае столькі практыкі, як Арцём, але ён яе, гэтую практыку, набывае ў працэсе працы і ўвесь час змагаецца з варожымі элемэнтамі, якія ўсякімі мэтадамі імкнуцца перашкодзіць у працы лесарубам.

Аповесьць разгортвае малюнак барацьбы паміж бядняцка-серадняцкай часткай сялянства, з аднаго боку, і кулацкімі элемэнтамі (Ціт, Сідар), з другога, за новыя мэтады працы, за сумленныя адносіны да гэтай працы, за разгортваньне сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва.

Калі асноўная частка лесарубаў пачала працаваць па брыгадах, намеціла пераход да зьдзельшчыны, дык некаторыя (Ціт, Сідар, Трахім, Антон) ня вышлі на працу і імкнуліся перацягнуць на свой бок тых лесарубаў, якія хісталіся, ня ведаючы, да каго далучыцца. У працэсе гэтай барацьбы яскрава выступае перад намі бюракратычны апарат ляснога кіраўніцтва, які ў гэты адказьнейшы момант займае пазыцыю „нэйтралітэту", займаецца п'янкамі, пагулянкамі, пытаньнем свайго добрабыту.

Вялікім напружаньнем з боку лепшых лесарубаў-актывістаў і пры дапамозе партыйна-камсамольскай арганізацыі, прарывы ў працы былі зьліквідаваны, частка бюракратаў была звольнена з працы, адзначыўся вялікі пералом у сьвядомасьці некаторых лясьнікоў (Лазар, Панкрат і інш), якія рашуча далучыліся да асноўнай масы лесарубаў. Праца на лясной гаспадарцы пасоўваецца наперад. Такі сюжэт аповесьці.

Як-жа аўтар справіўся з сваей задачай? Тут нельга сказаць, што справа цалкам абстаіць добра. Аўтар, па-мойму, даў такое вялікае зграмаджэньне паасобных сцэн, абразкоў, дзей, столькі дзеючых асоб, што ўвага чытача распыляецца ў розныя бакі і ня можа сканцэнтравацца на галоўнай ніці аповесьці. Некаторыя з гэтых паасобных сцэнак падзелены надзвычай добра („Няпарныя напарнікі", Лазар, „дэлегаты рапартуюць". Асабліва добра паказан пералом у сьвядомасьці лесаруба Лазара. Але побач з гэтымі сцэнкамі ёсьць такія, якія зьяўляюцца ў аповесьці зусім лішнімі, якія не дапамагаюць разьвіцьцю сюжэту, а толькі адцягваюць увагу чытача ад галоўнага ў аповесьці. Ёсьць шмат павярхоўнасьці і схэматызму, няглыбокага паказу рэчаіснасьці.

Аўтар вельмі часта падыходзіць да жыцьцёвых зьяў эмпірычна, заблытваецца ў іх, абмалёўвае ўсё, што пападзе пад руку, ня можа выбраць, па-мастацку паказаць што-небудзь адно вядучае, галоўнае.

Схэматычна і таму слаба пададзены вобразы кулакоў Ціта, Сідара. Можна было-б лепш паказаць партыйна-камсамольскую арганізацыю, а некаторыя вобразы дзейных асоб (а іх у аўтара залішне многа), калі канчаеш чытаць аповесьць, зусім вылятаюць з памяці.

Ня гледзячы на ўсе гэтыя недахопы, аўтар стаіць на правільных клясавых пазыцыях, добра ведае жыцьцё і побыт сучаснай вёскі і правільна разумее расстаноўку клясавых сіл.

Нельга не адзначыць сакавітай мовы аўтара, багатай народнымі зваротамі.

*С. Левін.*

„НА СТРАЖЕ"—нарысы аповесьці, апавяданьні, успаміны. стар. 135, цана 3 р. 75 кап. Выданьне Зах. ДзВ 1933. Смаленск.

Самым вялікім творам у зборніку зьяўляецца аповесьць Г. Мацьвееўскага „Варашылаўскі стрэл". Аповесьць Мацьвееўскага, апавяданьні Б. Барысава, Б. Вайнтраўба, М. Бабіцкага прысьвячаны сёнешняму дню баявой вучобы Чырвонай арміі.

Тав. Аранштам у гутарцы з беларускімі пісьменьнікамі падкрэсьліў патрабаваньне Чырвонай арміі да са-

вецкіх пісьменьнікаў. Байцы, камандзіры прад'яўляюць вялікае запатрабаваньне да кнігі. І, у першую чаргу, яны патрабуюць, яны чакаюць кнігу аб сабе, аб баявой вучобе, аб ударніках, яны чакаюць яркага асьвятленьня тых шляхоў, якімі зьвязана армія з цэхам, з калгасам.

У асноўным удзельнікі зборніку „На страже",—чырвонаармейскія пісьменьнікі, журналісты, вайскоры. Трэба сказаць, што з задачай, пастаўленай тав. Аранштамам, удзельнікі зборніка справіліся ня дрэнна.

Сёньня армію сур'ёзна займае стралковая вучоба, трапны стрэл, асваеньне баявой тэхнікі. Армія вядзе паглыбленую работу па палітычнаму перавыхаваньню байца, яна загартоўвае новыя бальшавіцкія кадры грамадзкіх працаўнікоў.

Ці знайшлі гэтыя пытаньні сваё асьвятленьне ў зборніку, выдадзеным да пятнаццацігодзьдзя РСЧА абароннай камісіяй? Так! У многім знайшлі.

Аповесьць Мацьвееўскага „Варашылаўскі стрэл"—гэта яркае апавяданьне аб жывых людзях, аб камандзіры Лідзіным, аб байцу Хакіраву, якія ўпарта дабіваюцца трапнага стрэлу, які так патрэбен Чырвонай арміі, узброенай арміі пралетарыяту.

Гэта тэма ня новая ў абароннай літаратуры, але ўсё ж глыбока яна яшчэ не пастаўлена. Вядома, і Мацьвееўскі яе ня вычэрпвае, але ўяго пытаньне пастаўлена па-новаму. Ад пісьменьніка, які працуе над абароннай тэмай, больш, чым ад каго іншага, патрабуецца сур'ёзнае веданьне пытаньня.

У мастацкіх формах сьвежым словам, яркім вобразам Мацьвееўскі скарыстоўвае ў сваёй рабоце вопыт спэцыяльнай стралковай канфэрэнцыі вопыт лепшых стралкоў.

Ізям Хакіраў дрэнна страляе. Ізям хоча добра страляць, Ізям хварэе за кожны стрэл, але стралковая вучоба ў яго не ладзіцца. Ізям ганьбіць свой разьдзел.

Далёка ня ўсім аўтарам удаецца паказ камандзіра. Паказ адважнага камандзіра, які ўмее спалучыць асабісты прыклад з настойлівасьцю камандзіра, напісанага ня сухімі лініямі, а жывога, ініцыятыўнага.

Лідзін Мацьвееўскага, які паставіў перад сабой задачу ліквідаваць стралковую недакладнасьць байца Хакірава, паказаны добра, яскрава. Мацьвееўскі паказаў Лідзіна на фоне яго асабістага жыцьця, які цесна зьвязаў асабістае з грамадзкім, дзе яго асабістыя інтарэсы падпарадкаваны агульным задачам камандзіра Чырвонай арміі.

Да аповесьці Мацьвееўскага, асноўнага твору зборніка, мы павінны прад'явіць сур'ёзнае патрабаваньне. Відаць, што твор напісаны насьпех, шмат якія мясьціны патрабуюць апрацоўкі. Зрывы ідуць за лік паніжэньня якасьці мовы, мясьцінамі—залішняй сухасьці. Мацьвееўскі некалькі разоў паказвае работу на стрэльбішчы і гэты паказ вельмі аднастайны.

„Варашылаўскі стрэл"—патрэбная аповесьць, але гэта не выключае неабходнасьці далейшай работы па адшліфоўцы яе. Гэта работа зробіць аповесьць больш вартай.

Астатнія творы зборніку—гэта кароткія малюнкі, нарысы, успаміны. З астатніх твораў найбольшую цікавасьць уяўляе сабой нарыс Барысава „Аб лётніку Капылову і яго экіпажу" (запіскі вайскора). Работа ў паветры, дні баявой вучобы Чырвонай арміі, напружаная барацьба за асваеньне тэхнікі, якую атрымала армія ў выніку пераможнага завяршэньня першай пяцігодкі,—вось тэма нарысу.

Нарыс Барысава паказвае на глыбокае веданьне аўтарам жыцьця Чырвонай авіяцыі. Гэта самая адказ-

ная тэма. Зусім правільна адзначае Барысаў, што да гэтага часу апавяданьні аб авіяцыі абавязкова пачыналіся „По голубому небу мощныя крылья"... Замест веданьня справы—павярхоўнасьць. Гэтым хварэў не адзін аўтар твору з жыцьця авіяцыі. Такі заставалася гэтая тэма недаапрацованай. Які Мацьвееўскі, —Барысаў ня вычэрпвае пытаньня, але дае шмат новага і каштоўнага.

Вялікім недахопам зборніка зьяўляецца адсутнасьць разгорнутага, шырокага паказу палітвучобы ў Чырвонай арміі. Нельга паказваць баявую вучобу ў разрыве ад палітычнай. У зборніку недастаткова падкрэсьлена гэта важнейшая галіна баявога жыцьця Чырвонай арміі. І ў гэтым вялікі недахоп.

Тэхнічна зборнік выдадзены добра, афармленьне, фатаграфіі і малюнкі ў тэксьце зроблены старанна і цікава.

*Я. САДАВІЦКІ*

## Кніга пра энтузыястаў

Кніга Цішкі Гартнага „Наступ на горны" зьяўляецца вынікам удзелу пісьменьніка ў вытворчых штурмах на заводзе „Камунар" (Менск) і прысьвячана канкрэтнаму паказу ўдарнікаў сацыялістычнай будоўлі.

Перад намі праходзяць вобразы рабочых, людзей, якія жывуць заводам, якія ўсе сваё сілы і магчымасьці аддаюць на агульную справу, пабудове сацыялізму, і якія шмат дапамаглі ў сэнсе ператварэньня былой рамесьніцкай майстэрні—у магутны мэталюргічны завод „Камунар".

Біаграфія гэтых людзей ёсьць якбы паменшаная біаграфія ўсяго заводу.

Вось М. Палякоў—малады хлапец ад простага рабочага „дырэктара станка"—як кажуць,—прайшоў шлях, які магчымы толькі ва ўмовах Савецкага саюзу,—да намесьніка дырэктара.

Вось Ліпніцкі—малапісьменны рабочы—каваль. Але моц і сіла бальшавіка, дапамога партарганізацыі, вывучэньне ўсіх складаных працэсаў працы, далі яму магчымасьць стаць майстрам кавальнага цэху і вырваць цэх з прарыву (раней 45 проц. пляну) з значным перавыкананьнем вытворчага заданьня.

Вось Лабуць Уладзімер—майстар такарнага цэху.—У час грамадзянскай вайны—ён машыніст броняцягніка—ён часта ўспамінае баі за Перакоп, а сёньня ён ударна працуе на фронце гаспадарчага будаўніцтва.

За тав. Лабуцям—быў вялікі грэх, які недапушчальны для партыйца. За няэтычныя паводзіны (п'янства) ён быў выключаны з шэрагаў партыі.

На кантрольнай камісіі ён абяцаў ніколі больш ня піць і зараз ён у ліку першых ударнікаў заводу.

За ім сьмела ідзе маладняк—вучні фабрычна-заводзкай школы.

Рэдактар шматтыражкі заводу—Рая Шыфрына—прыйшла на гэту адказную працу ад станка.

Вопыт грамадзкай працы навучыў яе, як трэба змагацца за пяршынства. Шматтыражка заводу адыгрывае ролю сапраўднага арганізатара вытворчасьці і кіраўніка масы ўдарнікаў заводу.

На заводзе прарыў. Ён мае пагрозу стаць зацяжным.

Газэта мабілізуе ўсіх—пачынаючы з дырэктара да піянэраў—дзяцей рабочых. Яна вядзе барацьбу за разгортваньне сацспаборніцтва, мабілізацыю ўнутраных рэсурсаў, збор лому, барацьбу з бракам і прагуламі, за сталы вучот працы, умелую арганізацыю і расстаноўку рабочай

…ы, апэратыўнае кіраўніцтва …ікутніка—і завод выходзіць з пра…ву.

…мёны лепшых ударнікаў: Казь…ка, Гальперына, Шылькро…, Сьлёзбэрга, Шульніна, …аўрусэвіча, Лёвіна, Эрэн…оса, Санкоўскага, вядомы … толькі асноўнай масе рабочых …воду. Шмат хто з іх вылучан на …казную працу па-за заводам.

Ц. Гартны паказаў нам рабочых …арнікаў без усялякай лакіроўкі,—…ы прадстаюць перад намі як жы…я людзі з усімі недахопамі, якія …асьцівы чалавеку.

Асноўная якасьць кнігі „Наступ на …рны" у тым, што аўтар паказаў …м рост гэтых людзей—паказаў як …растае сьвядомасьць рабочага да …азуменьня таго, што справа, якую …конвае кожны рабочы непасрэдна … свайго станка, ёсьць агульная …рава ўсіх працоўных Савецкага …юзу.

Гэта палажэньне праходзіць праз …весь зьмест кнігі і пра гэта кажа аўтар і ў сваіх вершах, якія складаюць частку кнігі.

„Ударнікі, чуйце:
У сьвісту гудка,
У разьбегу станка,
У полымі
Зыркага горна—
Глядзіць на нас
Вокам дазорным—
Адозва Цэка.
Узмоцнена куйце!"

(верш „Ударнікам")

Матэрыял кнігі ілюстраваны фотаздымкамі лепшых ударнікаў.

Кніга не пазбаўлена шэрагу недахопаў. Як на галоўны недахоп кнігі трэба паказаць, што аўтар амаль зусім не паказвае нам інжынэрнатэхнічных працаўнікоў заводу, і складаецца такое ўражаньне, што на заводзе адсутнічаюць спэцыялісты.

Кніга ня згубіла-б сваёй каштоўнасьці, калі-б аўтар паказаў малюнак рабочага быту—жыцьцё рабочых па-за заводам, тым больш, што тут-бы аўтар змог адшукаць шмат цікавых і новых матар'ялаў.

*Эд. Горскі*

**А. ПАПІШ. „УЗГАДАВАНЫ РЭВАЛЮЦЫЯЙ"—Нарысы. Выданьне …ітгуртка заводу „Чырвоны мэталіст", Віцебск, 1932 г.**

Заклік рабочых ударнікаў у літа…аратуру дапамог выявіць шэраг …дольных таварышоў, якія атабража…юць сваімі творамі сапраўднае жыцьцё …аго асяродзьдзя, з якім яны зьніто…аны сваёй работай.

„Узгадаваны рэвалюцыяй" …. Папіша—гэта спроба рабочага …асказаць у мастацкай форме пра …жыцьцё свайго заводу, пра тое, што …н наглядаў у творчым жыцьці свай…го цэху, пра тое, удзельнікам чаго …н сам зьяўляецца.

Прачытаўшы гэты зборнік ўзьні…кае некалькі думак, якімі варта па…дзяліцца ў голас. Гэта жаданьне ў …мяне і таму, што справы, пра якія піша Папіш, мне вельмі знаёмы па маёй былой прафэсіі мэталіста.

У нарысе „Дай раскроем" гаворыцца пра тое, як брыгада фармоўнікаў, пад кіраўніцтвам тав. Бондарава дабілася выкананьня прамфінпляну, зьнізіла процант браку, дае эканомію на матэрыялах і г. д. У гэтым нарысе гаворыцца пра некалькі чалавек, але паказ гэты зроблены так, што няма аніякае магчымасьці ўявіць сабе, што-ж гэта за людзі, што ўзьнялі прадукцыйнасьць працы і дабіліся выкананьня прамфінпляну

Гэта атрымалася таму, што няма вобразаў абрысоўкі асобных людзей-а ёсьць прозьвішчы, па якіх трэба,

адрозьніць аднаго чалавека ад другога. Гэтага вельмі мала. Трэба было паказаць аднаго-двух чалавек, надаўшы ім тыя рысы і штрыхі, якія ўласьцівы толькі ім і якія розьняць іх ад іншых людзей. Паказаць гэтых людзей у іх побыце. Нарэшце паказаць і адмоўныя бакі іх і тую складанейшую барацьбу чалавека, якую ён вядзе сам з сабой, каб перавыхаваць сябе, стаць на шлях новага сьветапогляду, новага разуменьня таго, што зараз у нашай краіне адбываецца.

Паказваючы ўдарнікаў, ніяк нельга абмінуць тае вялізарнейшае ролі арганізатарскае і кіраўнічае ролі, якую адыгрывае партыйная арганізацыя ў масавым ударніцкім руху.

У нарысе ня ўскрыты, не паказаны шляхі, якімі брыгада прышла да добрых вынікаў у сваёй рабоце. Аб гэтым ёсьць вельмі сьціплыя словы брыгадзіра:

— „Вось картка Шавурава,—пачынае сваё тлумачэньне брыгадзір. Рабочы сярэдні—трэцяга разраду—фармуе ён задніе сьценкі карнярэзкі і дае іх штодзённа дваццаць сем штук. Паглядзеце гэту лічбу—нуль дроб нуль, гэта значыць; нуль браку па яго віне і нуль браку па віне вытворчасьці“ і г. д.

Вось і ўсё. А як гэтага дасягнуў тав. Шавураў—невядома. Чаму? А таму што не паказана, як ён працуе, каб у рабоце браку ня было.

У гэтым-жа нарысе ёсьць гутаркі пра тое, што яшчэ калі-ні-калі бываюць прагулы, ёсьць непаладкі, як і ва ўсякай другой рабоце. Але гэта толькі гаворка, бо не паказаны тыя меры выхаваўчага парадку, якімі брыгада перавыхоўвае прагульшчыка, як яна змагаецца за узьняцьце працоўнай дысцыпліны, за ліквідацыю вытворчых непаладак.

У нарысе „У з г а д а в а н ы р э в а л ю ц ы я й“ — біяграфічным нарысе пра Восіпа Фаміча Г о р с к а г а— ударніка—героя першай пяцігодкі— ёсьць толькі асобныя штрыхі, якія не паказваюць тыпу гэтага новага чалавека — чалавека, які паспытаў „асалоды“ работы ў прыватнікаў, пабыў у царскай арміі, на франтох імпэрыялістычнае вайны, у палоне і г. д.

Жыцьцё таварыша Горскага цікавае, шматграннае. Кожнае асяродзьдзе, у якім Горскі знаходзіўся, накладала свае адбіткі на характар, на псыхіку. А вось гэтае шматграннасьці, раскрыцьця вобразу героя першай пяцігодкі—новага чалавека, створанага першай пяцігодкай,—няма. Не паказаны *той жыцьцёвы шлях, якім* Горскі ішоў да таго, каб стаць героем першай пяцігодкі.

Сацыялістычнае будаўніцтва праводзіцца ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы, у якой загартоўваецца, выкоўваецца, вырастае новы чалавек, што мае за сабой яшчэ цяжар старога. А цяжар гэты цісьне на плечы, прыдушае думкі, і шлях старога, у якім быў чалавек раней— складаны і цяжкі шлях.

Тое-ж самае трэба сказаць і аб нарысах „Савецкі Штоль“ і „Электразваршчыкі“.

Пра важнасьць выданьня гэтага зборніку казаць ня прыходзіцца. Выданьне гэтай кніжкі мае палітычную важнасьць, паколькі заклік рабочых ударнікаў у літаратуру яскрава паказвае на рэальныя вынікі гэтага закліку, на тое, што рабочыя праз мастацкі твор паказваюць будні—радасьць працы—сапраўднае жыцьцё прадпрыемства з якім яны арганічна зьвязаны.

На жаль, гэты зборнік распаўсюджаны толькі сярод рабочых заводу „Чырвоны мэталіст“. А ён заслугоўвае таго, каб яго прычытала як мага больш рабочых. *С. Нортман*

# ХРОНІКА

Першы ўсесаюзны зьезд савецкіх пісьменьнікау склікаецца 20 чэрвеня 1933 г. у Маскве. Зацьверджаны наступны парадак дню:

а) уступнае слова пры адкрыцьці зьезду тав. А. М. Горкага;

б) справаздача аргкамітэту Саюзу савецкіх пісьменьнікаў СССР (дакладчык тав. Гронскі);

в) задачы савецкай драматургіі (уступнае слова тав. Кірпоціна, садакладчыкі аб паасобных плынях драматургіі Кіршон, А. Талстой, Н. Пагодзін).

г) статут саюзу савецкіх пісьменьнікаў (дакладчык Субоцкі Л. М.);

д) выбары праўленьня саюзу савецкіх пісьменьнікаў СССР і рэвізійнай камісіі.

Па пастанове аб'яднанага паседжаньня прэзыдыуму Аргкамітэту ССП СССР і Ўсераскамдраму апошні рэарганізуецца ў аўтаномную сэкцыю пры Аргкамітэце ССП з захаваньнем фінансава-агентурнага апарату Ўсеараскамдраму. Гэта рэарганізацыя дапаможна драматургіі яшчэ з большым посьпехам рухацца наперад і ўзьнімацца на ўзровень новых задач сацыялістычнага будаўніцтва.

У адзнаку пастановы ЦК УсеКП(б) пра перабудову літаратурна-мастацкіх арганізацый 23 красавіка ў вялікай залі БДУ адбыўся агульна-гарадзкі літаратурны вечар. З дакладам выступіў тав. Браништэйн. З чыткаю сваіх твораў выступалі: Янка Купала, Якуб Колас, Хведаровіч, Рамаsucceededўская, Аксельрод, Глебка, Харык і Александровіч.

26 красавіка ў клюбе мэталістых адбыўся літаратурны вечар для актыву ЛКСМБ Менску, прысьвячаны пастанове ЦК. З дакладам выступіў М. Клімовіч, з садакладам аб маладзёжнай літаратуры П. Галавач. З чыткаю сваіх твораў выступалі Якуб Колас, Янка Купала, Александровіч, Нортман, Мікуліч, Гурэвіч, Агняцьвет, Глебка.

Для абслугоўваньня часьцей Чырвонай арміі ў сакавіку выяжджала брыгада ў Бабруйск і Магілеў: Бэндэ Глебка, Хведаровіч, Броўка. Разам з пісьменьнікамі выяжджаў інтэрнацыянальны хор пад кіраўніцтвам Палонскага.

Для папулярізацыі пастаноў першага пашыранага пленуму ССПБ у Віцебск выяжджаў т. А. Александровіч.

31 сакавіка ў Віцебскім дзяржтэатры быў наладжаны агульна-гарадзкі літаратурны вечар з яго дакладам аб клясавай барацьбе у сучаснай беларускай літаратуры.

Масавыя літаратурныя вечары былі наладжаны ў Доме Чырвонай авіяцыі, у рабочых клюбах, Доме Чырвонай арміі і інш. Апроч таго, т. Александровіч выступаў у Вэтінстытуце, Пэдтэхнікуме.

Тав. Александровіч знаёміўся са становішчам літгурткоў на заводах, праводзіў гутаркі з літгурткоўцамі, з актывам рабкораў на заводзе „Чырвоны мэталіст“ і інш.

⊛ Усебеларускі зьезд калгасьнікаў-ударнікаў, што адбываўся ў Менску 21—25 сакавіка вітала дэлегацыя пісьменьнікаў: Янка Купала, Якуб Колас, Цішка Гартны, Ізі Харык, Платон Галавач і Андрэй Александровіч.

⊛ Якуб Колас напісаў новую аповесьць „Дрыгва“. Аповесьць будзе друкавацца ў „Закліку“. Здаў у друк том III збору твораў (паэзія), томы VI і VII (апавяданьні).

⊛ Янка Купала здаў у друк кнігу вершаў пад назвай „Выбраныя творы“.

⊛ Міхась Лынькоў здаў у друк кнігі: „Апошні зьверыядавец“, 3-яе выданьне, „Андрэй Лятун“ і „Саўка агітірнік“.

⊛ Платон Галавач здаў у друк аповесьць „Спалох на загонах“, 3-яе выданьне.

⊛ Андрэй Александровіч напісаў паэму „Векапомная восень“. Паэма будзе друкавацца ў „Закліку“.

ДВБ спэцыяльным выданьнем для малапісьменных друкуе зборнік яго вершаў пад назвай „Партыя кліча“.

⊛ С. Нортман здаў ДВБ кнігу нарысаў пад назвай „Гоман карпусоў“.

⊛ Ільля Гурскі здаў у друк п‘есу „На крэсах усходніх“.

Юрка Віцьбіч здаў кнігу „Пра жыцьцё прапахлае жыцьцём“.

⊛ Васіль Сташэўскі здаў у друк кнігі: „Амэрыка“—п‘еса, „На варце“—п‘еса, „Чорная ноч“—апавяданьні.

⊛ 15 красавіка ў памяшканьні Белдзяржтэатру адбылося адчыненьне першай усебеларускай нарады, скліканай Аргкамітэтам ССПБ па пытаньнях драматургіі.

Нараду адчыніў старшыня Аргкамітэту ССПБ М. Клімковіч. Даклад пра сучаснае становішча і чарговыя задачы беларускай савецкай драматургіі зрабіў тав. Вольскі.

На ранішнім паседжаньні 16 красавіка тав. Шамшур зрабіў даклад пра драматургію і самадзейнае мастацтва. У спрэчках па дакладах выступалі т.т. Галубок, праф. Замоцін, Рамановіч, латыскі пісьменьнік Лайцэн, Вайншток, Гурскі, Усс, Кобец, Рафальскі, Міровіч, Вольны, Кучар, Літвінаў, Дунец, украінскі драматург Дасьвітны, Модэль, Кацовіч, Ільлінскі, Галаўчынер і інш.

Нарада скончыла работу 19 красавіка.

⊛ Менск наведала брыгада латыскіх рэвалюцыйных пісьменьнікаў: Лінард Лайцэн, Эміль Фросс, Прэднэкс, Кікутс.

14 красавіка ў Доме пісьменьніка адбыўся літаратурны вечар—сустрэча пісьменьніцкай грамадзкасьці г. Менску с латыскімі пісьменьнікамі. Вечар скончыўся чыткаю сваіх твораў як латыскімі, так і беларускімі пісьменьнікамі.

⊛ Кузьма Чорны вызначаны загадчыкам габінэту ўдарніка пры Аргкамітэце ССП БССР.

Для наладжваньня сыстэматычнай кансультацыі пачынаючых пісьменьнікаў, Аргкамітэт вызначыў габінэту ўдарніка з 3 тыс. руб.

„Литературная газета“ (Масква) у № 13 (241) дала старонку „Літаратурная Беларусь“, у якой зьмешчаны наступныя матар‘ялы: „Літаратура савецкай Беларусі і запатрабаваньні эпохі“—з прамовы сакратара ЦК КП(б)Б тав. Жабро ўскага на першым пашыраным пленуме Аргкамітэту

ССП БССР, артыкул А. Кучара пра творчасьць Янкі Купалы, пераклады вершаў Андрэя Александровіча, Якуба Коласа, Крапівы і ўрывак з п'есы К. Чорнага „Бацькаўшчына".

⦻ У другой кнізе „Писатели СССР Великому октябрю" зьмешчаны ўрыўкі з „Нараджэньне чалавека" Александровіча ў перакладзе О. Колычова, урыўкі з „Спалох на загонах" П. Галавача ў перакладзе К. Якаўчыка і ўрыўкі з паэмы „Торф" І. Харыка ў перакладзе Л. Пенькоўскага.

⦻ За I квартал 1933 г. інстытут ЛІМ БАН на навуковых паседжаньнях заслухаў і абмеркаваў наступныя даклады: „Барацьба ў літаратуры і мастацтве на два фронты" (тав. Вольскі і праф. Піотуховіч). Аб пастаноўцы „Віндзорскія свавольніцы" (Шэкспіра) у Яўрэйскім дзяржаўным тэатры БССР (тав. Вольскі), „Маркс і задачы савецкага мастацтва" (даклад прачытаны тав. Уссам у сувязі з 50-годзьдзем са дню сьмерці Карла Маркса). Аб творчасьці Кузьмы Чорнага (праф. Піотуховіч).

⦻ Галоўнае Кіраўніцтва кіно-фотапрамысловасьці пры СНК СССР пастанавіла ў бягучым годзе скончыць будаўніцтва двух новых гукавых кіно-тэатраў у БССР, пераабсталяваць і зрабіць гукавымі пяць існуючых нямых кіно, восем рабочых клюбаў, тры вясковыя кіно-стацыянаркі. На гэту мэту асыгнуецца звыш мільёну рублёў.

Разгортваецца работа па будаўніцтву новага гукавога кіно-тэатру ў Менску на 1000 месц, на будаўніцтва якога асыгноўваецца ў бягучым годзе шэсьцьсот тысяч рублёў.

⦻ У Менску арганізуецца усебеларуская мастацкая галерэя. Для галерэі будуць выкарыстаны калекцыі малярства і скульптуры былога мастацкага аддзелу Дзяржаўнага сацыяльна-гістарычнага музэю і інш экспанаты.

# АБ МАІХ ПАМЫЛКАХ

## ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ.

Шаноўны тав. рэдактар!

Дазвольце праз вашу газэту давесьці да ведама савецкай грамадзкасьці наступнае:

У часопісі „Заклік" № 2 зьмешчан мой артыкул „Праца над словам". Газэты „Зьвязда", „Чырвоная Зьмена", „Рабочий", а таксама рад таварышоў у прыватных гутарках зьвярнулі маю ўвагу на памылкі, дапушчаныя ў гэтым артыкуле. Уважліва прааналізаваўшы і прадумаўшы яго, я павінен адзначыць, што артыкул сапраўды мае некаторыя паасобныя памылкі.

Гэтымі памылкамі зьяўляюцца:

1. Ня клясавы, а фармалістычны падыход да мовы, азначэньне яе толькі, як сродку сувязі ў чалавечым грамадзтве, а не як сродку клясавага змаганьня і панаваньня.

2. Рэкамандаваньне для пашырэньня моўных запасаў зборнікаў народнай творчасьці, краёвых і літаратурных слоўнікаў без агаворкі пра строгае крытычнае выкарыстаньне гэтых матэрыялаў, паколькі значная частка з іх мае ў сабе шмат непатрэбнага і шкоднага, нацыянал-дэмакратычнага і вялікадзяржаўніцкага.

Усе памянёныя памылкі майго артыкулу зьявіліся ў выніку ня зжытых яшчэ канчаткова рэштак маіх ранейшых узвышэнскіх поглядаў на мову, як на самагодны матэрыял мастацкага твору. Аб'ектыўна гэтыя памылкі сутыкаюцца пэўным чынам з нацыянал-дэмакратычнымі ўстаноўкамі ў галіне мовы, а значыць, і спрыяюць клясаваму ворагу ў яго змаганьні супроць ленінскай нацыянальнай палітыкі.

Усьведамляючы ўсю шкоднасьць дапушчаных мною памылак, я не магу, аднак, пагадзіцца з усімі тымі абвінавачваньнямі, якія высоўваюць мне С. Вязін і Дуброўскі ў „Чырвонай зьмене" (№ 63, 23-III, 1933 г.) і Вішневіч у „Зьвязьдзе" (№ 73, 3—IV 1933 г.), і катэгарычна пратэстую супроць кваліфікацыі майго артыкулу, як контр-рэвалюцыйнага выступленьня. Ні мая грамадзкая, ні мая літаратурная праца не даюць для гэтага ніякіх падстаў, наадварот, уся мая дзейнасьць апошніх год гаворыць пра маё рашучае змаганьне з контр-рэвалюцыйным нацыянал-дэмакратызмам

(артыкул пра А. Бабарэку) і пра маё правільнае ў аснове разуменьне і выяўленьне ў мастацкай творчасьці ленінскай нацыянальнай палітыкі (паэма „Арлянка“).

Спадзяюся, што ў артыкуле пра сучасную літаратурную мову, над якім я цяпер працую, ня толькі больш шырока і поўна раскрытыкую свае памылкі, але і выпраўлю іх.

*З прывітаньнем Пятро Глебка.*

**Ад рэдакцыі:** Рэдакцыя лічыць, што артыкул тав. П. Глебка у № 2 „Заклiку“ „Праца над словам“ зусім ня мае такіх памылковых выказваньняў, якія маглі-б даць падставу для такой суровай крытыкі, а тым больш для сур'ёзных палітычных абвінавачваньняў па адрасе пісьменьніка. Артыкулы Вязіна і Дуброўскага ў „Чырвонай зьмене“ і Вішневіча ў „Зьвязьдзе“, а таксама аналёгічныя артыкулы ў „Рабочым“ і „Лім'е“, якія зьяўляюцца ўзорамі зусім нецярпімай, дробязна-прыдзірлівай, а часткова і проста нядобрасумленнай крытыкі,—заслугоўваюць рашучага асуджэньня.

Што датычыцца артыкулу тав. Вішневіча ў № 73 „Зьвязды“, дык ён надрукаваны памылкова, па недагляду рэдакцыі, пасьля таго, як падобны-ж артыкул быў рэдакцыяй адхілены па паказаных вышэй матывах.

Наша ацэнка артыкулу тав. Глебка акрэсьлівае і нашы адносіны да рэдакцыі „Заклiку“, якая надрукавала гэты артыкул і падпала нападкам за гэта ў паказаных крытычных артыкулах.

(„Зьвязда“ № 87 ад 20/IV 1933 г.)

*РЭДКАЛЕГІЯ*: А. Александровіч (*адказны рэдактар*), Л. Бэндэ. П. Глебка, М. Дзехцяр, Р. Кобец, Н. Ляхаў.
*АДКАЗНЫ САКРАТАР*—С. Нортман

Адрас рэдакцыі: Менск, Савецкая 68, Дом пісьменьніка

Уп. Галоўлітбелу № 238 Заказ № 1711—3000 экз. Гомель „Палесдрук“

## ЗЬМЕСТ № 1



## ЗЬМЕСТ № 2



## ЗЬМЕСТ № 3